◂ № 4 (373) ◂ 31 студзеня ◂ 2014 г.
www.novychas.info

Новы Час



**ФЕТЫСАЎ ІДЗЕ Ў ПАЛІТЫКУ**

Стар. 28

**СЯМ'Ю З ДЗЕЦЬМІ ВЫКІНУЛІ НА ВУЛІЦУ**

Суд Маскоўскага раёна Мінска 14 студзеня 2014 года прыняў беспрэцэдэнтнае рашэнне — выселіць на вуліцу «без прадстаўлення іншага жылога памяшкання» сям'ю з двума непаўналетнімі дзецьмі. Дом, у якім жыла сям'я Завілейскіх, раптоўна ідзе пад знос для забудовы СЗАТ «ЛадаГарант»

Стар. 6

**ГРЫЎНЯ Ў ЧАКАННІ ДЭВАЛЬВАЦЫІ**

Упершыню за час палітычнага крызісу ва Украіне курс украінскай валюты рэзка абваліўся, што можа мець даволі негатыўныя наступствы

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**ЖОЎТАЯ СКРЫНЯ НА ДЗВЯРАХ ПАЛАЦА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Нарыс Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

З НАГОДЫ

# ІХ МАЙДАН І НАШЫ ВЫБАРЫ

*Сяргей ПУЛЬША*

**Пакуль усе, хто цікавіцца навінамі, больш сочыць за Украінай, чым за беларускімі падзеямі. Канешне, у параўнанні з тым, як імклівa разгортваецца сітуацыя ў Кіеве, у нас, нібыта, «нічога не адбываецца». Але ж такая стагнацыя можа прывесці да вельмі непажаданых наступстваў.**




На мінулым тыдні былі зарэгістраваныя ініцыятыўныя групы для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Тэарэтычна, з моманту рэгістрацыі такой групы можна пачынаць ставіць пікеты, збіраць подпісы за вылучэнне, і ўвогуле пачынаць актыўную працу з людзьмі.

У мінулыя суботу-нядзелю адзначыліся толькі два палітычныя суб'екта — гэта грамадзянская кампанія «Гавары праўду!» і Партыя БНФ. Прынамсі ў Мінску «Гавары праўду!» 25 студзеня правяла «прэзентацыйны» пікет сваіх 17 кандыдатаў у кандыдаты ў дэпутаты Мінскага гарсавету. Пікет атрымаўся вясёлы, бо «ГП!» пайшла не да выбаршчыка, а ад выбаршчыка — запрашаючы мінчукоў самім выказаць пажаданні, што б яны хацелі бачыць у горадзе, і якім павінен быў бы быць кандыдат.

Партыя БНФ таксама правяла пікеты 26 студзеня. Дэ-юрэ гэта былі пікеты са зборам подпісаў за кандыдатаў. Дэ-факта пікеты былі прысвечаныя пратэсту супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх вайсковых базаў. ПБНФ разгарнула гэтыя пікеты нягледзячы на тлумачэнне сакратара ЦВК Мікалая Лазавіка пра тое, што «перадвыбарчыя» мерапрыемствы могуць мець толькі адну тэматыку — выбары. Усё іншае падлягае рэгістрацыі згодна закону аб масавых мерапрыемствах.

Усё часцей даводзіцца чуць пра тое, што грамадзяне ля сваіх кватэраў бачаць зборшчыкаў подпісаў. Але ў той жа час усе адзначаюць — гэта не апазіцыйныя зборшчыкі, а з нейкіх іншых структур. Падаецца, што апазіцыя «забіла» на працу з грамадзянамі, і ўся (за невялікім выключэннем) з'ехала на Майдан у Кіеў.

Нізкую актыўнасць апазіцыі можна патлумачыць некалькімі фактамі. Што тычыцца «вуліцы» і пікетаў, то супраць іх грае «генерал Мароз». Сапраўды, у сцюжу не тое што цяжка стаяць у пікетах — «дзеля справы» можна было б ахвяраваць здароўем. Справа ў тым, што ў мінус 20 не кожны грамадзянін высуне нос на вуліцу без пэўнай патрэбы. А таму збор подпісаў у пікетах — складаны.

Што перашкаджае апазіцыянерам хадзіць па кватэрах і размаўляць з людзьмі? Падаецца, што гэтая агітацыйна-інфармацыйная кампанія сутыкаецца з вялізнымі праблемамі.

Першая — мясцовыя выбары — не прэзідэнцкія. Яны менш значныя, тут кампанія «ад дзвярэй да дзвярэй» не вельмі працуе. Часам, народ сам не хоча чуць пра кандыдатаў у тыя дэпутаты, якія «нічога не вырашаюць». А таму агітаваць за іх — даволі складана.

Другая — гэта традыцыйная «слабасць» дэмакратычнага актыву, які зусім не масавы, і не да кожнай кватэры дойдзе. Да таго ж, нягледзячы на ўсялякія «кааліцыйныя» ўтварэнні, кожны на мясцовых выбарах вырашае свае задачы. Прыклад перад вачыма — нягледзячы на ўдзел у кампаніі «Народны рэферэндум», Партыя БНФ на пікетах збірала подпісы супраць расійскіх войскаў. «Талака» працуе хто дзе — хто збірае подпісы за адмену новага падатку на аўтамабілі, а хто раскручвае «праймерыз» у Бабруйску. Карацей, нават унутры кааліцый ёсць свае рухі і плыні, якія скарыстоўваюць кампанію так, як ім хочацца, а не дзеля нейкіх агульных мэтаў. Усё гэта «раздрабняе» і без таго нямасавы актыў.

Трэцяя — асабістая «млявасць і абыякавасць да жыцця» тых самых «прафесійных зборшчыкаў подпісаў». Сябры дэмакратычнага актыву ўжо сабаку з'елі на гэтай працэдуры, а для вылучэння кандыдатам у дэпутаты нават абласнога савета трэба сабраць усяго толькі 150 подпісаў. Гэта не сто тысяч на прэзідэнцкіх выбарах. І сабраць 150 подпісаў нават адзін «прафесійны зборшчык» здольны, самае вялікае, за тыдзень.

Наступствы такой «млявасці і абыякавасці да жыцця» могуць быць для апазіцыі вельмі сур'ёзныя. Калі «расслабіцца» зараз, то ў выніку можна не падвысіць папулярнасць, як гэта плануюць зрабіць дэмсілы на мясцовых выбарах, а страціць яе (нягледзячы на тое, што страчваць там ужо няма чаго). Нягледзячы на ўсю «непапулярнасць» і на няіснасць» выбараў, асабліва ў мясцовыя Саветы, народ усё ж чакае хоць ад кагосьці «дзвіжухі» і «крэатыву». Гэтыя чаканні выяўляюцца і ў досыць добрай народнай цікаўнасці да тых пікетаў, якія дэмакратычныя сілы ўсё ж здолелі паставіць на мінулых выходных.

Карацей, народ прагне «дзвіжухі» — як у Кіеве. Але нашы палітыкі пакуль гэтую прагу задаволіць не могуць. Бо яны самі ўсе думкамі ў кіеўскіх падзеях.

А між іншым, з такой драбязы і складаюцца «Майданы».

Пасля Майдана–2004 я размаўляў са сваімі ўкраінскімі сябрамі-калегамі на тэму, у чым феномен гэтага дзейства? Чаму ўкраінцы раптам узялі і выйшлі абараняць вынікі выбараў? Чаму ў іх раптам прачнулася грамадзянская самасвядомасць?

«Дружа, якое «раптам»?» — рабілі вялікія вочы ўкраінцы. «А як жа акцыі «Украіна без Кучмы»? А як жа пікеты памяці Георгія Гангадзэ? А як жа мітынгі і кампаніі «Кучму гэць»? Усё гэта было падрыхтоўкай да таго, што было зроблена ў 2004 годзе. І хіба да Майдану ніхто не рыхтаваўся? Хіба палаткі і валёнкі для пратэстуючых з неба зваліліся? Не, даражэнькі, падрыхтоўка была грунтоўная. І рыхтаваўся гэты Майдан не адзін год — тымі ж самымі акцыямі «Кучму гэць» і іншымі», — адказвалі мне.

Што Майдан–2014 таксама быў «спантанным і непадрыхтаваным» — я ў гэта проста не веру. Інакш навошта Клічко стварыў «Удар»? Навошта розныя партыі надавалі такую ўвагу парламенцкім выбарам, што даходзіла нават да боек і захопаў камісій? Навошта на Хрэшчаціку ледзь не год (а можа, і больш за год) стаяў пікет з патрабаваннем свабоды для Юліі Цімашэнкі? Чаму «Волю Юлі» рэгулярна патрабавалі не толькі Кіеў, але і рэгіёны?

Украінцы вельмі ціхенька і паступова вырошчвалі свой «новы Майдан», не азіраючыся нават на беларускую «Плошчу». І яны гэты Майдан вырасцілі. А нашы дэмакратычныя дзеячы, «закапаўшыся ў Майдан» і ігнаруючы мясцовыя падзеі, рызыкуюць нават не пасадзіць зерне, з якога вырасце аналагічная беларуская сітуацыя.

ПОШУК

# ЗНАЙСЦІ ЧАЛАВЕКА

**Месцазнаходжанне зніклага ў Мікашэвічах журналіста дагэтуль невядомае. Пра гэта распавёў ГА «БАЖ» следчы па асабліва важных справах Лунінецкага раённага аддзела Следчага камітэта Сяргей Завадскі.**



«З прафесійнай дзейнасцю гэта не звязана адназначна. Але пакуль нічога новага не з'явілася. Інфармацыі пра месцазнаходжанне Аляксандра Ганісеўскага няма».

Па словах следчага, мінімальны тэрмін папярэдняга следства — 2 месяцы, «а далей ужо будзе відаць».

На пытанне, ці тыповая гэта справа, Сяргей Завадскі адказаў станоўча. «Раён у нас спецыфічны тым, што вельмі шмат людзей выязджае ў Расійскую Федэрацыю на сезонныя работы, якія часам доўжацца гадамі. Таму ў нас людзей абвяшчаюць без вестак зніклымі вельмі часта. Часам людзі знаходзяцца, часам — не», — дадаў следчы.

Аляксандр Ганісеўскі скончыў факультэт журналістыкі БДУ, але жыў і працаваў у Маскве, вёў блог на «Эхо Москвы».

Паведамленне пра знікненне распаўсюдзіў на сваім сайце беларускі пошукава-выратавальны атрад «Анёл». Па інфармацыі атраду, Ганісеўскі знік 28 снежня ў горадзе Мікашэвічы (Брэсцкая вобласць). У дзень знікнення ён пайшоў нібыта ў краму, не захапіўшы з сабой дакументаў і мабільнага тэлефона.

Сваякі зніклага казалі, што сур'ёзных канфліктаў напярэдадні знікнення Аляксандра ў сям'і не было. З Масквы ён прыехаў некалькі месяцаў таму дапамагаць даглядаць бацьку, які нядаўна перажыў інсульт.

Па факце знікнення завялі крымінальную справу, вядуцца следчыя дзеянні.

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

ВЫБАРЫ

# АГП ВЫЗНАЧЫЛАСЯ

Сяргей ПУЛЬША

**АГП нарэшце вызначылася з фарматам удзелу ў кампаніі па выбарах у мясцовыя саветы. Палітрада 29 студзеня засядала каля пяці гадзінаў.**

Па словах лідара АГП Анатоля Лябедзькі, не толькі партыя, але і грамадства, і іншыя палітычныя сілы стаяць перад няпростым выбарам. «Удзельнічаць у гэтай кампаніі — амаральна, а не ўдзельнічаць альбо байкатаваць — бессэнсоўна», — азначыў дылему палітык.

Таму АГП вырашыла ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы прыкладна гэтак жа, як удзельнічала ў парламенцкіх выбарах 2012 года. АГП працягвае кампанію «За сумленныя выбары дзеля лепшага жыцця». Гэта значыць, што АГП вылучае не кандыдатаў у дэпутаты, а «спікераў», якія праводзяць агітацыю, каб патлумачыць народу, што свабодных сумленных выбараў няма, і гэта ёсць тупік. Краіна не можа разлічваць на перамены, пакуль няма сумленных выбараў.

Разам з тым, змянілася заканадаўства. Зараз забароненая агітацыя за байкот. Таму АГП проста, па словах Лябедзькі, «не будзе заклікаць выбаршчыкаў удзельнічаць у такіх выбарах». «Тым людзям, якіх улада будзе прымушаць да ўдзелу ў выбарах, заганяць сілком на ўчасткі, мы кажам: «Калі вы не можаце не прыйсці на выбарчы ўчастак — ідзіце, вазьміце бюлетэнь, і на гэтым бюлетэні напішыце: «Патрабую сумленных выбараў», — кажа Лябедзька.

Намеснік старшыні АГП Леў Марголін заклікаў людзей фатаграфаваць такія бюлетэні, выкладваць здымкі ў інтэрнэт альбо дасылаць у АГП.

Нядаўна Аляксандр Лукашэнка заявіў, што жадаў бы, каб 75% выбаршчыкаў прынялі ўдзел у галасаванні. Таму, па ягоных словах, адміністратыўны рэсурс будзе ўключаны на поўную.

Яшчэ адно адрозненне сённяшніх мясцовых выбараў ад мінулых парламенцкіх. У 2012 годзе «спікеры» АГП зняліся з выбараў перад пачаткам галасавання. Зараз рэгламент для іх менш жорсткі. «Акрамя агульных партыйных мэтаў ёсць яшчэ і прыватныя мэты. Некаторыя, асабліва гэта тычыцца моладзі, хочуць заваяваць вядомасць на сваіх акругах. Некаторыя спрабуюць вырашыць мясцовыя праблемы. Таму, калі чалавек адчувае, што для яго карысней прайсці шлях да канца, значыць, гэта ягонае права. Калі лічыць, што яму трэба зняцца, то ён гэта зробіць», — патлумачыў Леў Марголін.

Зараз у АГП налічваецца 150 «спікераў». Падчас агітацыі яны будуць уздымаць не толькі пытанне сумленнасці і справядлівасці выбараў, але і вызвалення палітвязняў. Будуць збіраць подпісы за адмену новага падатку на аўто і адначасова — за адстаўку ўрада. А рэгіянальныя структуры АГП будуць засяроджвацца на лакальных праблемах: для кожнай вобласці распрацаваныя праграмы рэгіянальнага развіцця, што павінна паўплываць на агульную вядомасць і папулярнасць АГП у краіне.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПІКЕТ ЗАБАРАНІЛІ

**Баранавіцкі гарвыканкам забараніў прафсаюзнаму актывісту Рыгору Грыку правесці 26 студзеня пікет пад лозунгамі «Дзеянні ўлады і законы РБ — пад грамадзянскі кантроль».**

— У Баранавічах актыўныя грамадзяне неадназова збіралі подпісы жыхароў горада супраць росту коштаў на жыццё і паслугі, гандлю няякаснымі спіртнымі напоямі, за павышэнне заробкаў і пенсій, добраўпарадкаванне гарадскіх паркаў і дарог, за змены выбарчага заканадаўства, будаўніцтва крамы на праспекце Машэрава і вуліцы Гаевай, разліковага цэнтра каля прыпынку па вул. Фабрычная і г.д. Аднак чыноўнікі не спяшаюцца выконваць пажаданні людзей. Таму сваім пікетам я хацеў звярнуць увагу нашых грамадзян, што чыноўнікі горада недастаткова і несвоечасова рэагуюць на звароты і прапановы людзей. Але мне чарговы раз незаконна забаранілі правядзенне пікета, нягледзячы на тое, што я не толькі заключыў дамовы з паліклінікай, ЖКГ і міліцыяй, але і выканаў усе патрабаванні закону аб масавых мерапрыемствах, — паведаміў Рыгор Грык.

Прычым аб забароне пікета актывісту стала вядома не з адказу гарвыканкама, які Рыгор Грык так і не атрымаў нават да 26 студзеня, а пасля размовы грамадскага актывіста з намеснікам начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі ГАУС маёрам Паўлам Кульгавікам.

Прафсаюзны актывіст Рыгор Грык мае намер скардзіцца на незаконныя дзеянні гарвыканкама ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру.

**spring96.org**

СУД

# ПЕНСІЯНЕРАМ АДМОВІЛІ

Марат ГАРАВЫ

**27 студзеня ў Бабруйску суддзя Марына Шалягіна не дапусціла ў судовы працэс прадстаўніка пенсіянерак Валянціны Каваленка і Любові Санкевіч.**

6 студзеня яны звярнуліся ў суд са скаргай на Бабруйскі гарвыканкам, які 5 снежня адмовіў жанчынам у праве на пікетаванне. Пенсіянеркі хацелі прыцягнуць увагу да праблемы адпісак з дзяржаўных структураў і ад дэпутатаў парламенту на свае скаргі і скаргі сваякоў. Жанчыны збіраліся выйсці на пікетаванне з плакатамі: «Дэпутаты Жанна Мішур і Мікалай Плаксіцкі не абараняюць правы і інтарэсы народа, а дагаджаюць чыноўніцтву!», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак».

Раніцай 27 студзеня на пачатку пасяджэння суда Каваленка і Санкевіч заявілі хадайніцтва, каб у судовы працэс, згодна з артыкулам 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, быў допушчаны іх прадстаўнік. Прычым паўнамоцтвы свайго прадстаўніка жанчыны пацвердзілі не толькі самі, але і праз натарыяльна засведчаны даверанасці.

Суддзя, з улікам меркавання прадстаўнікоў Бабруйскага гарвыканкаму — начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры, спорту і па справах моладзі Мікалая Балюка і юрысконсульта Валянціны Дагокер, — адмовіла заяўнікам.

Пенсіянеркі пакінулі залу судовых пасяджэнняў, бо без юрыдычнай дапамогі не бачылі магчымасці адстойваць свае правы. Яны пакінулі ў кнізе заўваг і прапаноў суда адпаведны запіс і вырашылі звярнуцца ў вышэйшыя судовыя інстанцыі са скаргамі аб незаконных захадах суддзі Марыны Шалягінай, якая, на меркаванне жанчын, сваім дзеяннямі стварала няроўныя ўмовы для бакоў у працэсе.

ПАМЯЦЬ

# ЗАПАВЕТ ГЕНАДЗЯ ГРУШАВОГА

**28 студзеня сышоў у лепшы свет кіраўнік фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы. Ён пакінуў свайму сябру Марату Гаравому (журналісту НЧ) свой запавет беларускаму грамадству. Запавет Генадзь Грушавы прасіў апублікаваць пасля свайго сыходу.**

**Мы выконваем яго просьбу:**



*«Калі амаль пяць гадоў таму я даведаўся, што ў мяне лейкемія — парушэнне структуры ДНК, — я сказаў сабе: мне ў жыцці пашанцавала, бо я памру ад таго, з чым змагаўся ўсё жыццё. Але я не дам Чарнобылю аніякіх шанцаў. Я хацеў бы скончыць жыццё на той бойцы, у якую ўступіў 26 красавіка 1986 года і на якой знаходжуся апошнія 27 гадоў. Я з тымі, для каго працаваў пасля Чарнобыля. Мой сыход — лагічнае завяршэнне майго жыцця. Такі сыход дараваны мне Богам і лёсам. І я ўспрымаю яго як салдат на вайне, бо лепш загінуць падчас атакі на фронце, чым ад малярыі ў тылу. Быць можа, сваім лёсам я каго-небудзь пераканаю, што ў Беларусі няма будучага, калі ігнаруюцца наступствы Чарнобыля. Нельга спадзявацца, што ад гэтай трагедыі можна схавацца ці ўцячы. Вось чаму дзяржава павінна займацца Чарнобылем самым сур'ёзным чынам. Толькі тады нацыя мае нейкую надзею на выратаванне. У свой час я змагаўся за постчарнобыльскую Беларусь. А сёння палова Еўропы змагаецца за мяне. Еўрапейцы даюць мне тыя лекі, якія я не мог даць хворым беларусам. І гэты аванс я павінен адпрацаваць напоўніцу…»*

Гэты цудоўны чалавек і грамадзянін, які абараняў нас і нашых дзетак ад Чарнобыльскай навалы, пакінуў пасля сябе светлую памяць амаль у кожнай беларускай сям'і...

Шчырыя спачуванні родным і сваякам...

ВЫСТАВА

# АМЕРЫКА ПРАЗ КОМІКСЫ

**На Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, якая пройдзе з 5 па 9 лютага 2014 года ў выставачным цэнтры «Белэкспа», Амбасада ЗША ў Рэспубліцы Беларусь прадставіць на сваім стэндзе лепшыя ўзоры класічных амерыканскіх коміксаў.**

Дэвіз цяперашняй экспазіцыі — «Даведайся пра Амерыку па коміксах!». На стэндзе будуць прадстаўлены публікацыі такіх буйных выдавецтваў, як Marvel, DC Comics, Dark Horse Comics, Image Comics, IDW Comics, Arche, EC, а таксама незалежных і альтэрнатыўных выдаўцоў.

Супергероі, фантастыка, дэтэктывы, вестэрны і любоўныя прыгоды — усё, што захоплівала розумы некалькіх пакаленняў амерыканцаў і фармавала ўнікальную субкультуру ЗША на працягу амаль 150 гадоў, будзе прадстаўлена ва ўсёй разнастайнасці жанраў і фарматаў.

Спецыяльны госць — Джош Элдэр (Josh Elder), аўтар коміксаў і графічных наваў для «Лос-Анджэлес таймс», «Бостан Глоўб» і яшчэ больш чым сарака выданняў па ўсёй Амерыцы. Элдэр рэгулярна праводзіць семінары і майстар-класы па мастацтве стварэння коміксаў у школах, бібліятэках і універсітэтах Злучаных Штатаў.

Госці выставы змогуць перагартаць старонкі вядомых коміксаў, пагутарыць з прафесіяналам у гэтай галіне і паспрабаваць сябе ў якасці суаўтараў гісторыі ў малюнках, якая будзе ствараца наўпрост на амерыканскім стэндзе на працягу ўсяго часу працы выставы. Акрамя таго, наведвальнікаў чакае традыцыйная кампутарная віктарына, прызы і сувеніры, гульні, дэманстрацыя фільмаў, а таксама карысная інфармацыя аб культурных і адукацыйных праграмах амбасады ЗША ў Беларусі.

**Паводле прэс-службы Амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ХАКЕЙ ПАД ЦЭНЗУРАЙ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Для чаго ў Беларусі робіцца Чэмпіянат свету па хакеі? «Каб усе «ахнулі», — лічыць Аляксандр Лукашэнка. Канешне ж, чэмпіянат — гэта прамоцыя краіны ў свеце, гэта вядомасць і імідж, гэта інтарэс да Беларусі. Але, калі так пойдзе далей, то мара Рыгоравіча не здзейсніцца: замежнікі пра краіну не даведаюцца, і «ахаць» не будуць.**



Чаму не даведаюцца? Сюды ж прыедуць тысячы заўзятараў хакею і сотні замежных журналістаў? Ну, заўзятары яшчэ будуць распавядаць сябрам і знаёмым пра дзіўную краіну, у якой ім даваліся пабыць: як яны былі мільянерамі (у беларускіх рублях, зразумела) і сотні тысяч трацілі на сувеніры. А вось замежныя журналісты будуць пісаць толькі пра тое, як, напрыклад, Канада перамагла ў хакей Швецыю. І ані слова пра Беларусь.

Чаму? Ды таму, што мы самі паставілі сусветным СМІ такія ўмовы! Даведаўшыся пра іх, некаторыя замежныя «акулы пяра» адмаўляюцца ехаць у Беларусь на Чэмпіянат свету па хакеі. У прыватнасці, пра гэта заявілі фінская тэлерадыёкампанія YLE, а таксама выданні «Helsingin Sanomat» і «Ilta Sanomat».

Аказваецца, беларускія арганізатары чэмпіянату патрабуюць: журналісты, якія прыбылі па візах, выдадзеных для асвятлення Чэмпіянату свету па хакеі, не могуць пісаць пра іншыя падзеі ў краіне.

Фінскія фэны «сінявокай» у разгубленасці. А як жа трактар «Беларус»? Як жа зубры? Як жа Мірскі замак і знакамітая на ўвесь свет згушчонка з Глыбокага? Гэта ж значна важней, чым тое, што два хакеісты на пляцоўцы дзёўбнулі адзін аднаго клюшкамі! Яны яшчэ не аднойчы дзёўбнуць у іншых месцах, а вось паспрабаваць апісаць незабыўны смак прадукцыі «Камунаркі» — гэта выпадае раз у жыцці!

«Мы павінны быць упэўненыя, што журналісты змогуць працаваць у адпаведнасці з нармальнымі заходнімі прынцыпамі. Міжнародная федэрацыя хакея павінна падбаць пра тое, каб забяспечыць нармальную працу», — заявіў спартыўны дырэктар YLE Аце Яскелайнен.

Але, на жаль, рэпартаж фінскага спартовага аглядальніка з самай буйной свінафермы ў Беларусі наш бок наўрад ці выпусціць з краіны. 23 студзеня Лукашэнка падпісаў указ «Аб выкарыстанні дзяржаўнымі органамі і іншымі дзяржаўнымі арганізацыямі тэлекамунікацыйных тэхналогій», на падставе якога ствараецца так званая рэспубліканская воблачная платформа для размяшчэння праграмна-тэхнічных сродкаў, інфармацыйных рэсурсаў і інфармацыйных сістэм дзяржструктур.

Новы ўказ пашырае паўнамоцтвы Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце, які цяпер мае права не толькі праслухоўваць электронныя паведамленні і трафік беларусаў, але і ажыццяўляць тэхнічны кантроль «за пропускам міжнароднага трафіку і далучэннем да сетак электрасувязі замежных дзяржаў».

«Пад пропускам міжнароднага трафіку разумеецца дзейнасць, накіраваная на перадачу паведамленняў электрасувязі (уключаючы тэлефонныя выклікі, тэлеграфныя паведамленні, службовыя і інфармацыйныя паведамленні, сеткавыя пакеты сетак перадачы дадзеных без абмежаванняў па карыстальніцкіх, транспартных і сеткавых пратаколах) паміж сеткамі электрасувязі Рэспублікі Беларусь і сеткамі электрасувязі замежных дзяржаў, а таксама паміж сеткамі электрасувязі замежных дзяржаў, калі перадача паведамленняў электрасувязі з адной замежнай дзяржавы ў другую ажыццяўляецца праз сеткі электрасувязі, размешчаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў дакуменце.

Гэта значыць, ААЦ можа слухаць і фільтраваць любыя паведамленні замежнікаў з Беларусі. Бог з імі, не напіша чаго-небудзь фінскі журналіст пра выключныя і надзейныя аўтобусы МАЗ — можа, нам гэта і не трэба. Але, такім чынам, пад кантроль можна паставіць і ўсялякія фанацкія блогі, допісы з чэмпіянату ў сацыяльныя сеткі Fasebook і Twitter, забаніць «ВКонтакте» і «Одноклассников». І тады ўжо не толькі журналісты, але і звычайныя аматары праз сеціва не здолеюць распавесці пра тое, як ім спадабалася піва «Аліварыя». Будзе толькі хакей, і толькі хардкор!

А дакладней, з Беларусі — толькі добрыя навіны!

Цікавае і тое, што слухацца можа інфармацыя «паміж сеткамі электрасувязі замежных дзяржаў, калі перадача паведамленняў электрасувязі з адной замежнай дзяржавы ў другую ажыццяўляецца праз сеткі электрасувязі, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі». Адразу ўзнікае пытанне, а ці не быў у Мінску Сноўдэн? Ці не ператвараецца наш ААЦ у аналаг амерыканскай АНБ? Скажам, задумаў Пуцін пасакрэтнічаць з Меркель, а тут — тэлефонны дрот праз Беларусь ідзе. І нейкі голас з характэрным акцэнтам кажа ў слухаўку: «Уладзімір Уладзіміравіч і Ангела, ізвініця, што я вас перабіваю і адключаю, але ў мяне тэрміновы званок з Жытоміра!»

Хаця ёсць яшчэ адзін складнік, які можа папсаваць нам свята. Чэмпіянату свету па хакеі, які мы так разрэкламавалі, на які мы так разлічваем, і для якога мы ўжо падрыхтавалі ўсю «сувенірку», у Беларусі можа і не быць. І гэта не жарт. Бо мы ж разлічвалі, што з амаль кожнага турыста мы напачатку возьмем 150 еўра — столькі каштуе беларуская віза, напрыклад, у Літве.

Старшыня Фінскай федэрацыі хакея з шайбай і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакею Калерва Кумола лічыць, што цяперашні візавы рэжым супярэчыць статусу Беларусі як краіны — гаспадыні чэмпіянату свету. «Гэта вельмі сур'ёзны момант. Я не падтрымліваю байкоты, але я за свабоду думкі. Калі Беларусь атрымала права на правядзенне першынства, яны абяцалі, што ўсе змогуць патрапіць у краіну без візы, а таму яны павінны выконваць абяцанні», — заявіў Кумола ў інтэрв'ю тэлерадыёкампаніі YLE.

Калерва Кумола адзначыў, што Міжнародная федэрацыя хакею абмяркуе гэтае пытанне на нарадзе ў лютым, і што ў выключным выпадку першынства можа быць адменена.

Але што значыць «усе без візы»? Гэта значыць, і жук, і жаба, і раней неўязныя ў Беларусь, і розныя дэструктыўныя элементы, і проста жабракі, якія прыпруцца нібыта паглядзець на Чэмпіянат свету, а потым застануцца назаўсёды… Можа, нам яшчэ і мытны кантроль адмяніць — едзь, хто хоча, вазі, што хочаш?

А ці трэба нам тады такі Чэмпіянат свету па хакеі ўвогуле?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВАСІЛЬ ПАРФЯНКОЎ



Яшчэ на аднаго палітвязня стала больш. 28 студзеня Мінскі гарадскі суд разгледзеў і не задаволіў касацыйную скаргу Васіля Парфянкова на прысуд суда Першамайскага раёна сталіцы ад 5 снежня 2013 года і пакінуў у сіле прысуд першай інстанцыі.

Нагадаем, 5 снежня суд прызнаў Парфянкова вінаватым у парушэнні правілаў прэвентыўнага нагляду (арт. 421 Крымінальнага кодэкса): неаднаразовая няяўка для рэгістрацыі ў аддзяленне міліцыі, прыход дадому пасля 20.00. Парфянкова прысудзілі да года пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму з прымусовым лячэннем ад хранічнага алкагалізму па месцы адбыцця пакарання.

У судовым пасяджэнні адвакат актывіста Вольга Безбародкіна заявіла, што рашэнне суда Першамайскага раёна з'яўляецца неабгрунтаваным, паколькі гэты прысуд быў вынесены за актыўную грамадзянскую пазіцыю, а ў аснову судовага рашэння былі пакладзены толькі паказанні сведак-міліцыянтаў. Па словах адваката, падчас суда першай інстанцыі яны настолькі «блыталіся ў паказаннях», што суду прыйшлося зачытваць іх словы.

Адвакат заявіла хадайніцтва аб правядзенні стацыянарнай наркалагічнай экспертызы, паколькі, на думку Парфянкова, папярэдняе амбулаторнае абследаванне было праведзена «чыста фармальна». Менавіта заключэнне гэтай лабараторнай экспертызы стала падставай для прызначэння Парфянкову прымусовых мер бяспекі і лячэння. Аднак суд адхіліў гэтае хадайніцтва.

Зараз Парфянкоў утрымліваецца ў следчым ізалятары ў Жодзіна (Мінская вобласць). У 2011 годзе Васіль Парфянкоў быў асуджаны ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года. Яго прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, але ў жніўні таго ж года асуджаны выйшаў на волю на падставе ўказа прэзідэнта аб памілаванні.

### АНАСТАСІЯ ДАШКЕВІЧ (ПАЛАЖАНКА)



Анастасія Дашкевіч, жонка Дзмітрыя Дашкевіча, з «Маладога фронту» перайшла ў «Гавары праўду!». На новым месцы Дашкевіч будзе займацца культурнымі і медыйнымі праектамі.

«Я абрала «Гавары праўду!», таму што веру што гэтая каманда здольная да прафесійнай працы, бачу пэўны патэнцыял і буду спрабаваць дапамагчы», — заявіла Дашкевіч.

«Анастасія Дашкевіч — адна з самых унікальных фігур у Беларусі. Я праходзіў з ёй па адной крымінальнай справе, сядзелі ў адной турме. Магу засведчыць, што так годна, як паводзіла сябе гэтая дзяўчынка, мала хто сябе так паводзіў — неверагодныя сіла духу, характар, логіка мыслення», — рады такому пераходу лідар «ГП!» Уладзімір Някляеў.

«Дашкевіч важная для мяне яшчэ і тым, што нясе ў сабе беларускі нацыянальны кампанент, чаго нашай кампаніі крыху не хапае — і ў гэтым нас справядліва вінавацяць. Яна будзе займацца культурнай і медыйнай працай і карэкцыяй кампаніі ў бок нацыянальнага складніку», — дадае Някляеў.

Першым праектам Анастасіі Дашкевіч на новай працы стане цырымонія ўручэння прэмій імя Святланы Навумавай.

### СЯРГЕЙ КАСЦІЦЫН



Напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску беларуская зборная ў гэтым відзе спорту згубіла яшчэ аднаго патэнцыйнага гульца. Беларускі нападаючы омскага «Авангарда» Сяргей Касціцын, па паведамленні омскага выдання «Камерцыйныя весці», стаў грамадзянінам Расіі.

Хакеіст падаў дакументы на атрыманне расійскага грамадзянства ў снежні 2013 года. Расійскае грамадзянства выдаецца пры наяўнасці пасведчання на права жыхарства і рэгістрацыі па месцы жыхарства. Гэта значыць, што ў новым пашпарце Касціцына ёсць адзнака і аб омскай прапісцы.

Атрыманне расійскага грамадзянства азначае, што хакеіст больш не будзе выступаць за зборную Беларусі па хакеі.

Омскае выданне спасылаецца на Упраўленне федэральнай міграцыйнай службы Расіі па Омскай вобласці, якое паведаміла, што «ў адпаведнасці з парадкам спрошчанага прыёму ў грамадзянства спецыялістамі УФМС Расіі па Омскай вобласці ў максімальна кароткія тэрміны былі праведзены неабходныя адміністрацыйныя працэдуры».

Канешне, трэба паслабіць патэнцыйных супернікаў — беларусаў напярэдадні ЧМ па хакеі!

▸ МЕРКАВАННЕ

# Міхаіл Пастухоў: ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ МОГУЦЬ ПРАЙСЦІ НАПРЫКАНЦЫ 2014 ГОДА

Сяргей ПУЛЬША

**Згодна з артыкулам 56 Выбарчага кодэксу, выбары прэзідэнта краіны павінны прайсці не пазней, чым за два месяцы да сканчэння паўнамоцтваў дзеючага прэзідэнта. Гэта значыць, законная дата выбараў — 23 лістапада 2015 года. Але былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў не выключае, што выбары могуць прайсці ўжо ў гэтым годзе.**

### Чаму выбары ў 2014?

«Нічога новага ў датэрміновых выбарах няма, калі сыходзіць з практыкі правядзення прэзідэнцкіх выбараў у 2006 і 2010 гадах. Тады выбары фактычна праводзіліся датэрмінова», — кажа Міхаіл Пастухоў.

Як заўважыў суразмоўца, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, датэрміновыя выбары прэзідэнта праводзяцца толькі ў канкрэтных выпадках, а менавіта: добраахвотнай адстаўкі папярэдняга прэзідэнта, устойлівай нядольнасці кіраўніка дзяржавы выконваць абавязкі па стану здароўя, калі здзяйсненні гэтай асобай дзяржаўнай здрады альбо цяжкага злачынства, а таксама ў выпадку яго смерці.

На думку эксперта, на карысць правядзення датэрміновых выбараў сведчыць шэраг фактараў:

«Перш за ўсё — эканоміка, якая не працуе. Прагнозныя паказчыкі за мінулы год не выкананыя, рубель абясцэньваецца, кошты растуць. Падтрымліваць адносна высокі жыццёвы ўзровень складана нават у бліжэйшай перспектыве».



«Што тычыцца палітычных фактараў, то ў іх ліку можна выдзеліць унутраны і знешні. Унутраны — незадаволенасць палітыкай улады павялічваецца шляхам пагаршэння эканамічнага становішча. Людзі бачаць, што жывем мы горш за суседзяў. Што датычыцца знешняга фактара, то нельга не адзначыць падзеі ў Кіеве, якія развіваюцца дынамічна. Таксама варта адзначыць, што кіраўніцтва Беларусі плануе ўступіць у Еўразійскі эканамічны саюз разам з Расіяй і Казахстанам. Гэта азначае, што Беларусь дэ-факта апынецца пад пратэктаратам Расіі», — кажа Пастухоў.

У выпадку ўваходжання Беларусі ў ЕЭС Лукашэнку прыйдзецца запытваць «дазволу» Крамля на свой пяты тэрмін. А такога дазволу можа і не быць.

«Калі ўлічваць псіхалагічны фактар, то правядзенне датэрміновых выбараў карысна для ўлады, бо і электарат, і апазіцыя апынуцца «ў стане разгубленасці», — лічыць эксперт.

> Датэрміновыя выбары карысныя для ўлады, бо і электарат, і апазіцыя апынуцца «ў стане разгубленасці

### Рэферэндум як падстава для выбараў

Пастухоў нагадвае, што на вышэйшым узроўні ўжо ішла гутарка пра неабходнасць рэферэндуму, звязанага з рэформай судовай сістэмы. Каб злучыць у адно гаспадарчыя і агульныя суды, патрэбны змены ў Канстытуцыю, а іх можна зрабіць толькі праз рэферэндум.

Зразумела, што рэферэндум не абмяжуецца толькі «судовым» пытаннем. «Верагодна, што на яго разгляд можа быць пастаўлена і пытанне аб уваходжанні Беларусі ў той самы Еўразійскі эканамічны саюз. Бо такім уваходам ставіцца пад пытанне суверэнітэт дзяржавы. Ёсць пытанне, наколькі Беларусь застанецца ў ЕЭС самастойным суб'ектам. Відавочна, што ўзмоцніцца эканамічная залежнасць ад Расіі. Расійскі рубель можа стаць адзінай валютай саюза. На тэрыторыю Беларусі ўвойдзе расійскі капітал, які будзе скупляць тут не толькі ўласнасць, але і працоўную сілу. Могуць стаць адзінымі ўзброеныя сілы», — кажа Пастухоў.

Такія пытанні, як страта суверэнітэту, хай і частковая, і магчымая адзіная валюта, павінны быць вырашаны на рэферэндуме. Калі ж ЕЭС запрацуе з 1 студзеня 2015 года, то рэферэндум павінен прайсці не пазней за гэту дату.

Калі будзе прызначаны рэферэндум, то ён пойдзе «паравозам», а прэзідэнцкія выбары — далучаны «вагончыкам». Тады ніхто асабліва не будзе звяртаць увагі на тое, што прэзідэнцкія выбары датэрміновыя.

### Што яшчэ на рэферэндуме?

На рэферэндуме, па меркаванні Пастухова, будзе чатыры-пяць пытанняў, зразумела, найбольш зручных для ўлады. «Некаторыя могуць быць узятыя з ініцыятывы «Народнага рэферэндуму». Магчыма, зноў будзе ўнесенае пытанне і смяротнага пакарання: я сыходжу з таго, што адкладаць гэтае пытанне больш нельга. Беларусь застаецца адзінай краінай на прасторах СНД і Еўропы, дзе смяротнае пакаранне не толькі захоўваецца, але і выконваецца. Канешне, быў рэферэндум 1996 года, але не трэба забывацца, што гэтае пытанне насіла «кансультацыйны» характар. Зараз, я не выключаю, што яно можа стаць «абавязковым пытаннем», — лічыць юрыст.

Можа быць, будзе ўключана і пытанне пра будаўніцтва АЭС у Беларусі. «Зразумела, будаўніцтва АЭС ужо пачалося, але ў нейкай завуаляванай форме, каб народ сказаў «так» «мірнаму атаму», гэтае пытанне можа быць пастаўленае», — мяркуе Пастухоў.

### А калі рэферэндум без выбараў…

А ці можа быць так, што ў 2014 годзе пройдзе рэферэндум, які нібыта пацвердзіць «легітымнасць» Аляксандра Лукашэнкі і яго падтрымку народам, і на гэтай хвалі адбудзецца яго пераабранне ў 2015-м годзе?

Гэты сцэнар таксама верагодны, лічыць Міхаіл Пастухоў. «Так, рэферэндум можа стаць асновай для наступнага пераабрання Аляксандра Лукашэнкі ў 2015 годзе. Але складанасць у тым, што ў сувязі з уваходжаннем краіны ў ЕЭС кіраўніку Беларусі трэба будзе атрымаць падтрымку і згоду Расіі», — лічыць Пастухоў.

Калі ж напрыканцы 2014 года нас чакае «чысты» рэферэндум, не аб'яднаны з прэзідэнцкімі выбарамі, на ім магчымы і «завал» пытання пра ўваходжанне Беларусі ў ЕЭС. Тады на ўзмоцненай рэферэндумам «легітымнасці» дзеючага кіраўніка дзяржавы будуць праведзеныя выбары 2015 года.

▾ ЛІСТ З ТУРМЫ

## Мікалай Статкевіч: «ТРЫМАЙЦЕСЯ — УСЁ БУДЗЕ ДОБРА!»

**Экс-кандыдат у прэзідэнты, палітычны зняволены Мікалай Статкевіч даслаў ліст галоўнаму рэдактару НЧ Аляксею Каралю. Дата адпраўкі з Магілёва, пазначаная на паштовым штэмпелі, — 22 студзеня.**

**У сваім лісце лідар сацыял-дэмакратаў выказаў сваё меркаванне па шэрагу пытанняў развіцця палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Прыводзім тэкст цалкам.**



«Тыдзень таму напісаў табе ў адказ, але мой ліст канфіскавала цэнзура. Не ведаю, што ў ім магло падацца крамольным. Таму мушу паўтарыць раней напісанае ў скарочаным выглядзе. Але ёсць і станоўчае ў гэтым — магу яшчэ і падзякаваць табе за тое, што размясціў (у НЧ — рэд.) маё калляднае віншаванне (смайлік).

Рады за сваіх калег з SPD (Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі — рэд.), якія, прайграўшы выбары, выйгралі перамовы, і ўдзячны ім за тое, што яны рабілі заявы ў маю абарону. Але я супраць таемнай дыпламатыі ў такіх справах. Тут болей прыдатныя іншыя сродкі. Ды і параўнанне маёй справы са справай Хадаркоўскага лічу некарэктным, бо я не бізнесмен, а кандыдат у прэзідэнты. І ніколі не падпішу ніякага «прашэння». Я паклікаў людзей на плошчу, і дзясяткі тысячаў, пераадолеўшы страх, прыйшлі. Як ім цяпер можна здрадзіць? Не ведаю, колькі мне прыйдзецца сядзець, хоць ужо болей за два гады мяне перыядычна «вось-вось вызваляюць» некаторыя аналітыкі (смайлік). Буду сядзець столькі, колькі спатрэбіцца.

Крыху раздражнее перыядычны енк некаторых грамадскіх дзеячаў па «загубленай» лібералізацыі 2008–2010 гадоў. Нешта я не прыгадваю тае лібералізацыі. У галаву толькі прыходзяць мясцовыя выбары вясны 2010 года. Дарэчы, тут, у Магілёве, нашы палічылі тады прагаласаваўшых «па галовах». Атрымалася ўдвая менш, чым па пратаколах. Яшчэ магу прыгадаць прысуд Аўтуховічу таксама той жа вясной. Ды і асабістыя ўражанні засталіся. Нешта я не прыгадаю з «даліберальных» гадоў, каб асуджанага да адміністратыўнага арышту амаль суткі безвыладна трымалі ў «стакане», як мяне пасля 1 мая 2008 года. Альбо, каб затрыманых на мірным пікеце збівалі ў міліцыі, як гэта было 16 верасня 2009 года ў Цэнтральным РУУС. Мо тыя дзеячы збуталі лібералізацыю з паляпшэннем умоў сваёй працы над міжнароднымі праектамі (смайлік)? Ці жывуць у нейкай іншай краіне.

Мае віншаванні і найлепшыя пажаданні табе, тваім блізкім і калегам. Трымайцеся — усё будзе добра (смайлік).

З павагай і ўдзячнасцю,
Мікола».

ГРОШЫ

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ: ПАТРЭБНАЯ ЦІ НЕ?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА




**Яшчэ на сустрэчы з галоўнымі рэдактарамі беларускіх СМІ Аляксандр Лукашэнка хваліўся, што не дапусціў дэвальвацыі — як бы на ёй ні настойвалі няўрадавыя эканамісты і эксперты.**

Па словах кіраўніка дзяржавы, зрабіў ён гэта больш з палітычных прычынаў: «Каб паказаць, што гэта нікчэмныя фінансісты і эканамісты, якія штурхалі дзяржаву і народ (і людзі мяне да гэтага штурхалі, і прадпрыемствы, і многія члены ўрада, калі не ўсе) да дэвальвацыі нацыянальнай валюты».

## Што раяць іншыя

«Палітычны складнік» рашэння прэзідэнта зразумелы — заўсёды ёсць жаданне паказаць, што ты разумнейшы. Часам палітычныя рашэнні супярэчаць здароваму сэнсу. У эканоміцы такое пярэчанне можа дорага каштаваць.

МВФ абнародаваў свае рэкамендацыі па стабілізацыі эканомікі Беларусі па выніках пятага постпраграмнага маніторынгу беларускай эканомікі, які місія МВФ правяла ў кастрычніку 2013 года. І адной з такіх рэкамендацый з'яўляецца больш рэзкая дэвальвацыя нацыянальнай валюты.

У прыватнасці, МВФ рэкамендаваў уладам не праводзіць далейшага павышэння заработнай платы ў 2013–2014 гадах, з тым, каб абмежаваць попыт і аднавіць канкурэнтаздольнасць; рэзка скараціць дырэктыўнае крэдытаванне для абмежавання росту крэдыту і ўмоўных абавязацельстваў і памяншэння знешніх дысбалансаў; правесці комплексныя, далёка ідучыя структурныя рэформы ў мэтах павышэння тэмпаў устойлівага эканамічнага росту; істотна скараціць маштабы інтэрвенцый на валютным рынку і зрабіць больш жорсткай грашова-крэдытную палітыку для палягчэння карэкціроўкі абменнага курсу і плацёжнага балансу.

Тое, што ў 2013 годзе беларускія ўлады дэвальвавалі курс рубля ў адносінах да долара на 10 з нечым адсоткаў, на думку МВФ, з'яўляецца недастатковым. «Гнуткасць абменнага курсу была абмежаванай... Курс беларускага рубля, марчыма, завышаны», — гаворыцца ў дакуменце.

Адміністратыўная завышанасць курсу беларускага рубля (з-за жадання першай асобы прадэманстраваць, хто больш разумны), грае з прадпрыемствамі злыя жартачкі. Беларуская прадукцыя на знешніх рынках занадта дарагая, што прыводзіць да дысбалансу ў імпарце-экспарце. А значыць, да адтоку валюты з краіны.

## Для чаго дэвальваваць?

МВФ адзначае, што ў перыяд пікавага ціску ў чэрвені-ліпені 2013 Нацбанк Беларусі праводзіў значныя інтэрвенцыі на валютных рынках з мэтай падтрымкі нацыянальнай валюты, і раіць «скараціць валютныя інтэрвенцыі да мінімуму».

«Рэзкае скарачэнне інтэрвенцый спрыяла б неабходнаму зніжэнню курсу беларускага рубля, што, у сваю чаргу, прывяло б да памяншэння знешніх дысбалансаў», — гаворыцца ў дакуменце МВФ.

Характэрна, што беларускія ўлады з меркаваннем фонду ў цэлым згодныя, але... Баяцца чарговага абвалу на фінансавым рынку краіны. Як паведамляе МВФ, «афіцыйныя органы прызналі неабходнасць гнуткага абменнага курсу, але выступалі за павольныя тэмпы зніжэння курсу. Улады па-ранейшаму былі глыбока занепакоеныя магчымай рэакцыяй рынку, сцвярджаючы, што чаканні шырокай грамадскасці працягваюць фарміравацца на аснове досведу крызісу 2011 года, і што любыя сур'ёзныя змены абменнага курса могуць выклікаць рэзкае падзенне курсу беларускага рубля», — гаворыцца ў дакуменце МВФ.

## Дабро ці шкода?

І МВФ, і ўрад прызнаюць неабходнасць дэвальвацыі беларускага рубля. І не таму, што ён такі «кепскі», — проста ён насамрэч пераацэнены. То бок, на 1 долар у заходніх краінах можна набыць больш, чым у нас на 9 570 рублёў.

Гэты дысбаланс павінен быць выпраўлены. Тым больш, што сітуацыя з валютнымі запазычанасцямі ў нас ахавая.

Згодна са статыстычнай справаздачай Нацбанка, у Беларусі аб'ём запазычанасці па крэдытах, выдадзеных банкамі юрыдычным асобам у замежнай валюце, на 1 студзеня 2014 года склаў $13,611 мільярда, павялічыўшыся на 28,6% за 2013 год. У снежні прырост валютных крэдытаў паскорыўся да 1,9% з 0,8 % у лістападзе.

Праблемная валютная запазычанасць склала $135,5 мільёна, павялічыўшыся ў 2,2 разы за 2013 год.

Адначасова не ўсё добра і з рублёвымі крэдытамі. Аб'ём запазычанасці па крэдытах у нацыянальнай валюце на 1 студзеня 2014 года склаў 75,974 трыльёна рублёў, павялічыўшыся на 6,9% за 2013 год. Праблемныя рублёвыя крэдыты на 1 студзеня склалі 856,2 мільярда рублёў, павялічыўшыся ў 2,8 разы за 2013 год.

Відавочна, што аслабленне нацыянальнай валюты дазволіла б больш лёгка аддаваць рублёвыя крэдыты, пераводзячы сродкі з замежных грошай у нацыянальную валюту. Адначасова з гэтага «пераводу» з'явілася б валюта на тое, каб аддаваць і валютныя крэдыты. Бо зараз, з-за таго самага «дысбалансу» ў экспарце-імпарце, шмат хто проста не ведае, дзе ўзяць тыя ж долары, каб разлічыцца па валютных пазыках.

## Палітыка супраць эканомікі?

Відавочна, што «палітычнае рашэнне» аб «нядопуску» чарговай дэвальвацыі ў 2013 годзе згуляе злыя жарты з эканамічнымі паказчыкамі краіны. З-за «палітычнага рашэння» мы шукаем валюту іншым чынам.

Як піша МВФ, у кастрычніку Нацбанк і ўрад узгаднілі план, які прадугледжвае пачатак правядзення частковых рэформаў у шэрагу ключавых абласцей. Гэты план прадугледжвае, разам з іншымі мерамі, прыватызацыю ў памеры каля 4,5 мільярда долараў ЗША ў 2014 годзе (за кошт продажу неплацежаздольных і малых прадпрыемстваў і рэалізацыі мінарытарных пакетаў акцый).

Але мары на такую «валюту ад прыватызацыі», хутчэй за ўсё, марамі і застануцца, бо «прыватызацыя малых і неплацяжаздольных прадпрыемстваў» мала цікавіць інвестараў. Таму вельмі сумнеўна, што ў 2014 годзе за кошт такой прыватызацыі мы атрымаем 4,5 мільярда долараў.

Ужо які па ліку год мы ўсё плануем паступленні ад прыватызацыі ці ў $2,5 мільярда, ці ў $4,5 мільярда, а грошыкі да нас усё не ідуць. Бо тое, што цікавіць інвестараў, мы не прадаём, а тое, што мы прапануем набыць, не цікавае інвестарам. «Прыватызацыйны пакет» 2014-га года таксама наўрад ці інвестараў зацікавіць.

Чым далей мы адкладаем дэвальвацыю з «палітычных рашэнняў», тым больш назапашваецца дысбаланс унутранага і знешняга гандлю. Тым складаней прадаць беларускую прадукцыю, бо, напрыклад, трактар вытворчасці 2013 года ніхто не купіць па тым жа коште, што і трактар 2014-га.

А чым больш назапашваецца дысбаланс, і немагчымасць прадаць прадукцыю, то больш балючымі будуць наступствы немінучай дэвальвацыі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# АД ПРЫВАТНІКАЎ ПАЗБАВІЛІСЯ



**Лукашэнка любіць пагаманіць пра харчовую бяспеку краіны. А Мясніковіча больш турбуюць фінансы галіны. Бо без грошай на рахунках арганізацый і ў кішэнях сялян харчовая бяспека застанецца хімерай. Як гэта ўжо было напачатку 1990-х гадоў, калі заробкі калгаснікам ці затрымлівалі, ці ўвогуле не плацілі, ці інфляцыя іх з'ядала.**

Цяпер відавочная пагроза скаціцца ў тую ж сітуацыю. Па стану на 1 кастрычніка 2013 года ў 317 арганізацыях сістэмы Мінсельгасхарча ўзнікла запазычанасць па зарплаце ў памеры 158 мільярдаў рублёў. Худа-бедна запазычанасць тую неяк, з вялікім мінусам на інфляцыю, сплацілі. Але ж уся сістэма засталася некранутай. Значыць, трэба чакаць паўтору. Таму што, па-першае, сельская гаспадарка застаецца буйнейшым даўжніком эканомікі, кандыдатам у банкруты, яна дала толькі 7,8% дабаўленай вартасці ў вытворчасць ВУП. Па-другое, на 3,1% скараціла аб'ём вытворчасці замест запланаванага павялічэння. Бо прадпрыемствы галіны не толькі не зарабляюць на зарплату, але не адлічваюць грошы на ўтрыманне «сваіх» пенсіянераў. Для выплаты ім пенсій даводзіцца прыцягваць сродкі з іншых сектараў эканомікі.

Вось і атрымліваецца — заўтра будзе горай. Пра гэта пакуль пішуць спецыялісты. Праз нешматлікія СМІ яны даводзяць, што аграрная эканоміка, хоць і карыстаецца празмернымі датацыямі, мае ненармальна нізкую эфектыўнасць. У параўнанні з іншымі вытворцамі. Прыкладам, на атрыманне адзінкі гатовай прадукцыі ў нас выкарыстоўваецца 4 кілаграмы кармоў, а ў еўрапейскіх краінах — толькі 2,5 кілаграмы. Па еўрапейскіх тэхналогіях сярэдні прывес у свінагадоўлі складае 800 грамаў, «па беларускіх абставінах» — толькі 550 грамаў.

Вядомы яшчэ з падручнікаў палітэканоміі парадокс паміж канкрэтнай працай і абстрактнай, паміж натуральнай гаспадаркай і таварнай вытворчасцю. У сучаснай аграэканоміцы Беларусі гэты парадокс атрымаў антаганістычную форму: падвышэнне аб'емаў вытворчасці пагражае эфектыўнасці, натуральныя паказчыкі пагаршаюць рэнтабельнасць і не дазваляюць атрымліваць прыбыткі.

Трэба дадаць, што кіраўніцтва краіны літаральна моліцца на быццам бы сучасныя тэхналогіі і не разумее, што ў эканамічным сэнсе адбудаваныя «па-еўрапейску» комплексы саступаюць у эфектыўнасці гаспадаркам насельніцтва.

Трэба адзначыць, што да сярэдзіны 1950-х гадоў калгасная жывёлагадоўля практычна не развівалася. Мяса, малако, яйкі, воўну і нават свіную скуру дзяржаве давалі прыватнікі. Калі хатняя жывёлагадоўля насельніцтва пайшла на спад, у краіне пачаліся цяжкасці з мясам.

Па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, нават у 1990 годзе было атрымана жывой вагой 1758 тысяч тон мяса. У калгасах і саўгасах — 1 525 тысяч тон, у гаспадарках насельніцтва — 233 тысячы тон.


Photo.ByMedia.Net

Максімальны паказчык калгасаў дасягнуў у 1989 годзе — 1 533 тысячы тон, а ўласнікі больш далі дзяржаве ў 1967 годзе — 447 тысяч тон. І гэта пры тым, што ў 1967 годзе дзяржаўныя закупкі складалі каля 600 тысяч тон.

Такім чынам, доля насельніцтва ў структуры забеспячэння дзяржзакупак мяса складала 70–75%.

У 1967 годзе ў Беларусі было 2,5 мільёна кароў і 4,0 мільёна свіней. З іх у прыватных гаспадарках 1,7 мільёна галоў (70%), свіней — 3,4 мільёна галоў (85%).

Зразумела, што кіраўніцтва БССР не магло змірыцца з такой сітуацыяй. Пайшлі вялізныя інвестыцыі, і калгасы з часам падвысілі аб'ёмы вытворчасці. Пачалі дамінаваць. Але толькі ў вытворчасці натуральнага прадукту. У эканамічным сэнсе прыватныя гаспадаркі мелі відавочныя перавагі. Яны былі здольнымі да самаэксплуатацыі. Бо ніхто — ні сам гаспадар, ні іншыя — не патрабавалі грашовых заробкаў. Яны працавалі больш эфектыўна.

Адзначым, што дадатковыя шансы прыватнікам давала сама аграрная палітыка дзяржавы, якая ўкладвала шмат сродкаў у калгасную вытворчасць і пры гэтым абмяжоўвала рознічныя кошты на харчовыя прадукты. Вынік — пастаянны дэфіцыт каўбасы ў крамах. Таму гарадскія гаспадыні звычайна «атаварваліся» на так званых калгасныя рынках, дзе амаль выключна гандлявалі прыватнікі, якія паднімалі кошты на сваю прадукцыю кожны раз, калі ўзнікаў дэфіцыт прадуктаў у дзяржаўным гандлі.

А што ж сёння? Як паказвае статыстыка, па стану на 1 лістапада 2013 года, сельскагаспадарчымі арганізацыямі рэалізавана 1 240,9 тысячы тон мяса, у прыватнымі гаспадаркамі — 144,1 тысячы тон. Усяго 10,4%!

Такім чынам, ад прыватнікаў у сельскай гаспадарцы фактычна пазбавіліся. Ці будзе ў яе працяг, ці, як сказаў бы Фукуяма, гісторыя скончылася?

Хто дажыве, той пабачыць.

ДЗЯРЖАЎНЫ КЛОПАТ

# СЯМ'Ю З ДЗЕЦЬМІ ВЫКІНУЛІ НА ВУЛІЦУ



Дом №6 барачнага тыпу па 2-й вуліцы Шчорса

Сяргей ПУЛЬША

**Суд Маскоўскага раёна Мінска 14 студзеня 2014 года прыняў беспрэцэдэнтнае рашэнне — выселіць на вуліцу «без прадстаўлення іншага жылога памяшкання» сям'ю з двума непаўналетнімі дзецьмі. Дом, у якім жыла сям'я Завілейскіх, раптоўна ідзе пад знос для забудовы СЗАТ «ЛадаГарант».**



Алена Завілейская



Фота аўтара

Кватэра сям'і Завілейскіх

## Дом, які пабудавалі…

У дом барачнага тыпу па 2-й вуліцы Шчорса, 6, сям'я Завілейскіх засялілася 16 снежня 2003 года. Гэта дом дзяржаўнага жыллёвага фонду, якім распараджалася прадпрыемства «Мінскі заавестнаб». Тады кватэру №3 Яніна Завілейская атрымала ў гэтым доме на падставе загаду па прадпрыемстве «Мінскі заавестнаб».

Паколькі выканкам Маскоўскага раёна не забяспечваў кватэрамі жыхароў гэтага дома, прапіска ў ім забароненая з 1982 года. Прадпрыемства засяляла гэты дом для таго, каб за ім даглядалі жыхары. І засяляўся ён у мэтах захавання дзяржаўнага жыллёвага фонду.

У гэтую кватэру Яніна Завілейская пусціла пражываць і сына Віталя з цяжарнай на той момант жонкай Аленай. У 2004 і 2007 годзе ў Віталя і Алены Завілейскай нарадзіліся дзеці.

Людзі жылі, і, канешне, рабілі ўсё, каб ім было жыць зручна. Замянялі падлогі, уцяплілі сцены, паставілі вокны, правялі ваду, абсталявалі каналізацыю. Увогуле, зрабілі дом прыдатным для жылля. І жылі там дзесяць год, спраўна плацячы за кватэру, за святло, кожны год выпісвалі вугаль для бойлернага ацяплення. Падавалася, іх нічога акрамя гэтага хваляваць не павінна.

У 2006 годзе змянілася заканадаўства: арганізацыі, якія далі грамадзянам дзяржаўнае жыллё, павінны былі заключыць з гэтымі грамадзянамі дамову найму жылога памяшкання. Жыхары, зразумела, нічога пра гэта не ведалі: быў загад па прадпрыемстве на выдзяленне жытла, акт прыёмкі-перадачы кватэры, былі аформленыя лічыльнікі газавы балон.

«Статута прадпрыемства мы не бачылі, але ў адпаведнасці са зменамі нацыянальнага заканадаўства павінны былі быць дамовы найму памяшкання. Афармленне гэтых дамоваў, мы лічым, было задачай прадпрыемства. Наша задача — спраўна ўсё аплачваць і пражываць, што мы і рабілі. Яніна Завілейская на прадпрыемстве прапрацавала 40 гадоў, ёй далі гэта жыллё, і яна жыла з намі», — кажа Алена Завілейская.

Ніякіх праблем не было — да таго часу, пакуль «ЛадзеГарант» тэрміновым чынам не спатрэбілася зямля для забудовы.

## Як знесці дом

Людзям, якія жылі ў старым доме, прапануюць новае жыллё, яны перасяляюцца, дом зносяць — ніякіх пытанняў, акрамя дробязяў пераезда. Відавочна, так павінна было быць і ў гэтым выпадку. Але чамусьці не атрымалася.

У лютым Яніне Завілейскай была дасланая нейкая паперка аб тым, што памяшканне па вуліцы 2-я Шчорса, дом 6, кв. 3 ёй належыць вызваліць. У сувязі з чым вызваліць, на якой падставе — не тлумачылася. Яна сабрала даведкі, акт прыёму-перадачы кватэры, загад аб выдзяленні ёй памяшкання, усё, што яна плаціла за жытло і гэтак далей, і пайшла высвятляць, што ўсё гэта значыць. Дзіўна, але на якой падставе і куды высяляюць сям'ю, Яніна Завілейская так і не высветліла.

Завілейскім павінны былі прадставіць новае жылое памяшканне. У рашэннях Мінгарвыканкама аб выдзяленні «ЛадзеГарант» участкаў пад забудову гаворыцца пра тое, што «ЛадаГарант» павінна перадаць у дзяржаўны жыллёвы фонд жылыя памяшканні, якія прызначаны для рассялення тых, у каго дом ідзе пад знос.

«У пастанове Мінгарвыканкама сказана: перадаць у бязвыплатную камунальную ўласнасць для рассялення грамадзян, якія пражываюць у доме №6 па дамовах найму. Не прапісаных, а якія пражываюць па дамовах найму, тых, хто ўсяліўся ў гэты дом да 2006 года. Мы ўсяліліся ў 2003-м, але ніякага новага жылля нам не прапанавалі», — кажа Алена Завілейская.

Што ж здарылася? А здарылася тое, што не вядома, ёсць дамова найму, альбо не. У прынцыпе, гэтай дамовы Завілейскія не бачылі. Але кожны год дырэктар прадпрыемства «Мінскі заавестнаб» Мікалай Іванішкін падпісваў накладныя на вугаль, у якім была фармулёўка, што Завілейская «прапісаная і пражывае» па адрасе 2-я, вуліца Шчорча 6, кв. 3. Больш за тое, электралічыльнік у Мінскіх электрасетках зарэгістраваны на Завілейскую як на «наймальніка памяшкання». То бок, ускосна дамова наймальніка ёсць.

Як кажа Алена Завілейская, з некаторымі іншымі жыхарамі дамова найму заключалася «заднім чыслом», — нават у жніўні 2013 года. Завілейскім такой прапановы не было. Прадпрыемства «Мінскі заавестнаб» чамусьці вырашыла, што Завілейскія пражываюць у доме незаконна, і трэба іх праз суд выселіць на вуліцу без прадстаўлення іншага жылога памяшкання.

## Спробы ўрэгуляваць канфлікт

Нельга сказаць, каб адказныя асобы не рабілі спробы вырашэння жыллёвага пытання. Дырэктар «Мінскага заавестнаба» Мікалай Іванішкін выклікаў Віталя Завілейскага «на размову». Маўляў, ён, дырэктар, можа дамовіцца з забудоўшчыкам, каб сям'я Завілейскіх, якая стаіць на чарзе па паляпшэнні жыллёвых умоваў ва Фрунзенскім раёне, пабудавалася тут жа — у доме, які будуе «ЛадаГарант», з прыцягненнем ільготнага крэдыту. «Але ў той момант у Віталя быў не выплачаны яшчэ адзін крэдыт, і ўзяць новы на жыллё ён не мог. А працаваў у сям'і ён адзін», — кажа Алена Завілейская.

Але Завілейскія не адмовіліся ад перамоваў і не адмовіліся высяляцца. Проста яны папрасілі неяк больш прадметна пагаварыць на гэтую тэму, можа быць, заключыць нейкую дамову або пагадненне з забудоўшчыкам. Але... Больш размоваў наконт «дапамагчы пабудавацца» з боку Іванішкіна не было.

«Нам сказалі проста прыбірацца адсюль, прычым кіраўнік прадпрыемства, з якім мы віталіся ці не кожны дзень усе гэтыя дзесяць гадоў (яго офіс знаходзіцца ў суседнім доме), да якога мы хадзілі па ўзгадненне рамонтаў і іншага, заявіў, што нас у першы раз бачыць. А яшчэ ён сказаў, што мы тут перашкаджаем будавацца «вельмі ўплывовым людзям», — кажа Алена Завілейская.

## Вар'яцкае высяленне

Дзіўна, але цывілізавана рассяліць людзей ніхто чамусьці не пажадаў. Замест гэтага да Завілейскіх неадназова выклікалі міліцыю — маўляў, тут жывуць нейкія «самасёлы». «Да нас уварваўся маёр Сямёнаў з УУС Маскоўскага раёна. Нікога з дарослых дома не было, дзверы адкрыла непаўнагадовая дачка, ён проста адштурхнуў яе. Я тут была недалёка, дачка прыбегла за мной, плача, кажа, што ў доме міліцыя. Гэты маёр пагражаў тут пошукам наркотыкаў, крычаў, што мы бамжы, усяліліся сюды самавольна і гэтак далей, выламаў ручку ў дзвярах», — распавядае Алена.

Алена заявіла, што выкліча «сапраўдную міліцыю», і, як ні дзіўна, маёр Сямёнаў сышоў.

Чаму сышоў, стала ясна, калі Алена паскардзілася на дзеянні гэтага маёра ў ГУУС Мінгарвыканкама. Высветлілася што да Завілейскіх маёра ніхто не выклікаў і не пасылаў: сродкі спецсувязі не зарэгістравалі падобнага выкліку.

Да ціску прыцягнулі прадстаўнікоў органаў адукацыі і органаў апекі. «Маўляў, «дзіця ў садок не ходзіць», хоць у гэты час мы хадзілі на гурткі і на падрыхтоўку ў школе. Той жа маёр Сямёнаў напісаў ва ўпраўленне адукацыі Маскоўскага раёна, што ў хаце няма ложкаў, няма пасцельнай бялізны, і наогул, няма ўмоў для пражывання дзяцей, і бацькі за імі не сочаць. Камісію па высвятленні жыллёвых умоў чамусьці даслалі са школы №3, хаця нашая школа — №105. Нам гэта патлумачылі, што настаўнікі 105-й школы могуць быць «перадузятымі», — кажа Алена Завілейская.

Але ў выніку прадстаўнікі Мінадукацыі і органаў апекі вымушаны былі прызнаць: у дзяцей годныя ўмовы пражывання, і ўсё неабходнае для жыцця і развіцця ў дзяцей маецца. «Што, увогуле, не перашкодзіла прадстаўнікам органаў апекі ў судзе голасна абмяркоўваць з прадстаўнікамі «Мінскага заавестнаба» і прадстаўнікамі забудоўшчыка тое, як у нас забяруць дзяцей у інтэрнат, а нас тым часам выкінуць на вуліцу. І няма праблемаў. Замест таго, каб дапамагчы дзецям, органы апекі наадварот, імкнуцца адабраць дзяцей», — распавядае Алена Завілейская.

## Дзіўны суд

«Мінскі заавестнаб» падаў у суд пазоў аб высяленні Яніны Завілейскай з дому, у якім сям'я Завілейскіх пражывала 10 гадоў. «Мінскі заавестнаб» упіраў на тое, што сям'я Завілейскіх у доме пражывае незаконна. Сумеснае рашэнне адміністрацыі і прафкама УП «Мінскі заавестнаб» аб прадастаўленні ў 2003 годзе кватэры Яніне Завілейскай кудысьці «згубілася». А паколькі яно «згубілася», то 6 снежня 2013 года быў выдадзены загад аб адмене таго загада, якім Завілейскай выдзялялася кватэра.

Пра сам загад аб выдзяленні кватэры Завілейскай, на падставе якога яна засялілася ў кватэру, дырэктар «не ведаў» 10 гадоў. Яніна Завілейская, аказваецца, «без згоды УП «Мінскі заавестнаб» падала кватэру для пражывання Алене і Віталю Завілейскім. Дзесяць год Іванішкін падпісваў для гэтай сям'і дакументы на вугаль, на дабудову кватэры, на рамонты, і, аказваецца, — ён не ведае, хто яны, не даваў згоды на іх засяленне, і гэтак далей!

Ці не апошнім аргументам УП «Мінскі заавестнаб» было тое, што на спрэчную кватэру не быў адкрыты рахунак за аплату камунальных паслуг, і электраэнергіі ў прыватнасці. Але, па-першае, калі дом знаходзіўся пад наглядам прадпрыемства, ці справа жыхароў адкрываць такі рахунак? Па-другое, за жыллё плацілі ўсе, якія пражывалі ў гэтым доме, і плацілі яны на агульны рахунак прадпрыемства. Разлікі па аплаце паслуг праводзіла бухгалтэрыя прадпрыемства, а сама плата ўносілася праз банк.

Нягледзячы на тое, што ўсе памылкі (напрыклад, незаключэнне дамовы найму або «страта» дакументаў) дапусціла УП «Мінскі заавестнаб», а ў Завілейскіх ёсць усе доказы, што яны з'яўляюцца «добрасумленнымі наймальнікамі» (нават пры адсутнасці дамовы найму) і ўсё 10 гадоў спраўна выконвалі свае абавязацельствы, суд пастанавіў: выселіць сям'ю з непаўналетнімі дзецьмі «без прадастаўлення іншага жылога памяшкання».

## Канфлікту магло не быць

Зараз Завілейскія падалі касацыйную скаргу на рашэнне суда Маскоўскага раёна. Сама Алена Завілейская лічыць, што сутнасць канфлікту ў іншым — кватэры «ЛадыГарант», прызначаныя для рассялення дома №6 па 2-й вуліцы Шчорса, недзе «завіслі». Каб не даведаліся, дзе яны «завіслі», і прадпрымаюцца такія дзеянні.

Завілейскія не настойваюць на тым, каб застацца ў бараку па 2-й вуліцы Шчорса. Яны маюць права на прадастаўленне іншага жылога памяшкання — хаця б таму, што ў іх непаўнагадовыя дзеці, а Мінгарвыканкам абавязаў «ЛадуГарант» альбо Міністэрства сельскай гаспадаркі прадставіць памяшканні.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ TV

## 3 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Камедыя «Дзень сурка» (ЗША).
**12.10** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**13.10** Меладрама «Маша і Мядзведзь» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**17.00** БеларусьLIFE.
**17.25** Нашы.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.55** «Нацыянальная дылогія. Статут ВКЛ». Фільм першы. Тэлестужка АТН.
**01.05** Дзень спорту.
**01.15** Крымінальная камедыя «Вялікі куш» (Вялікабрытанія - ЗША).

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** «Armin Only Mirage». Шоў.
**23.35** Прыгодніцкі фільм «Доктар Дуліттл».
**01.10** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Сямейныя драмы».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «З Парыжа з любоўю» (Францыя, 2009 г.).
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**12.05** Кінааповесць «Прыдатны да нястроевай» («Беларусьфільм»).
**13.35** Музычная камедыя «Мы з джазу».
**15.20** Баявік «Галівудскія копы» (ЗША).
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»).
**18.55** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Пейзажы скрозь час». Тэрнер у гавані Онфлэр. Дакументальны фільм пра творчасць мастака Дэвіда Данлапа.
**08.55** «Скарбніца Віцебшчыны». Гісторыя Пастаўскага краю.
**09.20** «Палескі пачастунак». «Крамбамбуля».
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.45** «Георг». Мастацкі фільм.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.40** «Год у гісторыі».
**12.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Анатоля Анікейчыка.
**13.25** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм.
**14.05** «Ведай нашых!». Заслужаны майстар спорту Юлія Несцярэнка.
**14.20** «Свет прыроды». Вяхоўе ракі Ловаць.
**14.45** «Плошча мастацтваў». Паэт, журналіст, рэдактар Юрый Сапажкоў.
**15.15** Канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных сіл РБ.
**16.55** «Наперад у мінулае».
**17.20** «Востраў». Творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**17.45** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**18.05** «Дэпутат Балтыкі». Мастацкі фільм.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 1-я серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.30** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.00** «Варатар». Мастацкі фільм.
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Анатоля Анікейчыка.
**23.40** «Калейдаскоп».
**23.45** «Год у гісторыі».

**НТВ**

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**09.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Гатуем».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Шаман-2».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Камедыя «Паверх».

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Беларусь сёння.
**08.15** Мастацкі фільм «Сэрца маё - Астана».
**10.10** Мастацкі фільм «Аўтапартрэт невядомага».
**11.30** Праграма «Наша марка».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Ваш гонар».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.00** Праграма «Беларусь сёння».
**23.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**00.50** Мастацкі фільм «Аўтапартрэт невядомага».
**02.10** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.50** Тэлесерыял «Клон».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 12.10** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.00, 13.45** Форум (ток-шоў): Пастка.
**08.45, 12.35** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**09.20, 14.30** Дак. гадзіна: «Я – сын забойцы», дак. фільм, 2008 г., ЗША–Польшча.
**10.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.45** «Брацкая свечка», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**11.10, 16.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Даніловіч.
**11.20** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**13.05** Зона «Свабоды».
**15.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.00** «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005 г., Балгарыя–Турцыя.
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо.
**22.10** «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005 г., Балгарыя–Турцыя.
**23.55, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.35** Асабісты капітал.
**00.55** Аб'ектыў.
**02.40** Відзьмо-невідзьмо.

## 4 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.45** Сфера інтарэсаў.
**00.00** «Нацыянальная дылогія. Статут ВКЛ». Фільм другі. Тэлестужка АТН.
**01.10** Дзень спорту.
**01.25** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Шматсер. фільм «Лінія Марты».
**23.10** Прыгодніцкі фільм «Доктар Дуліттл 2».
**00.45** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Пакуль не вечкам накрыўся» (ЗША, 2007 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Гульня ў чатыры рукі» (Францыя - Італія, 1980 г.).
**22.20** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Меч». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). Заключная серыя.
**10.15** Беларуская кухня.
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** «Імперыя песні». На біс.
**12.30** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.45** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.55** Вышэй за дах.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). Заключная серыя.
**18.55** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.35** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Бусляня». Кароткаметражны фільм.
**09.05** «Свет прыроды». Лесабалотны комплекс Чырвоны бор.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 1-я серыя.
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.35** «Год у гісторыі».
**11.35** «Год у гісторыі».
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Юрыя Сідарава.
**12.20** «Імгненне вечнасці». Тадэвуш Касцюшка - герой нацыянальна-вызваленчага руху ў Рэчы Паспалітай і ЗША.
**12.45** «Пейзажы скрозь час». Цудоўныя пейзажы Джорджа Інеса.
**13.15** «Звоняць, адчыніце дзверы. Аляксандр Міта».
**13.35** «Палескі пачастунак». Салёнае сала.
**13.50** «Камертон». Оперная спявачка Любоў Казарноўская.
**14.20** «Карані».
**14.50** «Адлюстраванні». Жыццё і творчасць мастака Хаіма Суціна.
**15.15** «Варатар». Мастацкі фільм.
**16.30** «Найменні і вобразы». Народны майстар Уладзімір Лук'яневіч.
**16.45** «Лабірынты». Чарэя Оскара Мілаша. Пра жыццё і творчасць.
**17.10** «Маскоўскі Крэмль». Гісторыя і экспазіцыі Маскоўскага Крамля.
**18.15** «Тры таварышы». Мастацкі фільм.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 2-я серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.00** «Два Фёдары». Мастацкі фільм.
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Юрыя Сідарава.
**23.50** «Калейдаскоп».
**00.00** «Год у гісторыі».

**НТВ**

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Шаман-2».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Камедыя «Паверх».

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Агульны інтарэс.
**08.15** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**09.55** Мастацкі фільм «Гракі».
**11.30** Праграма «Зроблена ў СССР».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.00** Дак. фільм «У свеце цудаў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Ваш гонар».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**22.55** Праграма «Саюзнікі».
**23.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.10** Мастацкі фільм «Гракі».
**01.45** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**03.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 23.45, 02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Даніловіч.
**10.50** «Дом», серыял: 21 серыя.
**14.00** Асабісты капітал.
**14.20** Аб'ектыў.
**15.05** Відзьмо-невідзьмо.
**15.30** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Даніловіч.
**16.15** «Дом», серыял: 21 серыя.
**17.45** Дакументальная гадзіна: «Я – сын забойцы», дак. фільм, 2008 г., ЗША–Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.40** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Музей Паэта.
**22.10** «Лонданцы», серыял: 4 серыя.
**23.00** Форум (ток-шоў): Пастка.
**01.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.25** Чорным па белым: Музей Паэта.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №1 (89) (студзень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



ЮБІЛЕЙ

## ТАЛЕНТ І МУЖНАСЦЬ КРЫТЫКА

### ДЗМІТРЫЮ БУГАЁВУ — 85!

**Калі глядзець на ўнушальны шматтомнік «Беларускія пісьменнікі», паволі гартаць яго, учытваючыся ў велізарную бібліяграфію на кожнае прозвішча, не-не ды і скажаш сабе: вось жа, рабілі людзі літаратуру — планамерна, штодзённа і без выходных. Разам з тым, і прозвішчы літаратараў, складзеныя ў роўныя алфавітныя заканамернасці, штурхаюць да таго, каб спрасціць усё і сказаць: нічога вартага ў гэтай савецкай літаратуры не было — адны штампоўшчыкі, «паглынальнікі пустотаў», якімі і запоўненыя, пад выглядам мігатлівых спасылак, тамы даведнікаў.**




Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў, чыё 85-годдзе адзначалася 12 студзеня, — сведка некалькіх эпох. Пасталеўшы ў сталіншчыне і вайне, ён перажыў надзеі «адлігі» і безнадзейнасць «застою», дэмакратычна-адраджэнскі час і апынуўся разам з усімі намі ў новым застойным перыядзе, які, трэба думаць, таксама не бясконцы.

Ва ўсе часы была ў яго магчымасць выбару, і тое, што сёлета мы гаворым пра Бугаёва з павагай і ўшаноўваем ягоную спадчыну, сведчыць пра слушнасць таго выбару, які рабіўся цягам застойна-надзейнай «цераспалосіцы» і які, урэшце, дапамог апраўдацца і пасляваеннаму беларускаму літаратуразнаўству і крытыцы.

Якое б тысячагоддзе не стаяла за вакном, Дзмітрый Бугаёў рабіў стаўку на шчырую працу, даследаванне лепшага ў бягучым літпрацэсе і актуалізацыю спадчыны. Сёння, як гэта ні абсурдна, даволі лёгка можна ўявіць, якой смеласцю было — займацца ў 1950-я і 1960-я гады творчасцю пісьменнікаў даваеннай пары, творчасцю былых палітзняволеных, па сутнасці. Далёка не кожны літаратуразнаўца наважваўся на гэта: сталінскія кадры працягвалі працаваць і ў апараце кампартыі, і ў кіраўніцтве акадэмічнай навукай, ды і ў асяроддзі самога Саюза пісьменнікаў. Тым не менш, для Дзмітрыя Якаўлевіча, чый бацька ў 1936-м не вярнуўся пасля чарговага арышту, падобны выбар быў натуральны. Ён ведаў вартасць таго часу і не меў наконт яго ніякіх ілюзій. Але ў адкрытую гаварыць праўду пра сталінскія зверствы ён не мог. Сёй-той сказаў бы сёння: дык навошта тады было ісці на кампрамісы, пісаць пра «асобныя недахопы», «пэўныя памылкі» і г.д.? Можна адказаць з усёй пэўнасцю: таму што інакш гаварыць пра рэпрэсаваных пісьменнікаў было нельга. Так, абстрактна-апісальны стыль, агульныя словы, і ў той жа час — зерне біяграфічных дадзеных, аналіз твораў, ачышчэнне іх ад вульгарна-сацыялагічных наносаў і, у выніку, — выданне манаграфій і збораў твораў, пад афіцыйным акадэмічным грыфам, што імгненна, лепш за ўсякую даведку, рэабілітоўвала пісьменніка, уключала яго творчасць у фундаментальныя распрацоўкі, універсітэцкія праграмы і г.д. Так, пакрысе паўставала новая, непрыгладжаная пастановамі ЦК карціна літаратуры.

Дзмітрый Бугаёў быў адным з тых падзвіжнікаў, якія паступова, год за годам, праводзілі рэабілітацыю літаратуры 1920-х гадоў, уключалі яе шматгранную палітру ў афіцыйную акадэмічную гісторыю літаратуры. Ягоныя манаграфіі пра Уладзіміра Дубоўку (1965) і Максіма Гарэцкага (1968) і сёння чытаюцца з цікавасцю. Аналізуючы ранніія апавяданні Міхася Лынькова (1963) і «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы (1971), прозу Барыса Мікуліча і Васіля Каваля (1959-1960), творчасць Платона Галавача (1973), Бугаёў перш за ўсё падкрэсліваў той нязломны пісьменніцкі характар, маральную прынцыповасць, якія, можа, не заўсёды і не ўсім нашым літаратарам былі ўласцівыя, аднак для гісторыі (і гісторыі пісьменства ў тым ліку) надзвычай важныя.

Гэтая павага і ўвага да пісьменніка з магутным унутраным стрыжнем арганічна прывялі Дзмітрыя Бугаёва да аналізу творчасці Івана Мележа і Васіля Быкава, якім крытык прысвяціў не адну кнігу і не адзін дзясятак артыкулаў. Гаворачы пра гэта, нельга забываць, што падобны выбар, асабліва ў дачыненні Быкава, быў у 1960-я гады для маладога дацэнта БДУ дужа небяспечным. Яшчэ нельга забываць, што функцыя і важкасць крытыкі ў той час была зусім інакшай, як цяпер: крытык мог паспрыяць выхаду кнігі, мог і наадварот — выштурхнуць яе разам з аўтарам на маргінэс літаратурнага жыцця. Ад кніжнага ж ганарару многія пісьменнікі залежалі наўпрост, таму звязку гэтую пакінуць і абмінуць не маглі. Добрая ці дрэнная крытыка, атрыманая кнігай, уплывала не на продажы і прэміі, як у заходніх краінах, але на агульную ацэнку кіраўнікоў выдавецтваў і, перш за ўсё, кантрольных органаў — ЦК партыі. Дзмітрый Бугаёў некалькі дзесяцігоддзяў быў часткай гэтай сістэмы, і калі пагартаць ягоныя публікацыі 1960–1980-х гадоў, можна ўбачыць, што дапамагаў ён сапраўды таленавітым і вартым аўтарам: Генадзю Бураўкіну, Анатолю Вярцінскаму, Яўгеніі Янішчыц. Ягонае добрае слова не раз было супрацьвагай чарговаму пагромніцкаму артыкулу, у якім бэсціўся Васіль Быкаў.

Перабудова і гады незалежнасці адкрылі зусім іншага Бугаёва: бескампраміснага крытыка таталітарнай сістэмы, камуністычнай утопіі, абаронцу нацыянальнага праекту Беларусі. Адкінуўшы былыя забароны, па-новаму глянуў ён на прозу Васіля Быкава ў кнізе «Праўда і мужнасць таленту», па-новаму ацаніў беларускую і расійскую літаратуру пра калектывізацыю. Крытычны погляд Бугаёва часта быў скіраваны не на паэтыку твора, а на адлюстраванне літаратурай жыцця. І наколькі вастрэйшай была праўда, выказаная пісьменнікам; наколькі меў ён адвагі назваць рэчы сваімі імёнамі, настолькі быў ён Дзмітрыю Бугаёву цікавы. Жыццё як найвышэйшая каштоўнасць — для ўсіх, не толькі для літаратара — і крутыя павароты гісторыі вабілі яго. Таму нездарма ў апошнія гады кнігі Дзмітрыя Бугаёва чытаеш як гістарычны дакумент, і нярэдка тую інфармацыю, якая ў іх змешчана, болей нідзе не знойдзеш — па той простай прычыне, што Бугаёў аказаўся адзіным сведкам і фіксатарам тых падзей і той фактуры.

«Цяпер увогуле лёгка крычаць, бо ўсё дазволена. І нічым не трэба рызыкаваць. А тады нам усім многае давалася з вялікімі пакутамі, кожная пераацэнка давалася з боем», — успамінаў у 1992 годзе Дзмітрый Бугаёў у адным з інтэрв'ю. Успомнім пра гэта і мы ў дні юбілею патрыярха нацыянальнай крытыкі, прафесара, лаўрэата... Чалавека, чыя праўда перамагла.

**Ціхан Чарнякевіч**

## ПАЛІЦА

### ОСКАР УАЙЛД. «САЛАМЕЯ»




У бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў пераклад п'есы Оскара Ўайлда «Саламея». На беларускую мову з французскай яе пераклала Кацярына Мацюўская. Дызайнер вокладкі — Марыя Мухіна.

Кніга апроч уласна п'есы змяшчае прадмову ад перакладчыцы, стылістычна блізкія да яе вершы прозай Оскара Ўайлда, артыкул сябра і паверніка пісьменніка, мастацтвазнаўцы Роберта Роса, які разабраў усе акалічнасці выхаду ў свет «Саламеі» і абверг звязаныя з ёй міфы, а таксама каментары і бібліяграфію ранейшых перакладаў з Оскара Ўайлда на беларускую мову. Змешчаныя ў кнізе і самыя знакамітыя ілюстрацыі да п'есы, выкананыя яшчэ адным творцам з кола Оскара Ўайлда — Обры Бёрдслі.

### СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ. «ЧАС SECOND-HAND»




Кніга Святланы Алексіевіч, якая была перакладзеная на многія еўрапейскія мовы і атрымала некалькі прэстыжных літаратурных прэмій, цяпер даступная па-беларуску. Твор пабачыў свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У прадмове аўтарка піша: «За семдзесят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму выгадавалі адмысловы чалавечы тып — homo soveticus. Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён — гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо homo soveticus — гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш... »

Кніга «Час second-hand (Канец чырвонага чалавека)» закранае маштабныя гістарычныя тэмы: Вялікую Айчынную вайну, Афганістан, Чарнобыль, час «перабудовы» і развал сацыялістычнай імперыі. У творы даследуецца феномен мыслення савецкага чалавека, феномен сацыялізму і выкладаецца аўтарская канцэпцыя найноўшага часу, які пісьменніца называе «часам сэканд-хэнд».

### УЛАДЗЬ ЛЯНКЕВІЧ. «70% ВАДЫ»



Філолаг, выкладчык, перакладчык, рок-музыкант... Уладзь Лянкевіч нарэшце парадаваў сваіх прыхільнікаў кнігай вершаў «70% вады». Зборнік выйшаў у серыі «Пункт адліку» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Як лаканічна пазначана ў анатацыі, кніга «ўключае адзін скрадзены і некалькі дзясяткаў сваіх вершаў з музыкай і без».

Уладзь Лянкевіч, несумненна, адзін з самых перспектыўных аўтараў свайго пакалення, які адначасна працуе ў некалькіх відах мастацтва і розных літаратурных жанрах.

Некаторыя з вершаў, змешчаных у зборніку, пазначаныя не традыцыйнымі «зорачкамі», а нотным знакам: гэтыя тэксты сталіся песнямі, якія ўваходзяць у рэпертуар арт-рок і псіхадэлік гурта TonqiXod [ТонкіХод], у якім Уладзь Лянкевіч з'яўляецца вакалістам і гітарыстам.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

## ЛЮТАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



04.02.1934 — Арсень Сяргеевіч Ліс
09.02.1959 — Віктар Антонавіч Шалкевіч
12.02.1969 — Сяргей Леанідавіч Мінскевіч
15.02.1959 — Пятро Васільевіч Васючэнка
17.02.1939 — Анатоль Іосіфавіч Валахановіч
17.02.1964 — Алена Уладзіміраўна Бабоўка
Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ВОДГУК

# ГАВОРКАЙ РОДНАЮ ЗАЛІВАЎ ТУГУ

**Дастаю з паліцы кнігу «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 1973), і на старонцы 49 чытаю: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай. Гу!..». Гэта пісаў сорак гадоў таму Юрка Геніюш. Слаўны, таленавіты, мужны Юрка Геніюш — адзіны сын у бацькоў. Але ў якіх бацькоў! Маці Ларыса Геніюш — найвялікшая паэтка Беларусі, патрыётка, змагарка, вязень сталінскіх ГУЛАГаў. Бацька Янка Геніюш — доктар, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, беларускі патрыёт, бібліяфіл, вязень сталінскіх лагераў.**


Ларыса Геніюш і яе сын Юрка

Мужнасці ён вучыўся ў мамы і таты, прафесію выбраў бацькаву, а творчы талент пісаць узяў ад маці. Георгій Валкавыцкі ў сваіх «Вірах» (Беласток, 1991), прыгадваючы 1973 год, піша: «Пасля Новага года аднавіў я шыльду сваёй рубрыкі (Здрыпанка ў сонечных праменнях) і, запрыкмеціўшы ў Юркі Геніюша шчадрынаўскі дух, угаварыў доктара на арэнду суседняй дзялянкі. Канкурэнт пачаў назіраць «З маёй званіцы» пад фірмай «Ларс». І тут ажыў праўдзівы Гарадок (Працаваў Юрка ў Гарадку)».

Ажывалі і сябры, калі з'яўляўся Юрка Геніюш, ажывалі выданні, дзе ён друкаваўся, ажываў і беларускі Беласток. Хаця лёс Юркі Геніюша быў далёка не белым. І маюць рацыю Уладзімір Арлоў (кніга «Імёны свабоды») і Міра Лукша ў вершы «Юрка Геніюш», калі прыгадалі яго радкі: «Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — Хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?».

Чорны вецер і вецер халодны часта дзьмулі ў твары Геніюшаў. Але яны выстаялі, не скарыліся, не паддаліся, не здаліся. Хаця ўсё ж скразной лініяй праз усю творчасць Юркі Геніюша праходзіць белы колер. Давайце прачытаем яго творы:

*Зацвіла калінай родная зямля.*
*Белай, белай, белай — сувой палатна…*

**(Верш «Зацвіла калінай родная зямля…»)**

*Белай плямай вабіць-вабіць*
*Картка на сталe.*

**(Верш «Да свету»)**

*Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі… Белы-белы настане дзень… Ды толькі словам бела-бела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто…*

**(Абразок «Чорным па белым»)**

І абразок «Запавет» таксама пачынаецца з белага колеру: «І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця…». Здаецца, і тут пра белы колер, але ён вельмі самотны, тужлівы, балючы.

Усе гэтыя разважанні прыйшлі да мяне, калі я чытаў новую кнігу ў чорнай вокладцы «Смыком па сэрцы» Юркі Геніюша. Кніга выйшла з друку дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням і беларускай Інтэрнэт-Бібліятэцы Kamunikat.org. Зборнік добра ўклала і напісала сціплую прадмову Міра Лукша, а рэдагаваў выданне Віталь Луба.

Гэта найбольш поўнае выданне разнастайных па жанру твораў. Тут і проза, і паэзія, і драматургія, а таксама шмат цікавых і рэдкіх фотаздымкаў.

У першым раздзеле «У Гарадку і наваколлі» кнігі Юркі Геніюша распавядаецца якраз пра тое, аб чым некалі прасіў пісаць Юрку Геніюша Георгій Валкавыцкі. Міра Лукша вырашыла пачаць выданне менавіта з культурнага і працоўнага жыцця Гарадка і вёсак вакол яго, якія апісваў аўтар. Цікава чытаецца тое, аб чым аўтар паведамляў некалькі дзясяткаў гадоў таму. З кнігі мы даведваемся пра трыкатажны завод (1959–1995), пра дзяржаўнае агенцтва «Эстрада», пра фарміроўшчыка Гогаля, млынара Лапіча, пра крамы Гарадка, куды нават па тавары прыязджалі гараджане з Беластока, і шмат пра што іншае. Аўтар апісваў усё даволі цікава, шчыра, нават з нейкім светлым гумарам. Калі б і сёння падобныя нататкі з глыбінкі Беласточчыны хтосьці дасылаў, то рэдактар «Нівы» Яўген Вапа іх абавязкова друкаваў бы. Яны чытэльныя, лёгкія і невялікіх памераў. А сённяшнія чытачы не вельмі любяць чытаць вялікія тэксты, асабліва калі яны яшчэ і без фотаздымкаў…

Чытачы кнігі Юркі Геніюша «Смыком па сэрцы» даведаюцца, як жылі і чым жылі беластоцкія вёскі 30–70 гадоў мінулага стагоддзя. Аўтар у свой час пісаў пра дзеда Няўдалага з вёскі Скупавічы, які некалі пырнуў віламі нямецкага жаўнера. З кнігі мы даведаемся і пра тое, што некалі ў вёсцы Случанка вельмі дружна жылі вяскоўцы, а ў Меляшках раней смачны пяклі каравай, а ў Падазеры пачаў курсіраваць аўтобус…

Мне падабаецца, што ў кнігу Юркі Геніюша Міра Лукша ўключыла і пяць ягоных п'ес. Гэта п'есы «Хто — каго?», «Прыгоды Белага Грыба», «Зямля», «Вываражыла», «Дзіўны горад». Некалі пад адной вокладкай выходзілі п'есы Сократа Яновіча і Юркі Геніюша. Кніга мела назву «Зборнік сцэнічных твораў» (Беласток, 1976). Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'есы. На тое ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася іх некалькі.

Друкавалася п'еса Юркі Геніюша і ў «Зборніку сцэнічных твораў» (Беласток, 1969). Гэта была бытавая камедыя «Вываражыла», якая тады нават атрымала ўзнагароду ў конкурсе БГКТ.

Што датычыць паэзіі Юркі Геніюша, дык яна своеасаблівая, не падобная на паэзію яго маці. Але сын вучыўся і спрабаваў, як пісаў Ян Чыквін, удыхнуць дух аптымізму, творчую энэргію, прывіць імунітэт непадатлівасці на чужыя вірусы, папярэджваў аб устойлівай палітыцы дэнацыяналізацыі розных «дабрадзеяў» з усходу і захаду:

*Пасля ночы будзе-будзе калісь дзень.*
*Мы не можам жыць без свету…*

Юрка Геніюш быў чалавек кампанейскі, меў шмат сяброў, у яго хапала энэргіі і сіл на знаёмствы і сустрэчы. Ён меў добрую памяць, шмат ведаў вершаў, анекдотаў, любіў іх распавядаць. Ён быў казачнік-выдумшчык і літаратар з гумарам. Мне вельмі падабаецца яго аповед «Як чэрці свіней у балота зацягнулі». Нагадаю сюжэт. Прасілі дзеці дзядзьку Рыгора расказаць пра здарэнне. Аднойчы ён пасвіў у пана свіней, але пан мала плаціў, а малады Рыгор некалі задумаў жаніцца на прыгожай дзяўчыне. Тады ён вырашыў прадаць свіней пана гандлярам, але паадрэзваў у свіней хвасты. А потым гэтыя хвасты пазасоўваў у балота. А пану сказаў, што чэрці свіней пазацягвалі ў балота, толькі хвасты відаць. Пабег пан глядзець, схапіў за хвасты і «адарваў» іх. А Рыгора выгнаў з працы. Але за грошы Рыгор хутка жаніўся на прыгожай Алесі… Цікавейшая рэч. Вельмі добра чытаецца, проста не адарвацца. І такіх твораў у Юркі Геніюша шмат. Па іх можна нават вясёлыя мультфільмы і фільмы здымаць.

А цяпер пра ліст да Віктара Шведа… Я думаю, што вядомы беларускі паэт з Беластока Віктар Швед заўсёды памятаў і памятае тое, што некалі яму пісаў і казаў Юрка Геніюш. А казаў ён вось што: «І памятай, што хай цябе там нават клічуць Шведам — для нас ты быў і будзеш беларус».

І апошняе з нагоды выхаду кнігі «Смыком па сэрцы». Ці ведаеце вы, шаноўныя сябры, чым пры жыцці Юрка Геніюш заліваў тугу? А заліваў ён яе — гаворкай роднаю. Дык давайце і мы далучымся да Юркі Геніюша і будзем яшчэ мацней любіць наша беларускае Слова. Памятаеце, ён пісаў: «Бойцеся Слова! Прад ім трапячыце. У ім Ваша смерць, нягодніцкі ды злыдні…». Няхай ворагі баяцца нашага Слова, а мы будзем жыць доўга: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай…».

**Сяргей Чыгрын**

ЗНАКІ

# СЛЯДЫ, ЯКІЯ ЗНІКАЮЦЬ

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ



**Не надта пашанцавала ў Беларусі 2013-му. Тут часам нейкі год абвяшчаюць у гонар знанае Асобы. Так, пазамінулы меў трох вялікіх паэтаў: Янку Купалу, Якуба Коласа і Максіма Танка. 2011-ы — Максіма Багдановіча. Для 2013 годнага імя, як палічылі тыя, хто абвяшчае, не знайшлося.**

Мяркую, для тых, хто жыве ў Беларусі, Асобаў, вартых стаць «тварам» 2013-га, не бракавала. Для кагосьці ён быў годам Кастуся Каліноўскага, для іншых — Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Францішка Аляхновіча, Масея Сяднёва. Для кагосьці годам «Вянка». Для мяне ён стаўся годам Наталлі Арсенневай. Сама яго і абвясціла на першай гарадзенскай паэтычна-мастацкай імпрэзе яшчэ 3 студзеня ў галерэі «Крыга». На яго прыпала 110-я гадавіна з дня нараджэння паэткі. Кнігу да гэтага года «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі» падрыхтавала і выдала, і вечарыну правяла. У той жа «Крызе». Для сваіх даўніх студэнтаў, якія памятаюць мае лекцыі пра творчасць паэткі.

Але шырокаю грамадою гэтая гадавіна была замаўчана. І не дзіўна. Бо да шырокай грамады даходзіць тое, што рэкламуюць дзяржаўныя СМІ, найперш тэлебачанне, на якім добрага слова пра паэтку чакаць не даводзіцца. Ды хіба і ніякага не даводзіцца.

Усяго некалькі артыкулаў нагадалі пра яе верасень. Артыкул гісторыка Наталлі Гардзіенка «Пантэон Беларусі. Наталля Арсеннева» на партале naviny.by. Яго пачатак з назвай «Сваячка Лермантава?» адразу ставіць пытанне. Аўтарка дзеліцца сваімі сумневамі: «У асяроддзі беларускай эміграцыі нараджалася багата міфаў. Адзін з іх, створаны даўнім прыхільнікам творчасці паэткі Антонам Адамовічам, сцвярджае, што яна мела далёкае сваяцтва з класікам рускай літаратуры Міхаілам Лермантавым. Аднак сама Наталля Арсеннева нідзе ніколі пра гэта не згадвала, і ніякіх пісьмовых пацвярджэнняў гэткага цікавага факту не знойдзена». Але ж разам з тым нідзе і ніколі паэтка не абвяргала гэтага факту. Нельга ўявіць, што Адамовіч сам прыдумаў гэта. І паэтка пагадзілася? Многія сустракаліся з ёю, ні ў кога не ўзнікала думка перапытаць. А мо хто пытаўся? Што да пісьмовых пацверджанняў, то як і дзе іх шукаць, калі столькі пажараў вынішчала на нашых землях усё, што гарыць, і нават тое, што не гарыць. Ды і хто іх шукаў, калі нават на такое простае пытанне: як звалі маці паэткі? — адказ знайсці было цяжка, хоць пыталася ва ўсіх, хто ведаў яе асабіста або мае сувязі з сям'ёй Кушаляў. І друкуецца здымак маці без імя…

Мела вялікую надзею на сп. Уладзіміра Кушаля, сына паэткі. Але да яго пры ўсіх маіх намаганнях так і не дайшла: між намі акіян. Недаверу, стомленасці, а мо і абыякавасці. Маю на ўвазе не сына паэткі. Разумею, ён пражыў жыццё, дзе было столькі ўсялякіх людзей і падзеяў, што, магчыма, і не жадае, каб іх стала яшчэ болей.

І раптам, ужо нават не чакаючы нейкіх вынікаў, атрымоўваю весткі ад спадара Янкі Запрудніка, які перадае ад Уладзіміра Кушаля, што маці звалі Клаўдзія, поўнае імя бацькі — Аляксей Аляксандравіч. Значыць, знайшлося яшчэ і імя дзеда паэткі. Што да быццам бы «міту», прыдуманага Адамовічам, то сын паэткі пацвярджае, што гэта праўда. І я цалкам пагаджаюся з лістом спадара Запрудніка: «Думаю, што гэта «патрыятычная» выдумка аб несваяцтве Арсеньневай з Арсеньневымі»…

У гэтым годзе прайшла з паэткаю ці не ўсе яе сцежкі-дарогі. Не ў рэальнасці, зразумела. Часам слухала, як нараджаліся яе вершы. Не магу пэўна сцвярджаць, ці была паэтка ў нашай Гародні. Бо чаму б і не: зусім недалёка ад Слоніма. Але звестак не захавалася. То іду ўслед за ёю па слонімскай вуліцы. Уяўляю, як быў напісаны верш «Мэта жыцця», пад якім чытаем: Слонім, 1922 г. Нагадаю: у гэтым горадзе паэтка з сям'ёю пражыла паўтары гады (1922–1924). Гадавала першынца Яраслава, чакала Уладзіміра.

Яна ціха ішла па вуліцы, кочучы перад сабою лёгкі вазок і думала:

— Вось ён, маё дзіцятка, мой сыночак. Хіба ж гэта не ёсць мэтаю майго жыцця? Майго жыцця. А ў іншых людзей, напэўна, інакш. Ва ўсіх людзей інакш. Як у тых, моцных, змагароў? Што для іх мэтай? Мэта жыцця…

І раптам узнік рытм, які адпавядаў яе крокам. Рытм станавіўся выразным, дакладным. Пачаў гучаць верш, узніклі словы:

— Вось яны, людзі моцныя. Але ж ёсць і іншыя, слабыя. Людзі, у якіх няма сілаў змагацца. Такіх таксама многа. Мэта жыцця, кажуць людзі без сілы… Што для іх мэта? Проста ісці, дайсці да канца. А канец — гэта магіла. Мэта жыцця — дачакацца магілы. Самотна, але, напэўна, і так ёсць. Лёс зводзіць слабога з моцным. Бо што было, калі б інакш? Няпроста было б.

А што ж для мяне важней? А для мяне важней само жыццё. Вось гэты мой сынок у вазку. Ён маё жыццё зараз. Ён працяг майго жыцця. І ягоная мэта.

Сёння я павінна сказаць Францу, Францішку пра тое, што яшчэ адно жыццё зарадзілася пад маім сэрцам, пачало расці ўва мне. Сёння ўжо ведаю тое напэўна. Што ён скажа, мой муж, мой Франц? Чалавек моцны. Мэта ягонага жыцця — змагацца. Як ён успрыме гэтую навіну? Спадзяюся, абрадуецца…

Дайшла да дому, паклікала няньку, папрасіўшы: «Вазьміце дзіцятка. Ён яшчэ спіць. Мне трэба крыху часу, каб запісаць…»

Асадка хутка бегала па паперы, бо радкі ўжо ўпэўнена гучалі ў яе душы. Спяшалася, каб запісаць. Бо страціцца. І не вернеш. Як тое ўжо было неаднойчы. Дапісвала апошнюю страфу, як пачула плач Яраслава. «Нешта тут не зусім. Але нічога, пазней спраўлю…» Кінула на стол асадку і пабегла да свайго Сонейка…

Пазней, значна пазней яна і сапраўды адшліфуе некаторыя свае вершы. Як мне, то тыя, першыя рэдакцыі гучаць нейк больш пяшчотна. Калі нават яны і не выверaныя, калі часам зрываецца рытм…

«29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пыла дарогі сляды.

30. Але гора Вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі Вы іх».

Гэты фінал апавядання «Апокрыф» Максіма Багдановіча згадваю, калі думаю пра Наталлю Арсенневу. Бо яны, Асобы, надзеленыя Небам не абы-якім талентам, Ягоныя пасланцы, носьбіты красы і светласці, таксама пакінулі сляды. Замоўчванне, а яшчэ горай ганьбаванне імя паэткі — гэта і ёсць знішчэнне яе слядоў.

# КРАЙ ВЯСЁЛКАВЫХ ДАРОГ ТОДАРА ЛЕБЯДЫ

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**6 студзеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Тодара Лебяды, паэта, драматурга, публіцыста, аднаго з самых пакутных беларускіх песняроў, вязня сталінскага ГУЛАГа, які прайшоў праз усе нягоды смутнага часу.**

Тодар Лебяда — псеўданім Пятра Фёдаравіча Шырокава. Ён з ліку тых дванаццаці студэнтаў Мінскага пединстытута, якія былі арыштаваныя ў 1936 годзе па абвінавачванні ў буржуазным нацыяналізме. Яго блізкімі сябрамі, якія раздзялілі лёс выгнанніка, былі вядомыя паэты-эмігранты Масей Сяднёў і Уладзімір Клішэвіч.

Тодар Лебяда зведаў шмат пакутаў: сталінскія турмы і лагеры, жыццё ў акупаванай Беларусі, эміграцыю ў канцы вайны, невыносную тугу па Радзіме, якая стала адной з прычынаў вяртання ў Беларусь. Тут яго зноў чакаў арышт і самы страшны прысуд — расстрэл. Можна толькі здагадвацца, якія пакуты вынес паэт у той жахлівай камеры-адзіночцы для смертнікаў. «Часта мне здавалася, што са мною размаўляюць сваякі, якіх ужо не было на гэтым свеце. Ва ўяўленнях я бачыў іх. Відаць, вар'яцеў паціху...», — успамінаў ён. Праз два тыдні смяротнае пакаранне было заменена на 25 гадоў зняволення.

Ізноў тое ж невыноснае пекла, праз якое прайшоў у трыццатых. А на Радзіме, куды Тодар Лебяда вярнуўся толькі ў 1960-ым, ён не знайшоў прытулку з-за таго, што многае тут змянілася. І ў ягонай сям'і таксама. Апошнія гады пражыў на чужыне, на Разаншчыне, дзе і памёр у 1970 годзе, перанёсшы два інфаркты.

Самым значным дасягненнем творчасці Тодара Лебяды з'яўляюцца яго «Песні выгнання», што выйшлі ў Менску у 1944 годзе. У 1991-ым іх перавыдала кааперацыйнае таварыства «Адраджэнне» (наклад, праўда, усяго 500 асобнікаў).

Тодар Лебяда — адзін з тых Гусляроў, якому ўдалося выжыць ва ўмовах бальшавіцкага пекла з яго адмысловым сатанізмам, каб расказаць пра гэта. Як многім творцам, паэту дадзена было прадказаць свой лёс, сваё шчасце вярнуцца з выгнання. Нібы прароцтва, гучаць радкі з вершa-прысвячэння «Уладзіміру Хадыку»:

*Прыйдзе час, і хтосьці, мо' адзіны,*
*Застанецца ўсё такі гусьляр!*

*Ён тады у сонечным прадвесьні*
*Пойдзе ў край вясёлкавых дарог, —*
*Ён тады з выгнаньня нашы песьні*
*Разьнясе па родных берагох.*

Паэт выжыў у той цемры таму, што ўмеў лётаць услед за сваімі думкамі, якім няма «Сібіру, суровае кары» ў «край вясёлкавых дарог», каб адагрэцца там душою, набрацца моцы. Хоць на нейкі час пазбавіцца пякельнай пакуты, пабываць на Радзіме: «Ляці ж, мая думка, ляці ж, мая радасць, на родны, далёкі курган». Думкі, услед за якімі імкне герой, досыць розныя: аб родных загонах, аб маленькай дачушцы, аб ягоным каханні. Каханая становіцца ўсяго толькі рэхам уласнага ўспаміну...

Лірычны герой Тодара Лебяды пачынае адчуваць сябе ў «кагорце мерцвякоў», і гэта адчуванне ўвесь час узмацняецца, нягледзячы на моц духу паэта. Нават у адзін з самых лірычных вершаў «Развітанне з маленькай дачушкай» паэт уводзіць трагічны настрой, адчуванне смерці, калі вырастае пачуццё халоднага магільнага жаху:

*Я еду ў край*
*Такі, што ты й ня сьніла,*
*Дзе многа, многа*
*Страшных мерцьвякоў,*
*Дзе кожны дзень*
*Капаюцца магілы*
*Дзеля замучаных,*
*Зьняволеных бацькоў.*

Беларусь як «край вясёлкавых дарог» — гэта мроя паэта, якой (а ён тое добра ведаў) супрацьпастаўлены жорсткія рэаліі сталінскіх часоў. У вершы «Цяжка, цяжка беларусу...» Тодар Лебяда перапрацоўвае фальклорны матыў — зварот да вольных птушак, дзікіх гусей, што лятуць на яго Радзіму. Узнікае вобраз забранага краю, дзе нішчацца спрадвечныя духоўныя скарбы, дзе пануюць чорныя сілы зла

Жахлівая адзінота, беспрытульнасць чалавека-выгнанца, адчай, безвыходнасць гучаць у «Лістах да сябра». «Сібірская глуш», «дзікі ўсход — людская дамавіна», «дзікая тайга» — такім бачыцца паэту край ягонага зняволення. У гэтых вершах асабліва выразна вымалёўваецца характэрны беларускай паэзіі матыў «тут — там». Там — шырокі бэз у квецені, тут — «пад кожнай шпалай... замучаны ў выгнаньні беларус», там — «шасьцяць калосьсем нівы», тут — «мёрзлая зямля».

Мысленне паэта ў выніку становіцца вельмі парадаксальным, калі святло і цемра ўяўляюць сабой адзіны непадзельны комплекс узаемазвязаных з'яў, дзе адбываецца рэзкае і імгненнае межаванне аптымізму і песімізму. З аднаго боку, нязгасная сіла веры ў «раньняе прадвесьне» Беларусі, з другога — разуменне рэальнага становішча на Радзіме, адсюль — шчымлівы адчай паэта. Грамадзянская асабістасць Тодара Лебяды нібы становіцца ў апазіцыю да яго душы. І калі з аднаго боку мы бачым найвялікшую веру, дык з другога — абсалютны адчай:

*Дагару душою*
*Нават на прадвесьні,*
*Бо укралі сэрца*
*Цесныя муры.*
*Дагару — завяну,*
*Не прапеўшы песьні,*
*Разгубляўшы песьні*
*Рана на зары.*

Але, насуперак усяму, да нас прыйшло адчайна-светлае паэтычнае слова Тодара Лебяды, прыйшло, як пасланне з таго жахлівага свету, дзе давялося пабываць паэту з сонечнай душой.

…У гады вайны Тодар Лебяда напісаў п'есу «Загубленае жыццё» (першы антыбальшавіцкі твор у беларускай драматургіі), якая мела поспех на сцэнах тэатраў у акупаванай Беларусі. Ягонае жыццё, як і жыццё героя, таксама было загубленым.

ЮБІЛЕЙ

# ПА-САПРАЎДНАМУ ТАЛЕНАВІТЫ

Лада АЛЕЙНІК

**Творчую індывідуальнасць Андрэя Федарэнкі ахарактарызаваць складана. Калі паспрабаваць скласці «псіхалагічны партрэт» пісьменніка паводле яго твораў, то вобраз атрымаецца надзвычай супярэчлівы. Эпік і лірык, іронік і сатырык, рамантык і рэаліст. Сціплы і амбітны. Надзвычай далікатны, чуйны, даткліві… І выключна жорсткі. Шчыры, як дзіця, і хітраванец, якіх свет не бачыў. Ён шматаблічны і непрадказальны. Бясспрэчна адно: Федарэнка па-сапраўднаму таленавіты.**



Фота Алены Казловай

Яго талент быў заўважаны адразу. Пасля першых яе публікацый у часопісе «Маладосць» (у 1987 г.) пра А. Федарэнку імгненна «загаварылі». Спачатку «кулуарна» — у рэдакцыйных кабінетах ды прыватных літаратурных кампаніях. А крыху пазней, пасля выхаду кнігі «Гісторыя хваробы» (1989), яго творчасць прыцягнула ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Гэта натуральна, бо ўжо ў дэбютнай кніжцы малады пісьменнік красамоўна «заявіў» пра свой эпічны талент, прадэманстраваў здольнасць да глыбокага псіхалагічнага аналізу і мастацкай тыпізацыі характараў. У артыкуле «Агрэсія формы. Стылёвыя пошукі маладой прозы» (1991) літаратуразнаўца Людміла Корань слушна заўважыла: «Спосаб апавядання А. Федарэнкі, як і ўсе, здаецца, вядомыя спосабы апавядання ў свеце, з абсурдысцкімі ўключна, сто разоў апісаны лепшымі даследчыкамі класічнай псіхалагічнай прозы як рускай, так і замежнай. Гэта тая манера апавядання, калі пісьменнік паказвае адносна аўтаномную, асінхронную да праяў знешняга свету плынь унутранага жыцця чалавека, з абавязковым у той жа час паказам гэтага самага аб'ектыўнага пачатку — знешняга жыцця. Сам прынцып, такім чынам, не новы. Штука ў тым, каб адкрываць кожны раз нанова ў рэальным жыцці гэтыя сутнасныя «счапленні» розных з'яў і знаходзіць сродкі адэкватнага перакладу адкрытага на паперу. Выяўленчыя сродкі А. Федарэнкі якраз і даюць магчымасць убачыць, як, з чаго склалася тое, што спраўдзілася, што маеш як факт, як падзею, як вынік, — тое, чаго ніхто не чакаў».

Сёння, праз чвэрць стагоддзя пасля выхаду дэбютнай кніжкі, думаецца, ужо ні ў кога не засталося сумневу, што А. Федарэнка спраўдзіўся і з'яўляецца адным з найвыбітных майстроў у беларускім прыгожым пісьменстве.

…Кажуць, пра што б ні пісаў пісьменнік, ён заўсёды піша пра сябе. У адносінах да А. Федарэнкі гэтую крылатую фразу можна ўспрымаць амаль літаральна, бо шмат якія з яго твораў маюць аўтабіяграфічны характар. Да іх ліку належаць аповесці «Гісторыя хваробы», «Вёска», «Пра аднаго пісьменніка», эсэ «З коцікам, або Гісторыя ненапісанай аповесці», раман «Рэвізія», шматлікія апавяданні. У той жа час ніводзін з названых твораў не з'яўляецца літаральным жыццяпісам аўтара, фактычна ў кожным з іх пераважае мастацкі вымысел. Інакш кажучы, аўтабіяграфічны элемент прысутнічае, але ён падпарадкуецца творчай задуме, выступае матэрыялам пабудовы мастацкага сюжэта. Нават пра раман-эсэ «Мяжа» нельга сказаць, што ён з'яўляецца абсалютным адлюстраваннем рэальнага жыцця аўтара, хаця ў гэтым творы непасрэдны аўтабіяграфізм дамінуе над мастацкім фактам. Тут пісьменнік робіць спробу «разабрацца ў сабе», зафіксаваць нараджэнне і рэалізацыю (з усёй непаслядоўнасцю, супярэчлівасцю, забяганнямі наперад і вяртаннямі назад) уласных задум. Тут адлюстраваны і працэс выспявання ідэй, і вырашальныя ўплывы знешняга жыцця, і само з'яўленне тэксту, — з памкненнямі адрэфлексаваць, зрабіць відавочным «патаемнае» ў творчым працэсе. Менавіта «Мяжа» дазваляе найбольш аб'ектыўна зразумець саму сутнасць асобы аўтара, манеру яго пісьма і лад мыслення.

У рамане «Рэвізія», які зрабіўся сапраўднай з'явай у беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя і дзе ў вобразе галоўнага героя Алеся Трухана/Трухановіча яўна пазнаецца аўтар, А. Федарэнка выступіў у трыадзінай іпастасі «аўтар — герой — рэвізор». Яго рэвізія ў пэўнай ступені была прысвечана дзейнасці літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя», але, безумоўна, не абмяжоўвалася адно падсумаваннем творчых набыткаў Таварыства. Па сутнасці, пісьменнік зрабіў спробу мастацкага асэнсавання агульных заканамернасцей у працэсе развіцця айчыннай літаратуры, агляду ее тэматычных і вобразна-выяўленчых абсягаў, а паралельна з гэтым паспрабаваў адказаць на самыя актуальныя для мастака пытанні: у чым сэнс і мэта мастацкай творчасці; ці варта ўвагі (а галоўнае – духоўных высілкаў) тое, што мы (я) робім; як і пра што трэба пісаць?.. Інакш кажучы, пісьменнік выступіў у творы ў ролі гісторыка літаратуры і яе крытыка.

І яшчэ адзін прыклад — аповесць «Повесць». (Пад такой назвай твор быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» № 5 у 2006 г. Пазней А. Федарэнка перапрацаваў гэтую аповесць, змяніў яе кампазіцыю і ўзбуйніў сюжэт. У кнігу «Ланцуг» аповесць увайшла пад назвай «Пра аднаго пісьменніка»). Сюжэт пабудаваны на «канфлікце» вопытнага рэдактара літаратурна-мастацкага часопіса і аўтара-пачаткоўца — жанчыны, якая працуе «дыспетчарам пуці на невялікай станцыі-раз'ездзе» і ў даволі спелым узросце вырашае «паспрабаваць сваё пяро». Паводле кампазіцыі твор уяўляе сабой «завочны» дыялог рэдактара і аўтара — цытаванне арыгінальнага твора суправаджаецца каментарамі спрактыкаванага літаратара. Пазіцыя рэдактара акрэслена адназначна: у дэбютанткі няма шанцаў на поспех. «Пахвальна, што Вы нарадзілі і выхоўваеце дваіх дзяцей, што Вас не засмактала жыццёвая багна, у душы захавалася прага самарэалізацыі і ўсё такое. Але дазвольце спытаць: што перашкаджае Вам самарэалізоўвацца непасрэдна па сваёй дыспетчарска-чыгуначнай лініі? У якой Вы напэўна разбіраецеся не горш, чым у літаратуры?». Такім чынам, фактычна ў пачатку твора заяўлена катэгарычнае сцвярджэнне, што твору дэбютанткі наканавана параза. Але на працягу разгортвання сюжэта даказваецца адваротнае. Рэдактар палемізуе з нявопытнай пісьменніцай хутчэй па інерцыі — крытыкуе яе за стылёвыя хібы, моўныя штампы, неістотныя фактычныя памылкі і іншыя дробныя агрэхі, але на самой справе ён перажывае неймаверны шквал эмоцый. Незаўважна для самога сябе ён пачынае згадваць свае юнацкія гады, сяброў, каханую, па вялікім рахунку — герой нанава перажывае ўсё сваё жыццё. І гэтым самым А. Федарэнка даказвае неправамернасць тэзы, заяўленай у пачатку твора.

Вось гэткую ж мастацкую стратэгію пісьменнік выкарыстаў у рамане-эсэ «Мяжа». Тыя чытачы, якія былі больш-менш абазнаны ў творчай манеры А. Федарэнкі, цудоўна разумелі, што гаворку ён вядзе зусім не пра «падвядзенне рахункаў»... Асноўнай праблемай рамана-эсэ, думаецца, зрабіўся пошук адказу на самае важнае для пісьменніка пытанне: "Як я стаў тым, кім стаў?» А. Федарэнка фармулюе яго такім чынам: «У меру сіл мы хацелі прасачыць на адной канкрэтна ўзятай біяграфіі, на гэтых зведзеных у адно выпадках, гісторыях, сітуацыях зародак творчасці. Як у народзе кажуць — адкуль што бярэцца? Чалавек дзякуючы такой біяграфіі абавязкова рана ці позна павінен быў бы пісаць, ці ён ужо нарадзіўся «дзвінутым»?..». Менавіта адказ на гэтае пытанне запатрабаваў звароту і да самых першых жыццёвых уражанняў, і згадак пра тое, як пазней нараджаўся той ці іншы твор.

Складваецца ўражанне, што А. Федарэнка не пакінуў без увагі ўвогуле ніводную праблему, уласцівую творцу. Ён вытлумачвае, адкуль браліся сюжэты і вобразы, якія кнігі і пісьменнікі паўплывалі на яго светабачанне і мысленне, як працаваў над стылем, якія эмоцыі перажываў з-за крытыкі, якія пачуцці выклікалі публікацыі новых твораў. Ён даводзіць, што прайшоў праз многія жыццёвыя выпрабаванні, а па вялікім рахунку — проста выжыў, дзякуючы творчасці. І асноўнае перакананне, да якога прыйшоў шляхам спробаў і памылак, фармулюецца так: «Не важна, колькі разоў ты ўпаў, важна, колькі падняўся. <...> Пішы. Рабі тое, да чаго ляжыць душа, што ў цябе, як ты лічыш, лепш за іншае атрымліваецца, у чым ты бачыш сваё прызванне — а там як карта ляжа, там аддацца на волю закону: пашэнціла — не пашэнціла».

У эпілогу заключнай часткі А. Федарэнка падводзіць своеасаблівае рэзюме, дзе, нарэшце, прызнаецца, што ў тыя «падсумаванне» і «падвядзенне вынікаў», пра якія ішла гаворка ў пачатку твора, ён сам не надта верыць. Пісьменнік ізноў падкрэслівае, што пры ўсіх выдатках і пакутах літаратурная творчасць з'яўляецца магутнай матывацыяй для самога існавання мастака, яна адначасова — і лад жыцця, і яго сэнс.

А зараз варта спраўдзіць, якія творчыя набыткі займеў А. Федарэнка за гэтыя пяць гадоў, што прайшлі з моманту друкавання «Мяжы». Інакш кажучы, ці ж з'явілася ў яго «другое дыханне»…

Мяркуйце самі.

У 2012 г. пісьменнік выдаў кнігу прозы «Ланцуг» (у якую ўвайшлі шэсць аповесцей) і зборнік літаратурных эсэ «Сечка». Пераклаў на рускую мову кнігу «Афганская шкатулка». У 2013 г. выдаў зборнік выбраных твораў «Вёска» і надрукаваў шэраг твораў у літаратурна-мастацкіх часопісах. Пры гэтым можна без перабольшвання сказаць, што фактычна кожная публікацыя рабілася літаратурнай падзеяй. Аповесць «Ціша», напрыклад, якая выйшла ў «Маладосці» (№ 7), адразу ж выклікала рэзананс у літаратурных колах. Гэта аповесць «двуххадрасная», яна з аднолькавай цікавасцю чытаецца і падлеткамі, і дарослымі. Кожны чытач, натуральна, знаходзіць тут свае сэнсы, бо твор шматмерны і шматузроўневы, надзвычай канцэнтраваны паводле зместу. У ім выключна глыбока распрацаваны характары, арыгінальна выбудаваны сюжэт — складаныя падзеі «дарослага» жыцця і нават пытанні аксіялагічнага кшталту выяўлены праз свядомасць дзіцяці...

Альбо аповесць «Дзядзька Адольф», надрукаваная напрыканцы 2013 г. у «Дзеяслове» (№ 67), у якой вобраз галоўнага героя атрымаўся настолькі неадназначным, што яго «ідэнтыфікацыі» палягаюць у дыяметральна супрацьлеглых маральна-этычных каардынатах. Некаторыя чытачы, напрыклад, лічаць героя шараговым правінцыйным няўдачнікам — наіўным, крыху абмежаваным, не надта шчаслівым, які заслугоўвае адно спачування ды шкадавання. Іншыя схільны бачыць у ім «маленькага фюрэра» — беспадстаўна амбітнага, эгаістычнага і эгацэнтрычнага, жорсткага, няздольнага не толькі да любові, але нават да элементарнага спачування… Ізноў усё ў стылі Федарэнкі — шчыра і проста, шматзначна і складана. Віртуозна, адным словам.

Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што сваё пяцідзесяцігоддзе А. Федарэнка сустракае ў творчым росквіце. У яго ёсць фактычна ўсё, пра што можа марыць пісьменнік — талент, плён, запатрабаванасць, прызнанне крытыкаў і літаратуразнаўцаў, чытацкая ўвага і павага. Чаго ж можна пажадаць такому пісьменніку з нагоды слаўнага юбілея? …Згадваецца, як цёпла напісаў Федарэнка ў заключным раздзеле «Сечкі» пра Янку Брыля, які «здолеў усё, што трапляла ў поле яго зроку, падпарадкаваць любімай справе». Вось і самому Федарэнку хочацца пажадаць таго, пра што ён з белай зайздрасцю пісаў у дачыненні да жыцця і творчасці Брыля: «…Пахадзіць па свежай пакошы, папіць у спёку халоднага малака нагбом з паліванай гладышкі, паслухаць рып маладога снегу пад падэшвамі, пасумаваць разам з жоўтым восеньскім лістом, памацаць у пальцах клейкую пахкую веснавую пупышку, пачытаць любімую кнігу, няспешна, роўным прыгожым почыркам запісаць усё гэта…».

**Цалкам артыкул будзе апублікаваны ў № 68 часопіса «Дзеяслоў»**

ЗАПІСЫ ДЛЯ СЯБЕ

# НА ХВАЛІ БРАЦКАГА ДАВЕРУ

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

**8.IV.1963**

Быкаў прыслаў ліст. Дзякуе за «спачуванне» ў яго кіно-непрыемнасцях. Але: «Толькі на фільм гэты я ўжо даўно плюнуў... Не па-мойму ён зроблен, шмат што не так, дрэнна, слаба — чорт з ім, з фільмам. Гэта балаган, а не мастацтва, — кіно. У літаратуры, не гледзячы на ўсё, усё ж больш твайго, аўтарскага, а кіно — дрэнь».

Цалкам згодзен. Але — ці трэба дзівіцца? Хто робіць у Беларусі кіно? Беспардонныя халтуршчыкі.

**18.V.1964**

Васіль зноў напамінае мне ў лісце, каб я пісаў. «Пішы вершы (і замовы!!), друкуй. Заўсёды з вялікай цікавасцю чытаю цябе ў газетах і часопісах. Жадаю табе поспехаў у прафесарскіх справах». Вось-вось! «Прафесарскія» справы і паглынаюць галоўным чынам мой час. Чытаць курс лекцый у БДУ — гэта не жартачкі.

**1.IX.1964**

Быкаў абяцае надрукаваць мае пераклады ў «Гродз. пр.» да 9 верасня, але не ўсе: адзін верш (Вапцарава) не пойдзе, «бо там — туга, сум, а гэта, сам ведаеш, супроцьпаказальна савецкаму чытачу. Таму начальства яго начыста забракавала. Хоць ён напісаны даўно і ў братняй Балгарыі — але!».

Не толькі даўно, але і напісаны паэтам, якога фашысты ў 1942 годзе расстралялі. Божа, што робіцца, які нялюдскі страх сядзіць у касцях у чыноўнікаў ад ідэалогіі! Харошы, светлы верш! Ну вядома ж, сумны, бо напісаны ў перадсмяротную гадзіну, перад расстрэлам. І што гэта рабіць з гэтым дубаўём?

«Чакаю пленуму, — піша Васіль, — хачу паслухаць нашых разумнікаў, пра новыя дасягненні беларускай раманістыкі. Патроху выдаюся-друкуюся — з неверагоднымі цяжкасцямі — у Мінску, трохі лягчэй — у Маскве. Лягчэй, бо Масква перарабляе толькі канцоўкі, а [выдавецтва] «Беларусь» наогул выкідвае мае кніжкі з планаў без ніякіх тлумачэнняў (напр., з плана 1965 года)».

У працяг гэтага Васіль паведамляе, што піша новую аповесць. «Але ўжо загадзя прадбачу пераробкі, памячаю ў рукапісу, што дзе не пойдзе, трэба ж яшчэ прадумаць, чым і як замяніць».

Вось так жывуць і твораць у Савецкім Саюзе таленавітыя і сумленныя пісьменнікі. Якая ганьба! Божа прасветлы, ці бачыш ты? Яшчэ піша, а ўжо думае, прыкідвае, што давядзецца выкрасліць і чым замяніць — каб упадабалі ў Галоўліце!.. Вось гэта рэалізм!..

Васіль пытаецца, як мае справы пісьменніцкія. «Нешта ты змоўк. Дзе твае замовы і закіды супраць усякае гідоты? Заўсёды з вялікай цікавасцю кідаюся на твае радкі ў часопісах — бо праўдзіва і сумленна».

Дзякую, браток! Мне вельмі-вельмі дорага чуць ад цябе гэтыя слоўцы.

**3.IV.1965**

Устрывожыў ліст Быкава наконт яго новай аповесці. «З аповесцю ў мяне, відаць, справа будзе доўгая і наўрад ці закончыцца аўтарскай перамогай. Аповесць атрымалася крутаватая па нораву, і кажуць рэдактары, што не ў час. (Час то юбілейны!) Але ў гэты раз я рашыў не ўступаць і не паддавацца — хапіла мне ўступаць з папярэднімі рэчамі, цяпер гэтыя ўступкі вылазяць папрокамі ў крытычных артыкулах (гл. напр. «Знамя»), і я не крыўдую, бо вінаваты сам — не трэба было паддавацца, хай бы лепш яны ляжалі недрукаваныя. А з новай рэччу рашыў быць нязломным».

Ну, памажы табе Бог, браток! Трымацца трэба да канца. Сапраўды, хай лепш не друкуюць. Гэты раз на юбілей (Перамозе — 20) спасылаюцца. Пісаць праўду, як далася нам Перамога, — нельга. Давайце і далей закідваць ворага шапкамі.



**Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Ніл Гілевіч**

**14.IV.1966**

Апошні лісток Васіля — горкі. «Дзякаваць Богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства. Хлопцы падбадзёрваюць — гэта ўмацоўвае мае сілы. А ўвогуле кепска. Не артыкул, артыкул — глупства. Па ўсіх іншых каналах. Дайшло нават да школ і дзяцей. У школах даводзяць, што Быкаў — гэта гродзенскі Сіняўскі, вораг. І хто? Вядома, кадравыя работнікі КГБ. Пайшлі на прадпрыемствы з «разъяснениями». З дня на дзень усё горш. Як ваўка ў аблаву.

Але — вытрымаем!

І падтрымка сяброў абавязвае. Дзякуй!»

Так, гэта вельмі добра, што Вярцінскі і Бураўкін задумалі сабраць подпісы ў абарону Быкава і што я ім на самым важным этапе дапамог (узяць подпісы ў Лынькова і Куляшова — маіх нарачанскіх суседзяў). Гэта — цяжкая артылерыя).

Добра то добра, але што будзе, чым закончыцца? Гэта ж можна затравіць чалавека канчаткова. Ды якога чалавека! Пісьменніка, якім павінна ганарыцца не толькі беларуская літаратура, але і ўся савецкая.

О-о, дык жа нашы справы куды горшыя, чым я думаў. Нашмат горшыя.

**15.IV.1976**

Вельмі добры ліст прыйшоў ад Васіля — узрадаваў мяне надзвычай.

«Дарагі дружа Ніл!

Быў хворы, трохі падпаў духам і чытаў твой блакноцік, твае «Актавы». Скажу табе адразу: кранулі яны мяне да самай глыбіні душы, засмуцілі сваімі сумам, — харошым чалавечым сумам і смуткам. Вялікі ты малайчына, што неяк неўзаметку, спакваля напісаў столькі маленькіх цудаў — так усё проста і так шчыра, глыбока па думцы і кранае. Дай табе Бог і надалей! І мусіць даць».

Далей Быкаў расказвае, што ў сне бачыў тры мае вялікія, як Біблія, тамы. «Яшчэ падумаў: глядзі ты, як выдалі Ніла — нібы Броўку. Прачнуўшыся, падумаў: а што? Не цяпер, дык, можа, некалі выдадуць... Але не блага і ў такім маленькім блакноціку. Выдатны, браце, блакноцік! (...) Дай Бог табе здароўя, настрою і трошачкі вершаў. Такіх, як актавы».

Не ведаю, што напішуць пра мае «Актавы» крытыкі, але што б ні напісалі — пасля сказанага Быкавым ужо не будзе мець для мяне асаблівага значэння.

**10.IX.1988**

Быкаў адпачывае ў Нідзе, у Доме творчасці СП Літвы. Прыслаў лісток. Радуюся, што ён лічыць неабходным менавіта са мной падзяліцца ўражаннямі ад сённяшняй сітуацыі ў братоўлітоўцаў. Васіль піша: «Атрымаў твой ліст з «ЛіМам», дзякую за ўвагу. Здаецца мне, «ЛіМ», які ён ні ёсць, — адзіная ў нас газета, якая нешта робіць у сэнсе перабудовы. А вось літоўцы не чакаюць, яны на прадпрыемствах, ва ўстановах ствараюць камітэты, якія даволі актыўнічаюць. Гэта відаць па газетах. Пасылаю табе выразку з дыскусіі. Цікава!»

У мяне з Васілём па-ранейшаму поўнае ўзаемаразуменне, самая шчырая сяброўская еднасць. І што я рабіў бы, як чуўся і за што трымаўся б, калі б не наш узаемны брацкі давер? Што рабіў бы, атрымліваючы неспадзяваны нож у спіну ад сяброў? Надзеі мае — перш за ўсё на цябе. 25 гадоў (нават з гакам!) вернага, хочацца сказаць — салдацкага, брацтва, — о, Васіль! Зберажэм яго ў самых жахлівых абставінах! Калі не дзеля вялікіх перамог Беларусі, дык хоць бы дзеля таго, каб паважаць саміх сябе. Каб элементарна паважаць сябе.

Верш Васіля Быкава, прысланы мне на каляднай паштоўцы:

*Шчодры вечар, шчаслівы вечар,*
*Самотны вечар, шаноўны пан!*
*Гарыць на куце паўтузін свечак,*
*Хрыстос нам свеціць і гоніць зман.*

*Хрыстосу слава і кволым слава,*
*Цярплiўцам моцы ў цярпенні дам,*
*Галодным хлеба, убогім веры, —*
*Жыцця і шчасця усім людзям!*

**В. Быкаў, 5.1.1991**

# 23-ТАМОВЫ ЗБОР ТВОРАЎ НАРОДНАГА ПАЭТА

**Выйшла апошняя кніга з 23-тамовага збору твораў Ніла Гілевіча, які народны паэт Беларусі выдаваў 10 гадоў за свой уласны кошт. У збор увайшлі рэчы, напісаныя больш як за 60 гадоў.**



Укладаючы збор твораў, Ніл Гілевіч патрабавальна выбіраў найлепшае з напісанага. На жаль, кнігі выходзілі зусім невялікім накладам — некаторыя тамы толькі па 50–100 асобнікаў. Большую частку аўтар раздаваў родным, сябрам і знаёмым. Паэт сціпла адмовіўся гаварыць пра значнасць завяршэння працы над 23-тамовікам, палічыўшы, што пра вынік ягонай 10-гадовай працы найлепш распавядуць бліжэйшыя сябры і чытачы. Ніл Гілевіч адзначыў, што ўсе выдадзеныя кнігі надрукаваў за свае сродкі:

«Я гэты збор выдаў за сваю дохлую пенсію. Ніводнага рубля ніякі спонсар мне не даваў. Я ж чытаю навіны і ведаю, як паэты на 20, 30, 40 гадоў за мяне маладзейшыя ездзяць па Еўропе, атрымліваюць ад спонсараў дапамогу. Вялікую дапамогу. А я — ні капейкі... У мяне тры тамы выйшлі па 50 экзэмпляраў. Некалькі тамоў — па 70, некалькі — па 100... Хто і дзе пачытае гэты збор? Толькі ў Нацыянальнай бібліятэцы. Бо астатняе я ўсё раздаў сваім родным і сябрам».

Літаратуразнаўца Лідзія Савік у 2003 годзе прысутнічала на прэзентацыі праекту выдання. Распавядаючы пра жанравую разнастайнасць збора, яна адзначыла, што праца, прароблёная Нілам Гілевічам падчас стварэння 23-тамовіка, пад сілу хіба што цэламу літаратурнаму інстытуту: «Найперш Ніл Гілевіч — паэт. Таму паэзія займае ажно шэсць тамоў збора. Гэта вершы, вершаваны раман «Родныя дзеці», паэмы, сатыра і гумар, літаратурныя містыфікацыі, цыкл гістарычных паэм, казкі і загадкі для дзяцей. Тры тамы займаюць пераклады са славянскіх моваў: балгарскай, расійскай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, лужыцкай, македонскай, чэшскай — усяго больш за 400 паэтаў... У публіцыстычных творах Ніл Сымонавіч вельмі смела і адкрыта гаворыць пра самыя надзённыя і балючыя праблемы грамадства, называючы імёны, агучваючы тое, што іншыя баяцца сказаць услых. Таксама шмат ёсць твораў празаічных, сярод якіх раман «Перажыўшы вайну»... У зборы — літаратуразнаўчыя і крытычныя працы, сабраны аўтарам фальклёр, запісы са сшыткаў, занатоўкі, рэплікі, моўныя жывінкі, прадмовы, выбраныя старонкі з дзённіка паэта».

Паэт Анатоль Вярцінскі назіраў, з якім пачуццём Ніл Гілевіч узяў у рукі завяршальны том сваёй працы:

«29 снежня Ніл Гілевіч пабачыў наяве апошні том распачатага 10 гадоў таму выдання 23-томнага збору твораў. Пабачыў, патрымаў у руках і паставіў на сваё, адпаведна нумарацыі, месца, побач з падобнымі цёмна-сінягa колеру томікамі... Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя абставіны, смела задуманы і рупліва падрыхтаваны маштабны выдавецкі праект канчаткова рэалізаваўся. Збор твораў у 23 тамах стаў фактам. І, трэба думаць, фактам не толькі творчай біяграфіі аўтара, але і ўсёй беларускай літаратуры, фактам грамадскакультурнага жыцця краіны.

Значэнне падзеі — не столькі ў вонкавых параметрах, колькі ў змесце, у танальнасці і сэнсававыяўленчай сутнасці, у маральным крэда аўтара. У дадзеным выпадку гэта крэда вельмі цэльнае, вытрыманае, паслядоўнае з твору ў твор, з аднаго тома ў другі.

Прывяду ў якасці прыкладу ледзь не скразны лейтматыў. У свой час Віктар Каваленка сказаў пра паэтычную творчасць Ніла Гілевіча: «Паэзія глыбокай веры». Сам Ніл Гілевіч адну са сваіх кніг прозы, старонкі якой увайшлі ў 16-ты том, назваў «У гэта веру». А верш, прысвечаны памяці Максіма Гарэцкага, заканчваецца сцверджаннем: «Тая вера не памерла, не сканала. Тая вера, тая вера ў нас жыве». Вера — у што, у каго? Менавіта гэтым пытаннем прасякнутыя і адказваюць на яго шматлікія вершаваныя і празаічныя радкі збора твораў. Гэта вера ў несмяротнае матчына слова, што гэтаму слову жыць вечна, вера ў нашую нацыянальную годнасць, у шчаслівую будучыню свабоднай незалежнай Беларусі, і паэтычна-песенная вера ў тое, што «усё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі». 23 тамы — як 23 верставыя знакі на шляху да запаветнай мэты».

**Радыё Свабода**

БЫЛІЦА

# ТУШКА

Павел ЛЯХНОВІЧ



Аўтаномка пераваліла за палову. Гэта значыць: з трох месяцаў, што экіпаж мусіць не ўсплываючы буравіць падводным ракетаносцам недры акіянаў, засталося меней за паўтара.

Чым увогуле займаюцца падводнікі? Увогуле — яны абараняюць Радзіму. У нашым экіпажы сто пяцьдзясят чалавек. З іх большасць — расейцы. Яны абараняюць Расею. Ёсць чатыры беларусы, яны, натуральна, абараняюць Беларусь. Татары, азербайджанцы, башкіры — адпаведна. Бо калі мы самім фактам знаходжання ў аўтаномцы абараняем Радзіму, то нельга ж дапусціць, што я абараняю Башкірыю! Я нават вельмі цьмяна ўяўляю, дзе яна размешчана. Так што я Беларусь абараняю, бо толькі яе адчуваю Радзімай.

Цікава — а што абараняюць яўрэі? Іх таксама ёсць у нас — насуперак распаўсюджанаму перакананню, што яўрэй і падводны човен несумяшчальныя. Яшчэ як файна сумяшчальныя!

Яны, мабыць, абараняюць Ізраіль. Ці, можа — Бірабіджан? (Думаю — мае калегі па экіпажы, «асобы сяміцкай нацыянальнасці», уяўляюць Бірабіджан — як і я Башкірыю).

Зампаліт сцвярджае, што ўсе мы (і ён у тым ліку!) абараняем Савецкі Саюз. Бо ён — СССР — і ёсць Радзіма. А розныя там «рэспублікі», «вокругі» з пункту зору зама — ну… таксама, натуральна, Радзіма, але не тая… «Малая»! А мы ў аўтаномцы абараняем «вялікую».

Сам зампаліт называе сябе «беларусам Варонежскага разліву», але прыкамандыраваны на аўтаномку контрвыведчык з асобага аддзелу КГБ разведаў і пусціў у экіпажы чутку, што наш замуля — яўрэй. Ён, асабіст, абсалютна дакладна гэта вызначыў шляхам таемнага абнюхвання. Ад зампаліта ўвесь час пахне куркай. А куры — улюбёная ежа яўрэяў. Так што ніякіх сумневаў. Крыміналістыка плюс дэдукцыя!

Курыцай пахне і ад доктара, але той карэец з вузкімі вачыма, смуглявай скурай, і там ніякага сіянізму быць не можа. Наш прыкамандыраваны чэкіст марыць выкрыць сіяніцкую арганізацыю. Ён абараняе Радзіму вось гэтак — хоча выкрыць.

Насамрэч зам наш штодзень «правярае» правізіёнку, і заўсёды вяртаецца адтуль з сінявытай курынай тушкай, якую потым яны з доктарам таемна вараць у лазарэце. Выкарыстоўваючы не па прызначэнні стэрылізатар. Гэтак яны таксама абараняюць СССР. У кожнага свая функцыя… Увесь экіпаж, апрача контрвыведчыка, ведае пра штодзённыя харчовыя «вакханаліі» ў лазарэце…

…Падводны човен прыняў на борт шаснаццаць балістычных ракет, кожная з якіх можа зруйнаваць некалькі Хірасімаў-Нагасакаў, потым таемна пракраўся ў «раён агнявых пазіцыяў» у Паўночнай Атлантыцы, а цяпер гэтак жа таемна швэндаецца туды-сюды ў гэтым раёне. Кожныя суткі ў пэўны час ад чаўна аддзяляецца апарат і падымае да паверхні акіяна антэну. Праз яе на човен павінен прыйсці загад Радзімы запусціць тыя ракеты. Гэта будзе апафеоз абароны Радзімы. То бок мы яе, Радзіму, абараняем і зараз, але калі запусцім ракеты, то — ого-го!

Куды паляцяць тыя ракеты — нам невядома. Не нашага розуму справа. Гэта ведае сама Радзіма. Яна з самага пачатку аўтаномкі ўжо нацэліла іх куды трэба, каго мы павінны «замачыць» і «сцерці».

Тыя, каго мы трымаем пад прыцэлам, ведаюць гэта. Мы не ведаем — каго, а тыя ведаюць — хто іх… І на самым выхадзе з Кольскай затокі, амаль што ад Кільдзінскай плёсы нас ужо чакаюць. І потым увесь час за намі таемна сочаць, падлы.

Каб у выпадку, калі Радзіма загадае яе бараніць, не даць нам гэтага зрабіць. Утапіць раней, чым мы запусцім ракеты.

Таму мы ўвесь час правяраемся — а ці не сочаць за намі, ці няма па карме варожага падводнага чаўна? І калі аказваецца, што сочаць — уцякаем з усіх сілаў. Пятляем, як заяц пад ганчаком — мяняючы кірункі і глыбіні, хаваючыся пад падводнымі суднамі і за падводнымі гукавымі бар'ерамі.

…У той дзень (ці ноч, бо для падводнікаў гэтыя паняцці ўмоўныя) вахцённы акустык замест абыякава-соннага «…акустычны далягляд чысты…» крыху ўзбуджана праціўкаў: «Цэнтральны, штурман-гідраакустык! Пасылка гідралакатара па пеленгу сто дваццаць!» Гэта азначала, што нехта «мацае» санарам, вызначае нашы каардынаты. Сочка!

Камандзір тэрмінова сабраў карабельны баявы разлік, і з гэтага моманту звычайна спакойныя, паўсонныя вахты ператварыліся ў бадзёрыя і напружаныя. Штурман перадаў гідраакустыкам скрутак паперы-мілімятроўкі, і тыя рэгістравалі выпадкі работы санара на графіку — для наступнага аналізу. Падводны ракетаносец адрываўся ад сочкі «хвалевым зігзагам» — кожныя чвэрць гадзіны мяняючы курс і глыбіню пагружэння. Усталявалі рэжым «Цішыня». Марна! Не-не, ды і здараліся адна-дзве пасылкі варожага гідралакатара. Праціўнік учэпіста трымаў нас у полі зору.

На чарговай нарадзе карабельнага баявога разліку камандзір давёў, што паводле яго аналізу графіку, што вядуць акустыкі, найбольш эпізодаў работы санара адбываецца кожныя чатыры гадзіны. З гэтага ён зрабіў выснову, што на падводным чаўне, які ажыццяўляе сочку, вахта мяняецца гэтак жа, як і ў нас — праз чатыры гадзіны. Перад зменай удакладняюць нашыя каардынаты і перадаюць вахту.

Розныя тактычныя прыёмы адрыву ад сочкі, рэкамендаваныя сакрэтнымі і зусім сакрэтнымі «кіруючымі дакументамі», плёну не давалі. Камандзір быў на мяжы істэрыкі, а экіпаж таемна радаваўся — аўтаномку маглі спыніць і загадаць вярнуцца дадому. Штурман употай падабраў і адклаў патрэбныя мапы.

Напрыканцы таго напружанага тыдня зампаліт сабраў у каюткампаніі партыйна-камсамольскі актыў (апроч задзейнічаных на вахце), і заклікаў «…ва ўмовах жорсткага процідзеяння супрацьлодачных сілаў і сродкаў верагоднага праціўніка… узмацніць палітычную пільнасць, пільнасць нясення вахтаў, дзеля чаго правесці сходы партыйных і камсамольскіх ячэйкаў, выпусціць на гэтую тэму баявыя лісткі…» і г.д. Пасля імпрэзы ён традыцыйна «праверыў» правізіёнку і знік за дзвярыма лазарэту…

…Апушчаная ў кіпень стэрылізатара замарожаная курыца пачала мякчэць. Доктар заварушыў ноздрамі і запытальна паглядзеў на зампаліта:

— Барыс Аляксеевіч, Вам не здаецца, што курка гэта… ну…, крыху смярдзіць?

Зам сунуў нос у стэрылізатар, з шумам уцягнуў паветра:

— Ды не… Але ў мяне нешта нос закладзены. Відаць, у правізіёнцы падстудзіў, там такая халадэча, а я разагрэты. Бегаеш-бегаеш па караблі! Ні хвіліны спакою! Кажаш — смярдзіць? Можа, як зварым — перастане?

Курыцу зварылі, але доктараў нос усё роўна злавіў небяспечны пах. Якраз гэтым часам паўз лазарэцкія дзверы ішоў падвахцены гідраакустык, матрос Ярошык, і доктар уручыў тушку яму — загадаў занесці ў скрынку з харчовымі адкідамі.

Па дарозе Ярошык нічога кепскага не ўнюхаў, і ў скрынку трапілі толькі чыста абсмактаныя курыныя костачкі…

…– Штосьці ў мяне жывот круціць! — Трэці раз за вахту паскардзіўся камандзіру групы Ярошык. — Дазвольце?

— Ідзі, што з табою зробіш… — Незадаволена прабурчэў старлей. — Толькі хуценька. Краіне патрэбны героі, а прысылаюць выключна засранцаў…

Хуценька не атрымалася. Бліжэйшы гальюн быў заняты. Жывот Ярошыка бунтаваў і патрабаваў неадкладнага вырашэння праблемы.

Другі па адлегласці — праз адзін адсек — быў гальюн першага. Праўда, перавышаючы службовыя паўнамоцтвы, яго заангажаваў камандзір крэйсера. Павесіў на дзвярах вісячы замок. Ключ хаваў побач, у закутку. Думаў — ён адзіны ведае месца схованкі… Ха! Праз тыдзень гэта ведалі нават у дзясятым!

Матрос заляцеў у першы адсек, падскочыў да дзвярэй гальюна, прытанцоўваючы, сунуў руку ў схованку. Фартуна павярнулася да гідраакустыка тварам, злёгку ўсміхаючыся. Ключ быў на месцы! І — уфф! Як мала часам трэба чалавеку для шчасця!...

…У стане сатысфакцыі Ярошык націснуў на педаль змыву. Ён не падазраваў яшчэ, што Фартуна ўсміхнулася шырэй. Можна сказаць нават — яна вышчарылася на ўсе трыццаць два зубы. Педаль унітаза адказала тоненькім скрыгатам. Вельмі чамусьці знаёмым.

Заходзячы ў гідраакустычную рубку, Ярошык пачуў канец дакладу: «…пасылка гідралакатара па пеленгу…», і яму як стрэліла ў галаву — той скрыгат педалі вельмі падобны на гук у слухаўках, калі тракт вызначэння гідраакустычных сігналаў рэгіструе чарговую пасылку варожага санара!

— Вось я зараз яшчэ дзве пасылкі зраблю, — сказаў Ярошык. — Ці тры… Колькі трэба? Зараз, ташш стршы цьнат, праз хвіліну — будзе тры пасылкі запар!

— Зрабі-зрабі. — Іранічна прапеў старлей, адзначаючы ў графіку чарговую работу санара. — Хутка камандзір радыё дасць, што ад сочкі адарвацца не можам, і тады дадому пойдзем! Да-до-му! Бэчэ-чатыры ўжо гэтае радыё падрыхта-ва-ла!

Ярошык вярнуўся ў гальюн першага, і тры разы націснуў на педаль. Педаль у адказ тры разы прапішчала тоненькім рыпеннем. А як вярнуўся ў рубку, камандзір гідраакустыкаў дакладваў Цэнтральнаму Пасту і штурману пра тры пасылкі гідралакатара.

Аказваецца — цэлы тыдзень адрываліся ад уласнай прыбіральні! Поўная аналогія спробаў ката ўцячы ад бляшанкі, прывязанай піянерамі да хваста!

Мінны афіцэр, ён жа камандзір першага, асабіста разбіраў унітаз і змазваў педаль, а камадзір карабля і зампаліт на працягу года тыцкалі яго туды носам — фігуральна. На ўсіх сходах узгадвалі той выпадак.

Ярошык — нечакана! — атрымаў заахвочванне. Дзесяць сутак адпачынку з выездам на Радзіму. «Малую». А што? Лічы — паўаўтаномкі для «вялікай» Радзімы зброг.

А той графік, што акустыкі вялі, аказаўся графікам наведвання гальюна першага адсеку! Цяпер недзе ў сакрэтных архівах захоўваецца.



Калі мы самім фактам знаходжання ў аўтаномцы абараняем Радзіму, то нельга ж дапусціць, што я абараняю Башкірыю! Я нават вельмі цьмяна ўяўляю, дзе яна размешчана. Так што я Беларусь абараняю, бо толькі яе адчуваю Радзімай

ВЕРШЫ

# УЧОРА — ЯК ЗАЎТРА

## СТОМЛЕНЫЯ ЭКСПРОМТЫ

**Данута БІЧЭЛЬ**



Фота Радыё Свабода

### Дожджык

*Дожджык стаіць на парозе і плача —*
*вымак да ніткі, такая няўдача…*
*Хмаркі растрос, сам сябе паліваў,*
*дробнай дажджынкай зямлю прабіваў.*

*Стомлены дожджык, павалены плот,*
*пад частаколінай спіць сабе крот.*
*Некалі нехта спяваў:*
*— Сікані,*
*кроціка ў норку хутчэй прагані!*
*Дзетак на белым кані пракаці!*
*Грому з маланкай дай падрасці!*

*Белая хмарка, чырвоная кроў —*
*гэтак у дожджыкаў, як у звяроў…*
*Ды калі дзеці не дражняць дажджу,*
*нейкая вільгаць праймае душу…*

*Так ён стаяў на парозе і плакаў —*
*ніўку паліў, і такая няўдзяка?!*
*Дожджык грыбны — падарунак ад Бога.*
*Ў хаце чакалі кагосьці другога…*

*Грому чакалі ці стрэлу ў акно?*
*Хату пакінулі людзі даўно…*
*Дзе гаспадар, гаспадыня, суседзі?*
*Ўнучак з чужыны таксама не едзе…*

*Дожджык стаіць на каменнай прыступцы,*
*топчацца, нібы таўкачык у ступцы.*
*Можа, праз крэйку вылезлі з дому*
*сустрач дажджу, ці Духу Святому?*

*Дожджык самотна ходзіць па крэйцы,*
*ключ ад замка шукае ў павецці.*
*Сплакаўся дожджык, стаміўся і сціх…*
*— Ідзі пад бярозкі, там знойдзеш сваіх…*

*Там і зязюля кукуе ў галлі,*
*быццам бы людзі жывуць, як жылі.*
*Грыб там расце незямной смакаты,*
*нібы хто вырве той грыб, сапраўды…*

**1. 04. 2013**

### Паміж

*Выйдзі, мастачка, за рамку,*
*адчыні кляновую брамку,*
*пераскоч праз сваю пералазку,*
*намалюй жыццця свайго казку.*

*Маладзічок мае вобад,*
*маладзічок мае клопат:*
*бо трэба ж па небе хадзіць*
*ды яшчэ гэты вобад круціць…*

*Цямрэча межаў не мае,*
*здаецца, маўчыць, нямая,*
*кроў не цячэ з яе ран.*
*А можа, гэта падман?*

*А недзе на цёмных хмарках*
*душы сяброў усміхаюцца:*
*боль не ўтрымаў іх у рамках,*
*няхай сабе пакалыхаюцца…*

*Паміж расахатых вербаў*
*гайданку месячык выбраў,*
*хвастом зачапіўся за крук,*
*не мае месячык рук…*

*І я не маю прытулку,*
*выходжу з хаты на вуліцу.*
*Хата мая занята —*
*сядзіць там адна вар'ятка.*

**1. 04. 2013**

### Адна

*Адна ў беспрытульнай цямрэчы…*
*Дзе Твае мужчынскія плечы?*
*Дзе Айцоўская воля здалечы?*
*Спіхнеш маё сумнае ложа*
*да супакою падножжа,*
*і скончыцца падарожжа,*
*Духу Святы, Мой Божа!*

*І прыйдзе новае ранне,*
*і сэрца балець перастане,*
*і сонейка не загляне…*
*Духу Святы, Мой Пане!*

*І хто ж падасць мне кілішак*
*у мой халодны зацішак, –*
*хто, як не ты, мой сябра святы,*
*паэта святы Францішак?*

**1.04. 2013**

### Сон

*Лясная дарога заліта асфальтам.*
*Ехала я ў машыне з нейкім ветлівым*
*франтам.*
*Ці багатыя франты ў снах выдаюць*
*гранты?*
*Ці багатыя франты усе цяпер эмігранты?*

*Не было ў тым аўто ні руля, ні экрана…*
*Нібы гэта пачатак маладога рамана…*
*Высокія дрэвы і чыстыя кветкі —*
*усё, як у вершах адной забытай паэткі.*

*А паэтка, з мінулых дзён апанентка, —*
*амбітная, не маладая какетка,*
*на сядзенні сядзіць ды са мной размаўляе*
*і камень у сне за душой не трымае.*

*Такую мне ночка прыдумала рандку!*
*Няхай бы той сон не канчаўся да ранку!*
*Так ехаць — ад могілкаў аж да Бурносаў…*
*Вядома, паэзія — гэта не проза…*

*А душачка мамы, як сонечны лісцік,*
*над роднай дарожкай ляцела кудысьці…*
*А душачка таты глядзела здалёку —*
*у добрага Боженькі навідавоку.*

**2. 04. 2013**

### Тата

*Заходзіць у сон апаўночы*
*ў здзірванелы садочак цётчын.*

*Так часта здараецца ў стомленым сне:*
*палохае цётчына хата мяне,*
*так страшна было калісьці, даўно,*
*як немец пастукаў да цёткі ў акно…*
*А неба ў тым сне, нібы чорная сажа.*
*А тата глядзіць на мяне ды і кажа:*
*— Данусья, аддай мне нашага хлопца!*
*Яму ж, як жораву, палётаць шчэ хочацца.*
*А тут, дзе лётаюць душы цяпер,*
*анёлы лётаюць — без крыл, без прапелера…*
*Дзе вы жывеце — там морак, балота…*
*Сажалка высахла, жораў не лётае.*

*Кажу я тату:*
*— Ты нас не чапай!*
*Няхай наш хлапчына, як чапля, чапае,*
*нібы ў чарадзейным, прыдуманым сне…*
*Няхай пакутуе каля мяне.*

*А ты вяртайся, адкуль прыйшоў, —*
*да продкаў, да зімародкаў, вужоў!*
*Ты мяне цётчынай хатай не страш!*
*Час для палётаў пакуль што не наш…*

*Шчэ мы даснім чароўныя сны —*
*спачатку я, а потым яны,*
*нашчадак твой, мой стомлены сын…*
*А прыйдзе час — і мы паляцім…*

**3. 04. 2013**

### Сцяг

*За гарою крутой*
*горад стаў на пастой,*
*люду ў горадзе — рой,*
*у людзей свой герой…*

*На гары той смялей,*
*хто на белай скале*
*паміж зорак і хмар*
*кроўю выкрасаў шнар…*

**3. 04. 2013**

### Выбраныя

*Да мяне пасылаеш з высокіх яснот*
*гэты нікчэмны, няздатны народ —*
*пакалечаны, паламаны,*
*злы, крыклівы ды апантаны…*

*Я выціраю ім лапкі,*
*абуваю на лапкі лапці…*
*Ні ўдзячнасці, ні прывітання —*
*ні «з Богам», ні «да сустрэчы»…*
*Хрыпенне ды скавытанне.*
*Іх вусны мову калечаць.*

*І Ты мне іх аддаеш,*
*каб жылося ім крыху лепш?*
*Я сама на самюткім дне…*
*Дух Святы, выцягвай мяне!*

*На дне нячысты прыціх,*
*штурхае пад рэбры ўсіх,*
*і віжуе там гадаўё…*
*І яно таксама — Тваё.*

**4.04.2013**

### Учора — як заўтра

*Учораісці было можна,*
*але і сёння не позна.*
*І не адкладвай так болей,*
*каб не было — на ніколі…*

*І так ты далёка зойдзеш,*
*і так сваё месца зоймеш…*
*Запрашай сабе, каго стрэнеш*
*сярод свайго пакалення.*

*Ідзі за тым, хто марудзіць,*
*ці перад тым, хто заблудзіць,*
*за тым, хто цябе стварыў,*
*перад тым, каго ты ствараеш, —*
*бо ўсіх сам сабе выдумляеш…*

*Падсвядомасць родзіцца ў сэрцы,*
*свядомасць сядзіць пры талерцы…*
*Усе вясновыя катаклізмы*
*адбіваюцца ў постмадэрнізмы.*

*Не хавайся ў густым алешніку,*
*лепей звіні на арэшніку*
*ўзімку, вясной і летам*
*перад бязмежным сусветам.*

*Не падпальвай вогнішча вершамі,*
*над полымем іх развешвай:*
*бо вершы — вёрсткія вельмі,*
*як каткі, залазяць на вербы.*

*Не зачыняць неба ў вачах,*
*добра гучаць пры свечках.*
*Не зацягваюць вершы ў адчай,*
*у адчай зацягвае рэчка.*

*Кожны верш, самы горшы,*
*падарыць табе можа грошык, —*
*няхай сабе коціцца па вярсце,*
*нібы пакаці-гарошак…*

*Няхай сабе дрэмле ў кішэні,*
*магчыма, твой лёс пераменіць.*
*Пераменіць твой лёс або не, —*
*верш анікога не абмане.*

**18. 04. 2013**

### Зноў пра дожджык на досвітку

*Дожджык прыходзіць дахаты*
*на досвітку п'янаваты.*
*Вядзе яго п'яная хмарка, —*
*і пачынаецца сварка.*

*Лепш не чапай гэтай хмаркі —*
*па скуры пойдуць запаркі.*
*Не гладзь яе супраць поўсці,*
*хмарка ўмее помсціць.*

*І з дожджыкам марная спрэчка —*
*ён бывае злосны, як печка.*
*Уцякай ты ад іх, а наверсе*
*пасядзі сабе ды пагрэйся…*

**18. 04. 2013**

### Марс і Венера

*Такія ўсяленскія дзеі,*
*і вынік іх вельмі мізэрны:*
*планета Марс халадзее,*
*а Венера гарачая вельмі.*

*Марс маленькім быў, не дарос,*
*закаціўся на крэйку нябёс,*
*здалёку холадам бліскае.*
*А Венера да сонца блізка.*

*Сонейка свеціць усім —*
*гарачым, халодным і злым,*
*гаючымі промнямі лашчыць*
*і тых, каго нават не бачыць…*

*Так думаю: а няўжо,*
*калі стану толькі душой,*
*буду лётаць з Венеры на Марс,*
*і забуду вясёлых вас…*

**24. 04. 2013**

АБРАЗКІ

# ВАСІЛЬКІ

Зянон ПАЗЬНЯК

## Рамук

Некалі пад Трабамі пры дарозе стаяў стары дом. І жыў там на хутары Рамук Мацкойць. Наш сваяк, дзядзька Адварды, што быў арганістым у Сурвілішках, часта па дарозе да яго заязджаў яшчэ з маладых гадоў (гэта значыць ад часу І-й Сусветнай вайны). То вады каню, то проста пагаварыць…

Потым, у 15-м, прыйшлі немцы. Вакол шмат пагарэлі, але Рамук застаўся і не галадаў, грэцкі блін меў. У 19-м з'явіліся бальшавікі. Зрабавалі і Рамука. Але калі неяк Адварды зазірнуў да яго ранкам, то грэцкі блін на стале быў.

Вясной таго ж году Пілсудскі прывёў палякаў. Тыя бальшавікоў крыху папаролі, але Рамук таго нават не бачыў і жыў сабе, як раней. Потым зноў прыйшлі бальшавікі, зрабавалі Рамука, а за бальшавікамі — зноў вярнуліся палякі. Цяпер ужо надоўга. Але Рамук неяк не разжыўся, не разбудаваўся.

У 1939-м прыехалі бальшавікі. Пачалі хапаць і вывозіць людзей. Адзін раз Адварды заехаў, Рамук грэцкі блін есць і кажа:

— Пане Адварды, кажуць, што ўсіх вывезуць і будуць тут камуну рабіць. І, кажуць, жонак абагульваць збіраюцца.

Потым прыйшлі немцы. Рамука не турбавалі, праўда, падаткі і нарыхтоўкі плацілі ўжо немцам, і адну дачку ў Нямеччыну вывезлі.

У 1944-м вярнуліся саветы, аблажылі ўсіх падаткамі, кожнае дрэва і кожнае свінчо. Неяк Адварды заехаў, а Рамук яблыні ў садзе пілуе. Зайшлі ў хату. Рамук грэцкі блін есць і кажа:

— Цісnuць, халера, з тых яблыняў не наясіся, а плаці. Няма ходу, пане Адварды, людзі пілуюць, і я спілаваў.

Потым, у 1949-м, пачаліся «калгасы», абагульванне, згон з хутароў, вываз людзей. Рамук ацалеў, бо, баючыся, каб не вывезлі, усё аддаў у «калгас». Засталася хата, хлеў, «соткі» каля хаты, карова, свінчо ды куры.

У пачатку 50-х, незадоўга да смерці, Адварды, ідучы пехам у Трабы з качарэжкай, зайшоў да таго Рамука.

Жонка якраз ставіла на стол патэльню з грэцкім блінам. Стары Рамук і кажа:

— Пане Адварды, дык што цяпер на свеце чуваць? Можа, якая змена будзе?

Тут Адварды, абаперышся рукамі на качарэжку, якую трымаў між каленяў, адказвае:

— Нібы не чуваць. Але табе, Рамук, што? Сто разоў была тая змена, а ты як еў грэцкі блін, дык і цяпер ясі. Ці табе гэта абходзіць?

— Я так пану скажу: чалавек не скаціна, каб сваім кідацца, але прыглядацца мусіць. Таму і ем, што прыглядаюся. Вунь гэты Альбін Зыгманцюк, на саломе спаў, гарэлку піў. Пайшоў да белых, думаў, каго абдзярэ, дык разбагацее. Цяпер дзе ён, проша пана? О! Ніхто не ведае, бо забралі.

— Ад гультаёў ды галоты і ўся брыдота, — кажа Адварды. — Ну, пара збірацца.

І так пагаварыўшы, ішоў сабе далей.

1 студзеня 2013 г.

## Фэлька

Неяк адразу пасля вайны паехаў дзядзька Фэлікс у Вільню. Там «пад галяй» спаткаў земляка, старога знаёмца Віцьку Кондуся. Тое ды гэтае, разгаварыліся, па Вільні ходзяць, у крамы зазіраюць, то пілу, то касу, то кантовую бабку трэба. Зайшлі ў сталовую перакусіць і заадно самагонкі выпіць, якой Фэлька прывёз.

А тут трэба нагадаць, што за Сталінам за самагонку — турма. Але крамную гарэлку і савецкае фруктовае віно (цяперашняе «чарніла») можна было браць на разліў у любой краме, дзе тое прадавалася, і тут жа каля прылаўка выпіць. Словам, піць можна было ўсюды, але толькі савецкае пойла. Праўда, тады п'янства яшчэ не было, і людзі сталінскімі льготамі не надта і карысталіся.

Тым часам нашыя дзядзькі ў сталовай узялі нейкія там савецкія катлеты, Фэлька — бутэльку на стол, разліў па паўшклянкі і задумаўся. А потым узяў і гэтак шырока перажагнаўся дый кажа:

— Ну, з Богам, п'ём, Віцька, за здароўе! — Выпілі і ядуць сабе. Аж тут за суседнім сталом аказаўся нейкі савецкі лейтэнант (Фэлька яго адразу прыкмеціў) і гэтак «по-русски вкрадчиво говорит»:

— Скажите, вот вы перекрестились. Это зачем, чтобы водка слаще стала или как?

Фэлька жуе і гэтак самавіта на ўсю сталовую гудзіць:

— Ну, павінен жа чалавек нечым адрозніваццa ад свінні, — і далей жуе.

Віцька аж папярхнуўся ад страху. А Фэлька зноў налівае па паўшкаліка і кажа:

— Ну, з Богам, Віцька, каб не апошнюю.

На лейтэнанта — нуль увагі. Выпіўшы, Фэлька лезе ў торбу, дастае закручаны ў палатно кавалак сала і пачынае наразаць:

— Во, пакаштуйма яшчэ сала. Сваё, свойскае, сам калоў, сам саліў. З кменам, браце, — кажа Фэлька і махае нажом.

Дзядзькі ядуць, а лейтэнант глядзіць. Але неяк звяў, спахмурнеў і мяўчыць. Нешта яго як бы спаралізавала. Можа, не зразумеў гаворкі (мова — вялікая сіла).

От так часам бывала пры Сталіне ў нас на Віленшчыне. Фэлька пад страхой яшчэ вінтоўку трымаў. Дык чаго яму баяцца?

14 чэрвеня 2013 г.

## Васількі

Гісторыя гэтая пачыналася ў канцы пяцідзясятых. Быў такі Віцька Каралевіч. Добра ў валейбол гуляў і на ровары ганяў, як вецер. Віцька ўвогуле быў харошы хлапец. Яго хвалілі і ведалі. Скончыўшы школу, працаваў шафёрам у саўгасе. Калі хто чаго папросіць зрабіць, з'ездзіць куды, на станцыю падкінуць ці яшчэ што, — Віцька ніколі не адмаўляў, да людзей ставіўся з павагай і любіў пагаварыць са старэйшымі местачкоўцамі на розныя тэмы ды іх паслухаць.

З выгляду быў высокі, моцнай косці, сабе на ўме і крыху з гумарам. Гарэлкі не ўжываў. Так, трохі, хіба дзеля смеласці, калі танцы ў клубе. Тады з Вулькай так польку выстукваў, што падлога дрыжэла, а Вулька, расчырванелая ўся, толькі вухкала: «Ух! Ух! У-у-ух!»

Вулька была вясёлая. У клубе толькі і чуўся яе звонкі смех. Дзяўчаты Вульку таксама любілі і каля яе гуртаваліся. Словам, Вулька запальвала ўсіх сваёй энергіяй.

Пасля школы Вулька пакруглела і вырабілася ў такую дзеўку, што о-ё-ёй. Думала паступіць у педагагічны інстытут, але не прайшла па конкурсе, вярнулася і пайшла працаваць рахункаводам у саўгасе. Вульку запрашалі на працу ў клуб, але бацькі сказалі: «Няма чаго на тыя капейкі лезці».

Якраз была ўборка. Камбайны працавалі без перапынку, і Віцька вазіў збожжа. Дні былі гарачыя. Аднойчы Віцька падвозіў Вульку ў суседнюю брыгаду. Абодва трэсліся па палявой дарозе ў душнай кабіне. Віцька раз-пораз кідаў погляды на круглыя, як рэпа, калені Вулькі, глядзеў на яе — крэпкую, расчырванелую, вясёлую — і адчуваў, што пачынае дурэць.



За Сталінам за самагонку — турма. Але крамную гарэлку і савецкае фруктовае віно (цяперашняе «чарніла») можна было браць на разліў у любой краме, дзе тое прадавалася, і тут жа каля прылаўка выпіць. Словам, піць можна было ўсюды, але толькі савецкае пойла

Віцька спыніў машыну, выскачыў і кажа:

— Вулька, Вулька, хадзі, во, нешта пакажу. — Вывеў Вульку і, нічога не кажучы, паваліў у жыта.

— Ты што? Дурны! Дурны! — залямантавала Вулька. Дзяўчына круцілася, падрапала Віцьку твар, нават укусіла яго за руку, аж кроў пайшла. Словам, выкачалі з паўгектара, а Вулька не паддавалася. Віцька стаміўся, нават імпэт прапаў. Тут Вулька раптам сагнула ногі амаль пад бараду і як штурхне Віцьку, дык той і адваліўся. А Вулька ўсхапілася, адляцела да дарогі і крычыць:

— Дурны, дурны, дурны! — І хвігу яму, хвігу: — Во табе! Во табе, во табе! Дурань! Прыдурак! Баран! Казёл! Бацьку скажу! — завярнулася, залезла ў кабіну і сядзіць сабе, валасы папраўляе, гузікі на сукенцы лічыць.

А Віцька стаіць у жыце, рот разявіўшы. Ён ужо і сам адчуў сябе дурнем, лепш бы ўцякла тая Вулька. Шчыра кажучы, яна яму вельмі падабалася, даўно прыглядаўся і сур'ёзныя думкі выношваў. І што на яго найшло — усё сапсаваў. Канец.

Моўчкі залез у кабіну і завёў матор. Каб жа толькі матор! Завялася Вулька.

— Ніколі не думала, што ты такі дурны, Віцька. На цябе паглядзіш — дык здаецца, во, мужчына ўжо сяр'ёзны. А ты — хто? Мача яму ў галаву стукнула — ён і палез. Во кавалер! Во харашун! Ты во прыедзеш, у маткі спытай, як трэба з дзеўкамі абыходзіцца. Цябе, відаць, нічаму не вучылі, дык у цябе розум, як у пеўня.

— Змоўкні, Вулька, — агрызнуўся Віцька, — я цябе не абзываў.

— Не абзываў?! Ты хацеў мяне згвалціць!

І Вулька раптам як залемантуе… Плача, і слёзы, як боб, коцяцца.

Тут Віцька збянтэжыўся не на жарты. Яго павінны былі забіраць у войска ў лістападзе. Усё пайшло наперакасяк, і Вулькі не будзе. Не будзе ўжо. Гэта пэўна.

— Вулька, — хрыпла прамовіў Віцька, — Вулька, даруй. Ты мне да душы, Вулька, павер, але я здурэў. Даруй.

Вулька маўчала, усхліпваючы раз-пораз. Слоўны запас Віцькі скончыўся, і ён маўчаў, не ведаючы, што казаць і што рабіць.

— Вулька, — нарэшце зноў азваўся Віцька, — хочаш, я перад табой на калені стану?

І Вулька перастала плакаць.

— Яшчэ чаго! Як гэта — хлапец і будзе перад дзяўчынай на каленях стаяць?! Перад Богам стань. Мне тваіх кленчаў не трэба.

— І перад Богам стану. Я шчыра, Вулька, вер мне.

Даехалі да брыгады. Вулька выйшла, бразнуўшы дзвярыма, і пакрочыла, не азіраючыся.

А Віцька Вульцы падабаўся яшчэ са школы. От за такога, здаецца, і замуж пайшла б. Толькі ці ж ёй Віцьку пра гэта казаць? І тут на табе — усё абвалілася. І што з такім гарод гарадзіць!

Можа, і разышліся б назаўсёды Віцькавыя і Вульчыны дарожкі, калі б не нечаканыя падзеі.

Калі Вулька позна вечарам вярнулася дахаты, у доме была злавесная цішыня. Бацька сядзеў пануры і глядзеў у падлогу. Маці хадзіла па хаце.

— Вулька, — выстраліла яна, — што ты сёння з Віцькам у жыце рабіла?

Ад нечаканасці Вулька аж ёкнула, але не адчуваючы за сабой віны, кажа:

— Віцька дабіраўся, але я не далася.

— Паскудніца ты, — закрычала маці, — ужо мястэчка гудзе! Хто табе паверыць, нават калі і не далася?! Чаго ты з ім там скруцілася, каб цябе халера ўжо скруціла, як ты нас зганьбіла.

— Мама, памаўчы, бо цяжка. Віцька добры хлапец, толькі дурнота на яго найшла. Я ж кажу, што не далася. Але калі ўжо людзі ведаюць… Што рабіць? Можа, паеду куды ў свет?

— Ну, дурноту трэба выганяць, — прабурчэў бацька, падняўся і выйшаў. Відаць было праз вакно, што ён сеў на ровар і паехаў.

— Костусь, вярніся! Костусь! — ведаючы яго характар, вылецела ўслед жонка.

Але дзе там! Костусь Пашкоўскі быў чалавек самавіты і разважлівы, але калі яго часам даводзілі да немагчымасці, то адзіным яго аргументам было імкненне даць па мухаедах. Не цярпеў і не згінаўся. Тут яшчэ трэба ўлічыць, што Вулька (самая малодшая пасля трох сыноў) была яго любіміцай, «бацькавай дачушкай». І Вулька без бацькі, было, ні кроку. Глядзіць на бацьку, як на абраз, што бацька скажа, тое і праўда. І з дзяцінства за ім, як хвасток: «Тата, татачка, а запражы коніка», «а вазьмі мяне з сабой», «а чаму пшчолкі не замярзаюць?», «а касіць мяне навучы». Костусь і пра пшчолкі расказваў, і з сабой усюды браў, і касіць навучыў. Вулька вырасла крэпкай, кроў з малаком. Як пачнуць з бацькам касіць, то на пяты яму наступае, толькі паспявай.

Віцька жыў адзін з маці. Бацька загінуў на вайне, а старэйшы брат быў у войску. Сястра выйшла замуж і жыла ў Лідзе. Якраз селі з маці вячэраць, як заходзіць Костусь Пашкоўскі.

— О, і Міхаліха тут. Вельмі добра, — сказаў Костусь.

Віцька ўсё зразумеў: Вулька расказала. Хлапец сцяўся, але ўсвядоміў: настае рашаючы момант. Альбо пан — альбо прапаў.

— Пані Міхаліха хай мне выбачыць, — пачаў Костусь, — але пры матцы хачу пагаварыць з Віцькам, — і, не чакаючы адказу Міхаліхі, — да Віцькі: — Што ты рабіў з Вулькай сёння ў жыце?! Ты чалавек ці ты жывёла, Віцька?!

Віцька ўстаў і кажа:

— Мама, дзядзька Костусь, выслухайце мяне спакойна. Я вінаваты, але між намі нічога не было. Дзядзька Костусь, можаце мяне забіць, але вам першаму кажу шчыра, што люблю Вульку, і яна пра тое не ведае. Але сёння я знішчыў усё…

Віцьку аж самому спадабалася, як ён добра гаворыць, аж тут матка:

— Чакай, дык што ты там знішчыў? Што нарабіў?

— Вульку хацеў, гэта, во, ну сілай значыцца…

— Вульку? Сілай? А мой ты сыночак, гэтую дзеўку сілай і рота не возьмець. Лепш было б па запаведзях. Ты б хоць з маткай параіўся.

Далейшай ганьбы Віцька ўжо вытрымаць не мог. Ён насупіўся — і да дзвярэй.

— Не рабеце з мяне дурня, бо я не дурань. Нічога з Вулькай не сталася. Во пайду і буду гаварыць з ёй. — Сказаў — і за парог.

Віцька завярнуў за клуню і сядзеў там у зарасніках палыну да поўначы, уздыхаючы і думаючы пра нескладнае сваё жыццё.

Костусь з Міхаліхай яшчэ доўга гаварылі і да нечага як бы дамовіліся. Уся бяда, што мястэчка ўжо рагатала і гуло. Аказваецца, што калі Віцька з Вулькай там качаўся, па дарозе на ровары ехаў Броніс Місюк, дзядзька слепаваты, барадаты і языкаты, як і ўсе Місюкі ў мястэчку.

Працяг на стар. 21 (13) ▸

► КРАЙ

# ГІСТОРЫЯ ВЁСКІ ПАДДУБ'Е

Алесь МАКРАЦОЎ

**Чалавек, куды б яго цягам жыцця ні закінуў лёс, заўсёды звязаны нябачнай пупавінай з галоўным на зямлі месцам — месцам нараджэння. Для мяне ім была і застаецца вёска Паддуб'е, што знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы Быхаўскага раёна. Яна назаўсёды прапісаная ў сэрцах, душах і пашпартах тых, каго нарадзіла і выгадавала.**

На вялікі жаль, ніякіх звестак пра афіцыйнае гістарычнае існаванне на Быхаўшчыне паселішча з такой назвай у нядаўна выдадзеным энцыклапедычным даведніку «Гарады і вёскі Беларусі» я не знайшоў. Таму вырашыў падзяліцца сваімі ведамі і звесткамі, атрыманымі з розных крыніцаў.

Вёска Паддуб'е Грудзінаўскага сельсавета Быхаўскага раёна па ўспамінах старажылаў была заснаваная ў 1924–1925 гадах перасяленцамі з бліжэйшых вёсак Рыжкаўкі і Перакладавіч. Пераважна сем'ямі маладых, беззямельных і малазямельных сялянаў, якія аддзяліліся ад бацькоў. Пасяленне было створанае на землях так званага дзяржаўнага запаснога фонда. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі землі, разам з навакольнымі, належалі петраградскай памешчыцы-графіні. Існавала вёска як два асобныя пасёлкі: уласна Паддуб'е (населены выхадцамі з Рыжкаўкі) і Вясёлы (населены выхадцамі з Перакладавіч). Знаходзіліся пасёлкі недалёка адзін ад аднаго. Мелі яны разрэджаную забудову, былі, па сутнасці, хутарскога тыпу.



Прымусовая калектывізацыя прыватных гаспадарак жыхароў абодвух пасёлкаў прайшла ў 1934 годзе. Тады тут пачаў існаваць калгас імя Н. А. Крупскай. Старшынём яго непрацяглы час быў мой дзед Дзмітрый Арцёмавіч Макрацоў. Затым увесь перадваенны час калгас узначальваў іншы, партыйны старшыня Сцяпан Яфімавіч Кандраценка.

З калектывізацыяй па ўсіх навакольных паселішчах прайшла хваля раскулачвання і высылення «ворагаў народа». Так, многія сем'і працалюбных гаспадароў былі высланыя савецкай уладай далёка на ўсход, у Сібір. У вёсцы Рыжкаўка адбыўся «жаночы бунт». Узброены супраціў прымусовай калектывізацыі аказалі некалькі жыхароў вёскі Давыдавічы…

У час Вялікай Айчыннай вайны Паддуб'е з ліпеня 1941 года па 26 чэрвеня 1944-га было акупаванае. Большасць мужчынаў у пачатку вайны мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Перад з'яўленнем немцаў у калгас з раёна прыехаў упаўнаважаны, які сабраў сход, заклікаў браць вілы і сякеры, забіваць паўсюдна фашыстаў і… хутка з'ехаў. Вяскоўцы пасля бачылі, як з боку вёскі Красніца самалёт скідваў парашутыстаў. На Пятро 12 ліпеня 1941 года сяляне здалёк назіралі, як па шляху (з боку Красніцы) на Рыжкаўку, дзе чулiся моцныя страляніна і выбухі, паўзлі варожыя танкі. Праз дзень, пасля абстрэлу вёскі савецкай танкеткай запальнымі кулямі, у Паддуб'і згарэла некалькі хат.

Калгас спыніў сваё існаванне. Немцы пастралялі й забралі калгасных свіней. Вяскоўцы разабралі коней ды інвентар. Падзялілі зямлю, пачалі абрабляць яе аднаасобна. Акупацыйнай уладай у вёсцы для падтрымкі парадку былі прымусова прызначаныя староста і паліцэйскія.

17 ліпеня 1942 года за сувязь з партызанамі карнікі знішчылі суседнюю Красніцу: спалілі разам з жыхарамі. Палілі і іншыя вёскі. Каб пазбегнуць такога ж лёсу, насельнікі Паддуб'я арганізавалі дзяжурства, па чарзе назіралі за ваколіцай. Калі ж узнікалі пагрозы, то хаваліся ў суседнім лесе.

У верасні 1943 года з усходу з нарастаючай сілай пачала даносіцца кананада. Але фронт не дайшоў да Паддуб'я, наадварот спыніўся перад знішчанай карнікамі Красніцай. Тутэйшыя людзі апынуліся ў прыфрантавой зоне. Семярых вяскоўцаў, якія наведаліся па прыхаваныя прадукты — Цімафея Сіўцова, Аксінню Сіўцову, Адар'ю Лаўрэнаву з грудным сынам, Лізу Казлову з малалетнім сынам, дзяўчынку гадоў чатырнаццаці з Перакладавічаў — акупанты залічылі да партызанаў і расстралялі… Напярэдадні Пакровы людзі вярнуліся ў свае хаты, але не паспелі ўладкавацца.

Акупанты на Пакровы выгналі іх з вёскі і перамясцілі далей на Захад (за Днепр у свой тыл). Зрабілі бежанцамі, а тых вяскоўцаў, якія без дазволу засталіся дома, пры затрыманні расстрэльвалі. Працаздольных у бежанстве прымушалі капаць акопы, валіць лес, выконваць іншую працу. Вясной 1944 года значная частка бежанцаў, пераважна моладзь, была вывезеная акупантамі для прымусовай працы ў Аўстрыю.

Пасля вызвалення родных мясцінаў ацалелыя вяскоўцы вярталіся ў сваё Паддуб'е. Мост цераз Днепр каля Быхава быў знішчаны. Але на яго апоры высока над вадой вайскоўцы паклалі вузкія кладкі. Па ім, рызыкуючы апынуцца ў рацэ, згаладалыя знясіленыя людзі перабіраліся на ўсходні бераг.

Больш чым трэць хатаў у Паддуб'і былі спаленыя. Годных для службы мужчын і юнакоў неўзабаве прызвалі ў войска. Саветамі ў вёсцы зноўку быў створаны калгас імя Н. К. Крупскай. Коней у ім не было. Каб узараць зямлю, даводзілася запрагацца людзям: жанчыны станавіліся парамі адна за адной, ды разам цягнулі плуг… Насення ў калгасе таксама не было. Выдзеленае дзяржавай зерне даводзілася насіць за дзясяткі кіламетраў з Быхава альбо Магілёва на сабе (дарослыя па 20–25 кг, моладзь па 15–18 кг). Зімой тых жа калгаснікаў ганялі за 10–25 км на лесанарыхтоўкі.

Карміліся вяскоўцы тады ўсім, што толькі можна было з'есці. Паколькі ж не было посуду, то ежу гатавалі ў снарадных гільзах і салдацкіх касках. Людзі, якія пазбавіліся сваіх хатаў, жылі ў пакінутых немцамі бліндажах, збудаваных зямлянках…

Пасля дэмабілізацыі з войска і вяртання дадому тутэйшых мужчын, у Паддуб'і пачалі адбудоўваць хаты. Калгасны двор пабудавалі паблізу вёскі. Там былі стайня, кароўнік, цялятнік, свінарнік, склады і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Існавала тады вёска ва ўмовах савецкага прыгоннага права: заараблялі вяскоўцы ў калгасе не грошы, а працадні. Сялянам не выдавалі пашпартоў, ніхто з калгаснікаў не мог атрымаць гэты дакумент без дазволу мясцовых начальнікаў. Паводле словаў маёй маці Ніны Севасцьянаўны Макрацовай (1926–2009 гады), якая добра вучылася ў даваеннай школе і імкнулася пасля вайны ўладкавацца на вучобу ці працу ў горадзе, на ўсе свае звароты да тагачаснага старшыні сельсавета з просьбай выдаць ёй неабходныя для атрымання пашпарта даведкі, пасля здзеклівага пытання: «А ў калгасе хто будзе працаваць?» — заўсёды атрымлівала адмову. Крыўда на таго сельсаветчыка, які фактычна сапсаваў ёй жыццё, заставалася ў сэрцы маці да апошніх дзён зямнога быцця.

Мінулая вайна пакінула ў наваколлі многа калючага дроту. Сяляне выкарыстоўвалі яго для агароджвання сваіх прысядзібных участкаў. Большасць вяскоўых надзелаў ахоўвалася такім плотам. Пазней абрыўкі і абломкі саржавелага дроту ранілі босыя ногі дзятвы, траўмавалі неабачлівых дарослых, прабівалі колы веласіпедаў. Іржавы калючы дрот зрабіўся неад'емнай рысай тагачаснай вёскі. Прыхаваныя травою фрагменты злоснай агароджы можна і сёння пабачыць на ўскраіне Паддуб'я…

Нягледзячы на цяжкі побыт, паводле ўспамінаў старых вяскоўцаў, жылі яны пасля вайны дружна: былі спагадлівымі, пры магчымасці збіраліся разам. Моладзь у хатах ладзіла вечарыны. Былі свае вастраслоўы і жартаўнікі, танцавалі пад гармонік, з задавальненнем спявалі, жаніліся і выходзілі замуж.

У пачатку пяцідзясятых гадоў вёска была радыёфікаваная. Электрыфікацыя ж паселішча, па ўспамінах аднавяскоўцаў, праводзілася ў 1963 годзе.

Да заканчэння існавання СССР мясцовыя жыхары адчувалі вострую нястачу сенажаці і пашы для сваёй жывёлы. Сялянам суседняй Грудзінаўкі нярэдка даводзілася пасвіць асабістых кароваў (не адзін статак) на палянках і дзялянках у лесе. Колькасць двароў і насельніцтва ў Грудзінаўцы пастаянна павялічвалася. Адна з грудзінаўскіх вуліц выцягнулася на поўдзень амаль да Паддуб'я. Гэта прывяло да таго, што яго афіцыйна ўключылі ў склад Грудзінаўкі. Пра штo, як ні дзіўна, большасць жыхароў Паддуб'я даведалася значна пазней, калі мясцовыя вуліцы атрымалі назвы Вербнай і Паддубнай. Праз колькі гадоў са стратай статуса асобнага населенага пункта Паддуб'е нечакана пазбавілася і свайго прыродна-гістарычнага сімвала: навальнічная бура, якая з вялікаю сілай пранеслася тут летам 1984 года, зламала старасвецкі дуб…

Пасля чарнобыльскай катастрофы Паддуб'е апынулася ў забруджанай радыяцыяй зоне. Зноў працяглы час вяскоўцам давялося жыць у няпэўнасці і страху. Аселыя ў гарадах дзеці, за рэдкім выключэннем, перасталі прывозіць да старых на лета ўнукаў. Грудзінаўскую школу-інтэрнат закрылі. Мясцовых школьнікаў сталі ўлетку вывозіць на аздараўленне ў замежжа. Збор ягад і грыбоў у лесе забараняўся. З'явіліся іншыя абмежаванні. Аднак толькі адна сям'я вырашыла скарыстацца правам на перасяленне (аб чым пазней шкадавала).

Побыт вяскоўцаў з гадамі вярнуўся ў звыклае рэчышча. Не зважаючы на абставіны, Паддуб'е працягвае сваё самастойнае жыццё. Ад суседняй Грудзінаўкі яго аддзяляюць глыбокая канава, мінуўшчына, сваё бачанне свету. Сёння ў паселішчы засталося 14 жылых двароў. Колькасць жыхароў паступова змяншаецца (большасць жыхароў — пенсіянеры). Толькі двое гаспадароў трымаюць кароў…

Некалі велічныя шчодрыя на дары лясы перватвораныя лесарубамі ў здзічэлыя, непрыветныя пусткі. Большасць прасёлкавых дарог і прылеглыя да іх землі зрэзаныя коламі лесанарыхтоўчай тэхнікі.

Побыт вяскоўцаў апошнім часам палепшыла хіба толькі агульная тэлефанізацыя ды прыватная аўталаўка, што перыядычна па зніжаных цэнах завозіць прадукты…

# ВАСІЛЬКІ

◄ Працяг. Пачатак на стар. 20 (12).

Ён угледзеў Віцькаў грузавік на ўзбочцы і Віцькавы прыгоды. Ён, убачыўшы Костуся, тое яму і расказаў. Ад гэтага Місюка ўсё і пайшло.

Паміж Пашкоўскімі і Міхаліхай пачалася, як кажуць, чаўночная дыпламатыя — ад хаты да хаты. Хлопцы ў мястэчку Віцьку падкалвалі: «Ну, як там Вулька?» Але Віцька трымаў удар: «Ды кіньце, хлопцы, сляпы Місюк не тыя акуляры надзеў і брэша. Мы з Вулькай выйшлі васількоўназбіраць. Вы што, верыце яго брахні?»

Тады ўжо пра Вульку ніхто не пытаў, а толькі: «Віцька, ну як там васількі? Растуць?»

Бывала, праходзіць Віцька, а хлопцы на гітары іграюць і спяваюць расейскі папулярны вагонны шлягер: «Всё васильки, васильки. Много мерцает вас в поле. Помнишь, вечерней порой мы собирали для Оли».

Скончылася гэтае пад'лядкаванне тым, што спакойны Віцька пабіўся з хлопцамі і некаторым такі добра надаваў па карку (хоць і самому разбілі нос). Тут ужо «васількі» замацаваліся крэпка. Толькі мовіліся завочна. Нават тады, калі Віцька з Вулькай пабраліся (а інакш быць не магло), то калі йшлі дзе, дык іншыя казалі: «Вунё, васількі йдуць». І хату іхнюю называлі «васількова хата». А як дзеці пасыпаліся, дык усе былі «васількі». «Чые ж гэта, — пыталі, — ды васільковыя».

Вяселле зладзілі ў кастрычніку перад войскам. Добра пагулялі, паспявалі, папілі. А Віцька быў такі важны і горды. У рот не ўзяў (па запаведзях, як матка казала), але ўжо танцаваў з Вулькай да ўпаду, і ўсім увесь час было надта «горка» — у Вулькі аж губы спухлі.

Летам Вулька нарадзіла двойню. Віцька (у войску ва Узбекістане) ад радасці так скакаў, што ледзь на губу не трапіў за парушэнне статута. Але водпуск атрымаў, і, пабыўшы, яшчэ дабавіў. Калі дэмабілізаваўся, меў ужо трох сыноў.

— Я, — кажа, — каб цябе тады ў жыцце не пакачаў, то нічога і не было б.

— Гэта таму, што я табе не далася; заслужыць трэба, дык от і выслужыўся, — рагоча Вулька і ўжо чацвертым пухне.

— Будзем гнаць да перамогі! — грыміць Віцька. — Жыве Беларусь! Колькі Бог дасць! Поўны наперад! Дагонім і перагонім Амерыку па надоях малака на кожную фуражную карову! — разышоўся Віцька. — Да здравствуют наши советские женщины! Люблю Вульку! Вульку люблю! — Віцька жартуе, а Вулька рагоча.

Шчасця было ў іх поўны дом. І ўвесь час, і заўсёды. Віцька (як звычайна ў мястэчку) пафарбаваў сваю хату ў жоўты колер, але зрабіў трафарэт і наштампаваў на сценах сініх васількоў. «Васількі, дык васількі, халера на іх» (гэта пра местачкоўцаў). Потым падумаў, і над ганкам блакітнай фарбаў вывеў: «Няма лепш цьвяточка над васілёчка».

Напісаў і пайшоў у хату абдымаць сваю любімую Вульку.

7 студзеня 2013 г.

НАТАТКІ

# УСЁ НА СВЕЦЕ — СЛОВЫ

Іван СКРЫДЛЕЎСКІ


Фота аўтара

***

Класік гістарычнай раманістыкі Вальтэр Скот перапісваўся з расійскім паэтам-ваяром Дзянісам Давыдавым. У Эдынбургу, побач з замкам Вальтэра Скота ў Абатсвордзе, жыў пляменнік Дзяніса Давыдава. Праз яго Вальтэр Скот і прасіў Дзяніса Давыдава прысылаць успаміны пра ўдзел у вайне 1812 года. У адказ жа Давыдаў дасылаў шатландцу свае вершы... А аднаго разу праз пасла перадаў у Абатсворд трафейны курдскі кінжал (хвацкі расіянін напрыканцы 20-х гадоў XIX ст. браў удзел у паходзе супраць персаў). У прадмове Дз. Урнова да 8 томнага Збора твораў Вальтэра Скота, выдадзенага ў перакладах па-расійску ў 1990 г. («Правда»), чытаем: «Вальтэру Скоту неадкладна хацелася мець у сябе ў кабінеце кінжал з Расіі».

Па-імперску блізарукім (ці «дальнабачным»?) расійскае літаратуразнаўства было і часткова застаецца, высвечваючы многія «неімперскія» комплексы. Так, нават кінжал няўрымсціцца яму перакаваць з курдскага ў расійскі. І за ягоным бляскам ужо і не заўважаецца таго, што Вальтэр Скот, плануючы напісаць пра эпоху Напалеона, хацеў атрымаць ад легендарнага сведкі вайны з ім — Дзяніса Давыдава — рэальныя нявыдуманыя сведчанні-згадкі, а не рыфмарствы... Зрэшты, і ці «хацелася мець у сябе ў кабінеце кінжал з Расіі» раманісту, які багатую калекцыю зброі трымаў у асобным замкавым пакоі-музеі? І пісьменнік не любіў на яе глядзець, асабліва пасля абвастрэння хваробы з моцнымі болямі, якія мусіў астуджваць морфіем...

***

Да «расавай чысціні» расійскай літаратурнай класікі: праслаўлены Васілій Жукоўскі — «пабочны» сын тульскага памешчыка Буніна і палоннай турчанкі, які атрымаў прозвішча свайго «хроснага» — беларуса-шляхціча.

***

Леў Талстой публічна называў расійскага цара забойцам, катам, прыдуркаватым гусарскім афіцэрам, пустым і нікчэмным чалавекам, які акружыў сябе злачынцамі. «Я і хавацца не стану, — пісаў аўтар «Вайны і міра», — я гучна абвяшчу, што прадаю памесці, каб паехаць з Расіі, дзе нельга ведаць хвіліну наперад, што мяне, і сястру, і жонку, і маці не закуюць і не высякуць, я з'еду».

Імператар Аляксандр III на тое адказаў спакойна: «Талстой чакае ад мяне вянка пакутніка — не дачакаецца». У адрозненне ад Леніна, які бэсціў і мёртвага пісьменніка: «Талстой нікчэмны, як прарок, які адкрыў новыя рэцэпты выратавання чалавецтва».

***

Малаграматны мядзведзісты Аляксандр III на дакладзе расійскага міністра адукацыі пакінуў «гістарычную» рэзалюцыю: «Прекращай ты это образование!». Вось бы пачытаць цяперашнія «надпісы»...

***

Прароча-дальнабачны Салтыкоў-Шчадрын: «Гэта яшчэ добра, калі за рубель пачнуць даваць палцiннік. Горш, калі за рубель будуць даваць у морду!».

***

«Вольны муляр», віленскі прадпрымальнік Зыгмунд Нагродскі, які пісаў беларускамоўныя вершы і быў сябрам Францішка Багушэвіча ды пазней фундаваў газету «Наша ніва», распавёў свайму сябру (таксама масону) Івану Луцкевічу аб тым, што першае замежнае выданне беларускіх вершаў Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская» прынёс яму, Нагродскаму... Язэп Пілсудскі...

***

Максіма Горкага і Янку Купалу збліжала многае. І не толькі творчае. Вядома, што Іван Луцэвіч да таго, як стаў Янкам Купалам, працаваў на бровары. І Аляксей Пешкаў — да таго, як выявіўся Максімам Горкім, — уладкоўваўся ў Ніжнім Ноўгарадзе ў кантору гарэлачнага завода. Блізасць да «зялёнага» змея ў абодвух была нядоўгай: Луцэвіч пасварыўся з гаспадаром, на Пешкава накінуўся дырэктарскі сабака, якога ён... ударам кулака забіў (пасля чаго будучага пісьменніка выгналі з завода).

Пазней у брашуры Максіма Горкага «О русском крестьянстве» (1922 год) прачытаем прадумнае: «...пры кепскім харчаванні рускага селяніна атрута алкаголя дзейнічае на псіхіку мацней у Расіі, чым у іншых краінах, дзе харчаванне народа багацейшае і разнастайнейшае».

Пасля расійскай рэвалюцыі 1905 года Максім Горкі выправіўся ў Амерыку — далей ад царскай расправы ды з місіяй збору сродкаў для бальшавікоў. І з грамадзянскай жонкай — актрысай Маскоўскага мастацкага тэатра Марыяй Андрэевай. У ЗША іх прымалі з замілаваннем і сардэчнасцю, пакуль у вольны друк не патрапіла інфармацыя аб тым, што пара з Расіі — не абвянчаная. Гаспадыня нью-ёркскага гатэля выставіла іхнія валізы-чамаданы ў хол і выгнала небаракаў на вуліцу. Пяць дзён Максім Горкі безвынікова соўгаўся па гатэлях, жыў у пісьменніцкім інтэрнаце. Урэшце адна землеўладальніца Прэстані Марцін запрасіла актрысу Андрэеву да сябе ў далёкае памесце Летні Раўчук. З ёй падаўся і Максім Горкі. У тым памесці і быў напісаны расхвалены ў савецкі час апалагетычны раман «Мать», які мусіў чытаць кожны школьнік СССР — не ведаючы пра перапэтыі стварэння кнігі. Ленін жа — фанат гэтага рамана (ды і нявенчанага сужыцця таксама) — надзвычай пацяшаўся, калі дачуўся пра горкаўскія «блуканні па амерыканскіх пакутах»...

А далей было «ацверажэнне». У час, калі пачаў кіраваць наган, Максім Горкі запэўніваў: «Зноў культура? Так, зноў культура. Я не ведаю нічога іншага, што можа выратаваць нашую краіну ад пагібелі».

Свае «несвоечасовыя думкі» Максім Горкі друкаваў у заснаванай ім газеце «Новая жизнь». Першы нумар невыпадкова выйшаў 1 мая 1917-га. Крыніцу фінансавання газеты пісьменнік назваў публічна: ««Новая жизнь» арганізаваная мной на грошы, узятыя ў Э. К. Грубэ, у колькасці 275 тысячаў, з якіх 50 тысячаў ужо выплачаны крэдытору, астатнюю суму я мог бы выплаціць даўно ўжо, калі б ведаў, дзе жыве Э. К. Грубэ»...

Аграмаднейшыя на той час грошы!

Максіма Горкага поядам ядзяць бальшавікі і асабіста Ленін: і за апазіцыйную газету, і за «думкі». А пісьменнік адбіваецца: а вы, маўляў, сваю «Искру» за чый кошт выдавалі?! І друкуе наступнае:

«У пазыцы, зробленай мною на арганізацыю газеты, я не бачу нічога ганебнага і лічу абвінавачванні яе ў прадажнасці — палітычнай подласцю.

Але, да вашага ведама, я скажу, што ў перыяд з 901-га па 917-ы год праз мае рукі прайшлі сотні тысячаў рублёў на справу расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі, з іх мой асабісты заробак налічваў дзясяткі тысячаў, а ўсё астатняе чэрпалася з кішэняў «буржуазіі». «Искра» выдавалася на грошы Савы Марозава, які, вядома, не ў доўг даваў, а — ахвяраваў. Я мог бы назваць добры дзясятак шаноўных людзей — «буржуяў», — якія матэрыяльна дапамагалі росту с.-д. партыі. Гэта выдатна ведае У. І. Ленін і іншыя старыя працаўнікі партыі».

Аб тым, на жаль, не хочуць ведаць і многія цяперашнія «ленінцы»...

Пасля вяртання ў СССР Максім Горкі карыстаўся аднолькавым уплывам «пры дварах» і Леніна, і Сталіна. І, на колькі ставала сілаў (асабліва пры Леніне) дапамагаў блізкім і знаёмым: то апублікавацца, то выцягнуць кагосьці з засценкаў ЧК. У 30-я гады ягоны імпэт атух...

Аднойчы да класіка звярнуўся Андрэй Платонаў з просьбай дапамагчы ў публікацыі свайго выдатнага рамана «Чевенгур». Максім Горкі адказаў таленавітаму калегу «ободряющим» лістом, у якім падрахаваў: «Всё минется, одна правда останется». І аб платонаўскай публікацыі на тым забыў... А вось Аляксандр Твардоўскі — паўтараўшы тыя горкаўскія (і не толькі ягоныя) словы ў тэлеграме падтрымкі да Васіля Быкава, ішоў далей суцяшэннаў: друкаваў «крамольныя» аповесці...

***

У цяжкія месяцы ваеннага камунізма Сяргей Ясенін здымаў пакой разам з Анатолем Марыенгофам. Самавар распальвалі драўляным абразом Мікалая-Угодніка: не было ні вугля, ні дроў, ні... У пакоі не раставаў абіты з футраў снег, а чарніла (якім пісаць) замярзала.

Сталі спаць на адным ложку. Навальвалі на сябе гару коўдраў і футраў. Па цотных днях Марыенгоф, па няцотных Ясенін першым курчыліся на ледзяной прасціне, сграваючы яе дыханнем і цеплынёй цела.

Неяк адна паэтка папрасіла Ясеніна дапамагчы ўладкавацца на службу. У яе былі ружовыя шчокі, круглыя сцёгны і пышныя плечы... Ясенін паабяцаў паэтцы заробак савецкай машыністкі — і прапанаваў, каб яна прыходзіла да іх у гадзіну ночы, распраналася, клалася пад коўдру і, сагрэўшы ложак («пятнаццацiхвілінная праца!»), вылазіла з яго, апраналася ды сыходзіла дамоў. Даў слова, што падчас усёй цырымоніі паэтымужчыны будуць сядзець да яе спінамі, утаропіўшыся насамі ў рукапісы...

Тры дні, дакладна выконваючы дамову, яны кляліся ў цёплую пасцель. На чацвёрты ж дзень паэтка сыйшла, абурана заявіўшы, што больш не будзе працягваць сваю службу.

— Што такое? — здзівіліся паэты. — Мы ж выконвалі ўмовы...

— Менавіта! Я ж не наймалася грэць прасціны святым!

Вось табе і імажыністы!.. Ці — бальшавіцкая зіма?

***

Пабла Неруда, вядомы паэт з прарадзімы бульбы — Чылі, лаўрэат і міжнароднай Ленінскай прэміі (1953), і Нобелеўскай (1971), пакінуў каскадна-феерычнае эсэ-гімн мове-слову:

«...усё на свеце — словы, яны спяваюць... Я іх люблю... Якая цудоўная ў мяне мова, якую дзівосную гаворку атрымалі мы ў спадчыну ад змрочных канкістадораў... Заваёўнікі насіліся па дзікіх гарах, па ўзнятай на дыбкі Амерыцы ў пошуках бульбы, золата... А варварам яны сходу кідалі з ботаў, з барады, са шлема, з падкоў, кідалі, як каменьчыкі, зіхоткія словы, якія заставаліся ў нас і свяцілі... Мова... Мы прайгралі... Мы засталіся ў выйгрышы... Яны забралі ў нас усё і пакінулі нам усё... Яны пакінулі нам словы...».

Вось так. Нібыта продкі паэта-лаўрэата — «варвары» Амерыкі (ад прадстаўнікоў і дагэтуль неразгаданых мая) — да таго, як іх заваявалі, былі нямымі малпамі! А гішпанскамоўныя ваяры-каланізатары («старэйшыя браты») падарылі ім «залатую мову»...

Як гэта стасуецца з Беларуссю, па якой і да сёння гойсаюць новыя «змрочныя канкістадоры», таксама — у пошуках «бульбы і золата», кідаючы з ботаў сваіх то салодкія пернікі-даляры, то каменні мацюкоў... І ўжо ўвесь народ радуецца новаму здабытку — «языку», і не задумваецца, што некалі меў уласнае багацце: мову, а не бульбу.

АГЛЯД

# «ПАДОБНЫМ ДА СЯБЕ ЗАСТАВАЦЦА…»

## «ДЗЕЯСЛОЎ», № 67

ЛеГАЛ

**Прамінуў яшчэ адзін год чалавечага і літаратурнага жыцця. Як для мяне, шчыра кажучы, нічым асаблівым ён не запомніўся. Маю на ўвазе, найперш, літаратуру.**



Часопісы, кнігі — выдадзенае і прачытанае. Былі, канечне, асобныя азарэнні і ў паэзіі і ў прозе, але не да такой ступені, каб адрываць публіку ад экранаў і манітораў. Увесь калялітаратурны «накіп» цяпер перамясціўся на сайты і ў сацыяльныя сеткі. Там — і тэрміновая перапіска, і безразважнае каментаванне, і гарачая палеміка, і бясконцыя спрэчкі, і самыя што ні на ёсць двубоі і кланавыя разборкі… Каб я гэтым надта пераймаўся, то разумныя мяне залічылі б да дурняў, а калі б зусім не звяртаў увагі, то, мабыць, выглядаў бы насамрэч дурнем, будучы дзейнай асобай у сучасных літаратурных варунках. Таму, як кажуць, я ў курсе, але па-за кантэкстам…

Праўда, ёсць тэмы, якія вымагаюць псіхалагічнай мужнасці і павагі ад абодвух «спрэчных» бакоў. Я кажу пра набалелую для нас праблему дзяржаўнай суверэннасці і нацыянальнай ідэнтычнасці. Дык вось, Пётра Садоўскі друкуе, як па мне, адэкватны, глыбокі, дасведны, у меру канструктыўны, хоць і не пазбаўлены эмацыйнасці адказ шчырага беларуса тым (В. Акудовічу, А. Бахарэвічу, У. Мацкевічу…), хто з нейкай прычыны — змушана ці свядома — змірыўся з нацыянальным беларускім змізарненнем і паглынаннем яго карпарацыйна-глабальным працэсам у недалёкай перспектыве… Тэкст, можа, занадта аб'ёмны нават для такой, амаль акадэмічнай, аргументаванай палемікі. Я люблю і паважаю П. Садоўскага і, відома, у пераважнай большасці прыведзеных ім аргументацый знаходжуся на ягоным баку, і ў той жа час, столькі гадоў ведаючы Валянціна Акудовіча, восем з якіх прасядзеў з ім пляча ў плячо ў пракураным пакоі колішняй «Крыніцы», да гэтай пары здзіўляюся яго ўпартай прысутнасці там, дзе, па ўласных словах Валянціна Васільевіча, яго няма і быць як бы не павінна… Для мяне ён «уходящая натура», якая не мае адпаведнай сілы, каб разам з сабою зрушыць і нас з нашага існага месца. Мы застаёмся тут такімі, якімі мы ёсць, паколькі быць іншымі і ў іншай сутнасці нам не дадзена. Аднак і не прыслухоўвацца да той магчымай небяспекі паступовага нацыянальнага «знікнення» («перастварэння» альбо «перарадження»), якую такім ці іншым завуаляваным чынам трактуе В. Акудовіч, я таксама не раіў бы. Бо той, хто прыслухоўвацца да думкі іншых і аналізуе іх інтэлект, мае нашмат больш шанцаў быць і застацца.

Раю пачытаць, а жадаючым, выказацца ў працяг вострай палемікі…

Далей — да літаратурна-мастацкага зместу чарговага нумара «Дзеяслова». Пачнём з паэзіі. Друкуецца нізка вершаў Рыгора Барадуліна. Пры ўсім сваім сённяшнім наканаванні Рыгор Іванавіч застаецца не толькі жывым, як шмат хто з вядомых яго равеснікаў, але яшчэ і жыватворчым. У розналаднай і калейдаскапічнай вершаванай падборцы досыць адмысловай паэзіі самай высокай пробы, іскрамётна-імгненных яе ўзораў, што ўспыхваюць на захадзе чалавечага дня, нібы тыя сполахі-зарніцы, люструючы пад небам яркія азарэнні нашай зямной долі.

*Нялёгкае гэта мастацтва —*
*Падобным да сябе заставацца…*

Зрэшты, сёння ў нас ёсць дзве беларускія мовы — дзяржаўная і барадулінская — мова зносін і мова душы. Адчуйце розніцу!

Вершы Юркі Голуба густаметафарычныя, блізкародныя і пазнавальныя па рытме, стылю і эмацыйным запале. Пры вялікай іх колькасці, шчыра кажучы, яны трохі стамляюць. Таму чытаць іх трэба дазіравана, а не зборнікамі ці нават аб'ёмнымі падборкамі. Яго творы нанізаны, як пацеркі на не звязаную нітку, з якой могуць саслізнуць і з грукатам раскаціцца… Іх стрымлівае толькі творчая воля паэта. Як у той «Мімалётнай згадцы пра дождж на хутары»:

*Праз небасхілы шпарыў дождж.*
*Закасваў ходам калашыны.*
*Стаялі ў пырсках басанож*
*Чарэшні, вішні і машыны.*
*………………………………………..*
*Нататнік свой сабе падоўж.*
*Дапамажы ласкава, Божа,*
*Як дапамог аднойчы дождж,*
*Бо хто нам болей дапаможа?*

У Вольгі Гронскай своеасаблівая «віртуальная» паэзія раптоўна спуджанай душы, нібыта чытач заспеў яе за гэтым творчым працэсам. І слова-сэнсы ў яе вершах, мажліва, з гэтай прычыны вычуваюцца дакткліўымі і вінавата-разняволенымі, быццам выпадкова выпаўшыя ў рэальны свет з выслізнуўшага з рук планшэта… Таўталагічна кажучы, вершы В. Гронскай спадабаліся мне сваім своеасаблівым непадабенствам да іншых.

*І вось ты руйнуеш сваю Бастылію,*
*пературараешся ў ведзьму…*
*Навокал неба і ціш.*
*Ты завеш спадарожны вецер,*
*распраствеш рукі-крылы,*
*адштурхоўваешся*
*і*
*ляціш.*

Прабачаюся, але мая жонка, падзівіўшыся на фотаздымак Алеся Камоцкага, што пададзены да яго часопіснай публікацыі, сказала: «Не верыцца, што Алесь дажыўся да сівізны…» Аднак, пачытаўшы яго творы, я зразумеў, што вядомы бард і паэт насамрэч даволі густа аброс жыццём… Мудрасць і досвед, вынесеныя з пражытага ім часу, ён пазначае ў сваіх вершах запамінальнымі душэўнымі метамі. Бард цалкам прыстасаваўся да неад'емнай прысутнасці філасофа ў сваім светаіснаванні.

*Там, дзе калісьці было каханне,*
*Мой шлях працягу знайсці*
*не змог,*
*У неадольны палон пытанняў*
*Жыццё вяртала з любых дарог.*

Вершы Вольгі Чайкоўскай аздобленыя тэхнакратычным сілкаваннем, ім бракуе ўнутранай музыкі і патаемнага шарму. Зрэшты, яе паэтыка палягае не ў пошуках, а ў пожадзе адкрыццяў. Выклік «Эўрыка!» мог бы быць яе своеасаблівым дэвізам ці эпіграфам. Словам, займальная творчасць. Чытаць было цікава. І спадзеў быў на нешта такое:

*Не будаваць ілюзій.*
*Не калыхаць паветра.*
*Мінімум маскараду.*
*Максімум забыцця.*

Вершаваныя тэксты Уладзі Лянкевіча, як кажуць, «да ведама» альбо «напісаныя на палях» белліта… Талент адчуваецца. Як і своеасаблівасць — больш і менш удалыя — спробы аўтара выйсці за межы вядомых паэтычных форм, стылістыкі і… зместу… Так, адметныя і заўважныя спробы ёсць, аднак, на мой пагляд, само выйсце пакуль не знойдзена… Як любіў казаць у падобных выпадках Міхась Лынькоў: «Дзярзай, юноша!» І тады не спатрэбіцца самаапраўданні тыпу: «гэта не песня а толькі прадмова».

У рубрыцы «Дэбют» змешчаны вершы Уладзіміра Дрындрожыка. Натура, безумоўна, арыгінальная.

*Жыццё ідзе далей, далей, далей…*
*У глыбіню зацягваюць вершы, —*

піша ён. Але толькі тады, калі яны будуць «зацягваць» чытача, а не толькі самога аўтара, яго творчасць не станецца марнай. Паўтараю прапісныя ісціны, ды іншага сказаць не маю. У маладога паэта яшчэ ёсць час для творчых высілкаў, бо адоранасць заўважная.

Друкуюцца таксама вершы Леаніда Галубовіча. Але тут я перадаю крытычнае пяро ў рукі Лянкевіча і Дрындрожыка…

З прозы найбольшую ўвагу чытачоў прыцягвае аповесць Андрэя Федарэнкі «Дзядзька Адольф». Яна здаецца настолькі простай, нібыта напісана ў адзін прысест, без усякіх высілкаў аўтара. Чытаецца таксама адным заходам і займае нечаканымі намёкамі-асацыяцыямі, у якіх чытач міжволі пазнае ці то свае рысы характару і некаторыя ўласныя жыццёвыя ўчынкі, ці то сваіх блізкіх і знаёмых. Менавіта гэта неўзамет чапляе і прывязвае да сюжэтнай лініі. Ды і нядаўні наш час і чалавек у ім (найперш, галоўны герой) выпісаны амаль натуральна, можна нават сказаць — у тон тэксту, фатаграфічна, як на акварэльках яго героя, прататыпам якога з'яўляецца, помны шмат якімі літаратарамі, колішні рэдактар тоўстага літаратурнага часопіса, пісьменік Адольф В. Аповесць створана ў манеры неарэалізму. Асобны падтэкставы націск робіцца на тым, што людзям, каб жыць, не кажучы ўжо, каб жыць шчасліва, трэба любіць і трымацца адзін аднаго. Аднак чаго варты асноўны рэфрэн аповесці, вызначальны для маральнага і духоўнага стану сучаснага чалавека ў грамадстве. Галоўны герой некалькі разоў пытаецца ў свайго пляменніка пра лёс яго малодшага брата, які прапаў у лесе: «— Лёніка знайшлі? — А хто яго шукаў? А так усё добра, вы не хвалюйцеся, дзядзя…»

Глыбокі талент А. Федарэнкі ў нашай літаратуры — пэўны і відавочны, як ні ў кога іншага. Адпаведна і на адсутнасць чытача яму грэх жаліцца.

Калі за тэкстам А. Федарэнкі — шчырым і натуральным — ідзеш, як араты за плугам — роўна і ўпэўнена, то тэксты Віктара Казько — гэта самабытнае стылістычнае ткацтва. (Дарэчы, нават калі тэматычна параўнаць іх «грыбныя» публікацыі — даўні Андрэеў («З кошыкам…») і гэты Віктараў («Ён у мяне адзіны запаветны»), то адразу заўважыш у абодвух адно нязменнае — гэта вялікую пранікнёную любоў да роднай беларускай прыроды і, як вынову з гэтага, захопленасць і спробу разгадкі прыроды самога чалавека. Найбольш уразіла філасофская прыпавесць «Вечны покліч вады». Раю пачытаць, стрымана перааадольваючы і пераглядаючы ўсе сімвалічна-ўзорныя карункі змысленага сэнсу нашага сённяшняга зямнога жыцця…

Абразкі Лідзіі Арабей сцісылыя і праставатыя, але падчас вельмі глыбокія. На першапачатку я да іх ставіўся як да нейкіх шараговых дзённікавых занатовак, аднак з часам пачаў заўважаць, што за тэкставай і стылістычнай лапідарнасцю хаваецца даволі ёмкі падтэкст. Так, Л. Арабей піша штодзённае жыццё, яке неўзамет сыходзіць з-пад ног… У нязмушанай прастаце яе мініяцюрных запісаў ёсць філасофія яе ўласнага вялікага вопыту жыцця і нацыянальнага лёсу яе народа. Бо, агулам, «жыццё вельмі кароткае, але каб зразумець гэта, трэба дажыць да старасці».

Калі В. Супрунчук шчыра і наўпрост падае нам неадназначную сярмяжнасць беларускага менталітэту, то Павал Касцюкевіч — гулліва-іранічна выстаўляе на паверхню тыя характэрныя рысы сучаснага збеларушанага яўрэйства, якія зазвычай прынята хаваць пад спудам. Чытанне яго сямейнай сагі «План Бабарозы» з рамана «Polissia Is Not Belarus», уласна для мяне, было даволі захапляльным і цікавым (гэтаму спрыялі выбітная мова і, прабачаюся, шабутны жулікаваты стыль). Праўда, як мне падалося, аднастайнасць падобнага стылю і перанасычанасць іроніі трохі спрашчаюць самую ідэю твора (зрэшты, мы знаёмімся толькі з часткай невядомага нам цэлага). П. Касцюкевіч піша: «…у мінскіх мінаках я не бачыў намёку на герояў. Нягеглая хада, каструбаватыя жэсты. Шапялявая трасянка, якая, здаецца, толькі для таго і прыдуманая, каб абслугоўваць ніжэйшыя патрэбы свайго носьбіта.» Пазней, праўда, аўтар прызнаецца:«Каторым разам мяне сілком заганялі на тонкі лёд нацыянальнага пытання, аднак выгляду я не падаў…»

Вышэй упомнены Віктар Супрунчук у сваіх аповедах, напісаных у традыцыйнай форме, «выкрывае» прыглушаную глыбока ўнутраную нацыянальную ментальнасць беларусаў: памяркоўнасць, злагаду, абыякавасць да ладу таго грамадскага жыцця, які атачае іх абасобленае запалошна-ўтравелае чалавечае існаванне. Проза і яе тэматыка не новыя для нашай літаратуры, але няблага змайстраваныя датычна стылю і сюжэту.

Змястоўныя эсэ-экскурсы па цэнтры нашай сталіцы напрыканцы XX стагоддзя прапануе чытачам Усевалад Сцебурака. Эмацыянальнасць і метафарычнасць тэксту набліжае яго да мастацкай прозы…

Тых, хто хоча ўпэўніцца, што Тарас Шаўчэнка не толькі геніяльны паэт Украіны, але і яго вялікі мастак і празорлівы празаік, раю пачытаць у перакладзе Валеры Стралко ўрывак з аповесці «Мастак» сусветна вядомага Кабзара.

У рубрыцы «Спадчына» выдрукавана абсяжная гутарка на тэмы беларускага літаратурнага і нацыянальнага жыцця, якая не так адкрывае вочы на новы гістарычны досвед з дваццацігадовай аддаленасці ў часе, як пашырае і паглыблюе наш погляд на творчасць і грамадзянскія ідэалы вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Барыса Сачанкі. Гэты цікавы запіс, зроблены яшчэ ў 1990 годзе, нарэшце выцягнуў з шуфляды і прапанаваў часопісу літаратар і суразмоўца Барыса Іванавіча Зіновій Прыгодзіч.

Да стагадовага юбілею вядомага эміграцыйнага пісьменніка і паэта Масея Сяднёва друкуецца арыгінальны артыкул Алеся Пашкевіча «Той дзень надышоў» (пра духоўны ўніверсум прозы літаратара). Тэкст годны добрай памяці і ўшанавання адметнага таленту нашага суайчынніка.

У крытычным раздзеле часопіса Ірына Шаўлякова-Барзенка разважае пра «авантуры тутэйшасці ў найноўшай беларускай літаратуры». Мяркую, што некаторыя з літаратараў сябе там пазнаюць.

Старэйшына літаратуразнаўчага цэху Эмануіл Іофе скрупулёзна рэцэнзуе знакавую кнігу Тымаці Снайдэра «Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным».

Рубрыка «Дзеяпіс» падае пашыраныя анатацыі новых кніг, што пабачылі свет апошнім часам.

Няма сумненняў, што кожны знойдзе ў чарговым нумары «Дзеяслова» чытанне па гусце. Таму, спадарства, па поўны час адліпнем ад клавіятуры і прысохнем да часопісных старонак.

РОЗГАЛАС

# СТРАСЦІ ПА ХОЛМСУ

**Суд у ЗША адмовіў фонду спадчыны пісьменніка Артура Конан Дойла ва ўладанні правамі на вобразы герояў дэтэктыўных апавяданняў Шэрлака Холмса і доктара Ватсана, паведаміла «Agence France-Presse».**

Прадстаўнікі фонда раней неаднаразова патрабавалі адлічэнняў за выкарыстанне вобразаў Холмса і Ватсана на тэрыторыі ЗША на падставе таго, што спадчынніца пісьменніка Джын Конан Дойл у 1981 годзе зарэгістравала правы на апошнія 12 апаведаў пра дэтэктыва з кнігі «Архівы Шэрлака Холмса». За год да гэтага творы Конан Дойла сталі грамадскім здабыткам у адпаведнасці з заканадаўствам Вялікабрытаніі (па заканчэнні 50 гадоў ад смерці аўтара).

Паводле рашэння суда, патрабаванні фонда былі неабгрунтаваныя, бо ў творах, правамі на якія валодала Джын Конан Дойл, выкарыстоўваўся той жа самы вобраз дэтэктыва і яго кампаньёна, што і ў іншых аповедах і раманах пра Холмса. Такім чынам, суд пастанавіў, што аўтарскае права абараняе ў ЗША толькі сюжэтныя дэталі апавяданняў, а не вобразы Холмса і Ватсана.

З позвай у суд супраць фонда спадчыны Конан Дойла звярнуўся юрыст і пісьменнік Леслі Клінгер, ад якога раней спадчыннікі пісьменніка запатрабавалі адлічэнняў за выкарыстанне вобраза Холмса ў яго кнізе.

# «ЛАДА НІВА» ЯК ПЕРСАНАЖ

**«Лада Ніва» натхніла нямецкага пісьменніка на стварэнне кнігі.**

Па меркаванні Йорга Райхле, нямецкага празаіка і журналіста, дызайн легенды савецкага аўтамабільна экспарту, «Лада Ніва», нагадвае абутковую скрынку — машына такая ж лаканічная і вуглаватая. З 1976 года яе экстэр'ер не зведаў зменаў, што здаецца ў наш час фантастыкай, бо канцэпты новых аўто вядомых сусветных брэндаў састарваюцца ўжо праз некалькі месяцаў.

Літаратурны помнік «Ніве» Райхле «ўзвёў» у сваім рамане «Чык» — кніга распавядае пра 14-гадовага расійскага падлетка, які, эміграваўшы разам з бацькамі з Расіі ў Нямеччыну, адпраўляецца на пошукі прыгодаў на блакітнай «Ніве», якую крадзе ў суседа. Суправаджае яго ў вандроўцы аднакласнік-немец; хлопцаў ніколькі не бянтэжаць ні год выпуску аўто, ні яго нікчэмны выгляд, ні нізкая магутнасць рухавіка (бо калі вабіць воля, усё гэта не мае ніякага значэння).

Па словах крытыкаў, да апісання «Нівы» аўтар падыходзіць з не меншай сур'ёзнасцю, чым пры апісанні жывых персанажаў; аўто — паўнавартасны дзейсны герой кнігі. «Усё ў «Ніве» выглядае так, быццам любы расійскі вясковы каваль без праблем паправіць яе сярпом і молатам», — піша Райхле, аднак адзначае, што галоўная якасць «Нівы» — «нязломная» здольнасць пераадольваць бездараж, уключаючы значныя выбоіны і водныя перашкоды.

# УКРАІНСКІЯ ПРАЦЯГІ «ЯЎГЕНІЯ АНЕГІНА» І «ЦІХАГА ДОНА»

**74-гадовы пісьменнік з Крыма Эдуард Абрамаў напісаў працягі «Яўгенія Анегіна» і «Ціхага Дона».**

Па словах аўтара, хоць кнігі і выдаюцца невялікімі накладамі, аднак свайго чытача знаходзяць.

Нагодай для стварэння працягу «Яўгенія Анегіна» паслужыў сон пісьменніка: Абрамаў распавёў, што Пушкін у тым сне падказаў аўтару працягнуць сваё знакамітае тварэнне. У варыянце крымскага літаратара Анегін злучаны з дзекабрыстамі і высылае Таццяне ліст (у якім кажа, што яны не змогуць быць разам).

Трэці том «Ціхага Дона» Э. Абрамаў пабудаваў на задумцы самога Міхаіла Шолахава. Адпаведны артыкул ён знайшоў у нумары газеты «Вести», выдадзеным у 1935 годзе. Акрамя таго, падчас працы над кнігай «суаўтар» меў зносіны з дачкой савецкага класіка Святланай.

Эксперты адзначаюць, што стварэнне працягаў да кніг не з'яўляецца парушэннем аўтарскіх правоў. Па меркаванні крытыкаў, творы Эдуарда Абрамава заслугоўваюць увагі, аднак наўрад ці будуць шырока запатрабаванымі.

# ЗВАЛЬНЕННЕ ЗА НАБОКАВА І ЯСЕНІНА

**Курбангалі Шарыпаў, старшы памочнік пракурора Стаўрапольскага краю, быў звольнены за каментары наконт кніг Набокава, Ясеніна і шэрагу іншых пісьменнікаў у школах.**

Адпаведную інфармацыю распаўсюдзілі расійскія СМІ, а таксама шэраг службоўцаў, у прыватнасці, Аляксандр Хлапонін, паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта РФ у Паўночна-Каўказскай федэральнай акрузе.

Па паведамленні пракуратуры Стаўраполля, К. Шарыпаў сваімі дзеяннямі парушыў адразу два загады генеральнай пракуратуры РФ — «Пра арганізацыю пракурорскага нагляду за выкананнем законаў» і «Пра ўзаемадзеянне органаў пракуратуры са сродкамі масавай інфармацыі». Пракуратура раней таксама апублікавала афіцыйную заяву пра тое, што праверкі кніг, якія нібы падлягаюць вынятку, не праводзілася, таму словы К. Шарыпава з'яўляюцца выключна прыватным меркаваннем.

Заява пра абмежаванне школьнікам доступу да твораў Набокава, Ясеніна і шэрагу іншых аўтараў была агучана К. Шарыпавым 20 лістапада мінулага года. Экс-памочнік пракурора тлумачыў, што некаторыя з кніг, якія ўключаны ў школьную праграму і маюцца ў бібліятэках навучальных устаноў, з'яўляюцца «хуліганскімі», утрымліваюць элементы эротыкі і містыкі.

# СПАДЧЫННІКАЎ ЧЫНГІЗА АЙТМАТАВА ВЫСЯЛІЛІ З ПЕРАДЗЕЛКІНА

**Спадчыннікаў Чынгіза Айтматава высялілі з дачы пісьменніка ў Перадзелкіна, паведаміў «Інтэрфакс».**

Рашэнне пра высяленне было прынята Віднаўскім гарадскім судом Маскоўскай вобласці.

Сын пісьменніка Санджар Айтматаў і Л. В. Сямёнава займалі памяшканне, якое з'яўляецца ўласнасцю Міжнароднага Літаратурнага фонда. Спадчыннікі Айтматава падалі скаргу і заяўлялі, што маюць намер зрабіць у гэтым доме музей пісьменніка.

Меркавалася, што музей можа адкрыцца да 85-годдзя з дня нараджэння Чынгіза Айтматава, гэта значыць у 2013-м. У доме ў мястэчку пісьменнікаў Айтматаў жыў з 1988 года да смерці ў 2008-м.

У пісьменніцкім мястэчку ў Перадзелкіна таксама калісьці пражывалі Барыс Пастарнак, Леў Касіль, Ісаак Бабель, Ілля Ільф, Яўгеній Пятроў, Андрэй Вазнясенскі, Булат Акуджава, Валянцін Катаеў, Бэла Ахмадуліна, Яўгеній Еўтушэнка і Карней Чукоўскі. У наш час у мястэчку дзейнічаюць дамы-музеі Пастарнака, Чукоўскага і Акуджавы, а таксама галерэя-музей Еўтушэнкі.

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

## ІНСТЫТУТ ПУШКІНА

Для папулярызацыі расійскай мовы ў свеце ствараецца Інстытут Пушкіна. Заахвочваць вывучэнне расійскай мовы ў свеце будзе Міністэрства адукацыі Расіі — з 2014 года яно плануе арганізоўваць адукацыйныя праграмы ў буйных гарадах замежжа пад брэндам Інстытута Пушкіна.

## ЧАЧЭНСКАЯ ЛІТАРАТУРА

За апошнія тры гады ў Чачні было выдадзена больш за 70 кніг мясцовых аўтараў агульным накладам каля 250 тысячаў асобнікаў. Такой колькасці кніг чачэнскіх аўтараў і такім вялікім накладам не было выдадзена за ўвесь савецкі перыяд. Да канца года плануецца надрукаваць яшчэ каля 20 кніг чачэнскіх аўтараў. Выдаюцца пераважна маладыя.

ЛІТПРЭМІІ

## КНІГА ГОДА БРЫТАНІІ

**Лепшай кнігай года па версіі брытанскай прэміі «Specsavers National Book Awards» стаў раман Ніла Дэвіда Джона Геймана «Акіян у канцы дарогі» («The Ocean at the End of the Lane»). Аб гэтым паведамляецца на сайце прэміі.**



Раман Н. Геймана перамог у адкрытым інтэрнэт-галасаванні. «Акіян у канцы дарогі», як паведамляецца, істотна адарваўся па колькасці галасоў ад канкурэнтаў — твораў Малалы Юсуфзаі, Роберта Харыса, Кейт Аткінсан і аўтара дзіцячых кніг Дэвіда Уолліамса.

Н. Геймана раней прызналі першым у катэгорыі «Лепшая аўдыёкніга года» (аўдыёверсію рамана ён запісаў сам).

Кароткі спіс аўтараў у кожнай з намінацый «Specsavers National Book Awards» штогод адбіраюць 50 экспертаў у галіне кнігавыдавецтва, прадстаўнікоў кнігагандлёвых сетак і літаратурнай крытыкі. Пераможцаў у асобных катэгорыях выбіраюць галасаваннем 750 акадэмікаў прэміі.

У 2012 годзе лепшай кнігай года па версіі «Specsavers National Book Awards» быў названы раман Э. Л. Джэймс «50 адценняў шэрага». «Акіян у канцы дарогі» — апошні раман Геймана, які выйшаў у 2013-м. Гэта гісторыя самотнага «кніжнага» хлопчыка, імя якога чытач так і не даведаецца, але ў якім беспамылкова адгадваюцца рысы самога Ніла Геймана.

## ПУЦІН І ЎЗНАГАРОДЫ

**Уладзімір Пуцін падпісаў указ пра заснаванне трох прэмій (па 2,5 мільёна рублёў кожная) у галіне літаратуры і мастацтва за творы для дзяцей і юнацтва.**

Прэміі прысуджаюцца за «значны ўнёсак у грамадзянска-патрыятычнае, этычнае і культурна-эстэтычнае выхаванне падрастаючага пакалення, развіццё айчыннай культуры ў мэтах стымулявання далейшай дзейнасці лаўрэатаў прэміі, стварэння спрыяльных умоў для новых творчых дасягненняў».

## ГРАНІНУ — 95!

**Вядомы расійскі пісьменнік Данііл Гранін стаў лаўрэатам прэміі «Лепшы замежны раман XXI стагоддзя», якая штогод уручаецца ў Кітаі з 2002 года, за раман «Мой лейтэнант».**



Разам з ім былі ўзнагароджаны яшчэ чатыры пісьменнікі з Нямеччыны, Францыі, Італіі і Гватэмалы. Прэмія заснаваная найбуйнейшым кітайскім выдавецтвам «Жэньмінь вэньсюе чубаньшэ» і Кітайскім таварыствам па вывучэнні замежнай літаратуры.

1 студзеня Д. Гранін адзначыў свой 95-гадовы юбілей. Павіншаваць аўтара са святам у Пецярбург прыехаў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін — у новую падораную пісьменніку кватэру на Васільеўскім востраве. Прэзідэнт уручыў Д. Граніну ордэн Аляксандра Неўскага і карціну з зімнім пейзажам, якая ўпрыгожыць кабінет пісьменніка.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 7 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** серыял «Джамайка».
**11.05** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія). Андрэй Краско.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Меладрама «Мужыкі!» (СССР).
**15.15, 18.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** серыял «Джамайка».
**17.20** Таямніцы следства.
**17.45** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.40** Панарама.
**19.10** Урачыстая цырымонія адкрыцця XXII Алімпійскіх зімовых гульняў. Прамая трансляцыя.
**22.20** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.40** Нашы.
**22.50** Журналісцкае расследаванне.
**23.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**23.55** Дзень спорту.
**00.08** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** Прэм'ера АНТ. «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Афоня».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** Камедыя «Выкрутасы».
**00.10** Фільм «Салярыс».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не сніласяя».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Чырвоная планета» (ЗША - Аўстралія, 2000 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільме «Гадзіна пік» (ЗША, 1998 г.).
**22.00** Шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.50** «Глядзець усім!».
**00.45** «Вялікая гульня». Покер.
**01.30** Фільм «Чочара» (Італія - Францыя, 1960 г.).

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Сецевая пагроза» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**10.20** Цела чалавека.
**10.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.30** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**12.10** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**14.10** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.20** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія). Закл. серыі.
**16.50** Імперыя песні.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Сецевая пагроза» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**19.05** Прыгодніцкі трылер «Вертыкальная мяжа» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**22.35** Рэпарцёр.
**23.20** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.10** Трылер «Я ведаю, што вы зрабілі мінулым летам» (ЗША).

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Лабірынты». Паэтэса Алаіза Пашкевіч, вядомая пад псеўданімам Цётка.
**08.55** «Цуды прыроды». Чэхія. Куба. Фіджы.
**09.20** «Палескі пачастунак». Юшка.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Сіла веры».
**10.40** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 4-я серыя.
**11.25** «Калейдаскоп».
**11.35** «Год у гісторыі».
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа.
**12.15** «Свет прыроды». На берагах Вялікага канала.
**12.50** «Аляксей Саўрасаў». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага мастака-перадзвіжніка.
**13.10** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм.
**13.40** «Найменні і вобразы». Саломка.
**13.55** «Творцы». Народны артыст Беларусі, рэжысёр Канстанцін Саннікаў.
**14.25** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**14.40** «Дзелавыя людзі». Герой капіталістычнай працы.
**15.00** «Росчырк часу». Касцёл Святога Станіслава ў Магілёве.
**15.15** «Раскіданае гняздо». Мастацкі фільм.
**16.30** «Скарбніца Берасцейшчыны». Моц духу. Сучасная Брэсцкая крэпасць.
**16.55** «Зроблена!» Кінавытворчасць.
**17.20** «Карані».
**17.55** «Настаўнік». Мастацкі фільм.
**19.30** «Калейдаскоп».
**19.40** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 5-я серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Сіла веры».
**22.05** «Уладзімір Співакоў запрашае». Канцэрт камернага аркестра «Камерата Зальцбург».
**22.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа.
**23.10** «Калейдаскоп».
**23.15** «Год у гісторыі».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**23.10** Камедыя «Паверх».
**01.15** «Авіятары».

### МИР

**05.00** Ранішні інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**10.00** Мастацкі фільм «Усё вырашае імгненне».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**13.50** Дакументальны фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.10** Тэлесерыял «Ваш гонар».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Дакументальны фільм «3 нагоды».
**19.10** Мастацкі фільм «Сем старых і адна дзяўчына».
**20.40** Дакументальны фільм «У свеце людзей».
**21.35** Мастацкі фільм «Усё вырашае імгненне».
**23.20** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**00.15** Тэлесерыял «Хакейныя гульні».
**03.35** Мастацкі фільм «Брамнік».

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Маю правa (юрыдычная праграма).
**10.35** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 6 серыя.
**11.25** «Эльдарада – паляванне на легенду», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**13.50** Рэпартэр.
**14.15** Аб'ектыў.
**14.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.00** Два на два (тэледыскусія).
**15.35** Маю правa (юрыдычная праграма).
**15.55** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 6 серыя.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Трасянка.
**17.00** «Эльдарада – паляванне на легенду», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.55** «Ранча», серыял: 39 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Федарэнка і рамяство.
**22.25** «Дом», серыял: 22 серыя.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.30** ПраСвет.
**01.55** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Федарэнка і рамяство.

## 8 ЛЮТАГА, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.55** Існасць.
**07.20** Эксцэнтрычная камедыя «Міміно» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйны серыял «СашаТаня».
**11.30** Таямніцы следства.
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Здароўе.
**13.45** Журналісцкае расследаванне.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Без права на дубль».
**16.40** Давярай і правярай.
**17.15** Нашы.
**17.30** Анімацыйная камедыя «Імпі - суперстар!» (Германія).
**19.05** Меладрама «Дуэль» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.00** Баявік «Тры ікс» (ЗША).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.20** «Смак».
**11.00** «Ідэальны рамонт».
**11.55** «Разумніцы і разумнікі».
**12.40** Камедыя «Кітайская бабуля».
**14.15** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп». Фінал.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Бацькоў у школу!».
**17.35** «Адзін супраць усіх».
**18.15** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** Фільм «Поўнач у Парыжы».
**00.30** Фільм «Джордж Харысан: Жыццё ў матэрыяльным свеце». Частка 1-я.

### СТВ

**06.05** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**07.00** «Анфас».
**07.15** Фільм «Гадзіна пік» (ЗША, 1998 г.).
**09.05** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**11.15** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Увага! Усім пастам...» (СССР, 1985 г.).
**14.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.30** Інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Адплата» (ЗША - Вялікабрытанія, 2010 г.).
**22.20** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.35** Фільм «Сатана» (Калумбія - Мексіка).
**01.15** «Вялікія таямніцы космасу».

### Беларусь 2

**07.45** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 1-я, 2-я серыі.
**08.50** Тэлебарометр.
**08.55** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**12.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Дуатлон. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.10** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**15.20** Камедыйны серыял «Таксі».
**16.20** Імперыя песні.
**17.20** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**19.10** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «Супер-Інтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Вышэй за дах.
**21.50** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.45** Камедыйны серыял «Таксі».
**00.40** Трылер «Я ўсё яшчэ ведаю, што вы зрабілі мінулым летам» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Абіцель душы».
**08.35** «Сакрэт фірмы». Кароткі экскурс у гісторыю кінамастацтва.
**08.50** Дзіцячы фільм. «Уключыце паўночнае ззянне».
**10.10** «Роднае слова». Янка Лучына.
**10.40** «З жыцця мінскіх губернатараў». Дакументальны фільм пра інстытут мінскіх губернатараў у 1812 годзе.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «Уяўны Парыж». Дак. фільм пра французскіх мастакоў - выхадцаў з Беларусі.
**12.25** «Настальжы». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Сяргей Журавель.
**13.00** «І толькі адна я яшчэ веру...» Дакументальны фільм пра жанчын, якія так і не дачакаліся сваіх мужоў з вайны.
**13.20** «Людзі на балоце». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**15.50** «Уладзімір Співакоў запрашае». Канцэрт камернага аркестра «Камерата Зальцбург».
**16.35** «Калейдаскоп».
**16.40** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм. 1- 3 серыі.
**18.50** «Калейдаскоп».
**18.55** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм. 1-3 серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Легенды восені».
**23.00** «Эпоха». Напалеон Орда. Мастак, літаратар, кампазітар і педагог.
**23.50** «АРТиШОК». Лялькі Ганны Балаш.
**00.20** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**16.15** «Выратавальнікі».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.55** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**22.00** Фільм «Ідэальнае забойства».
**23.40** Камедыя «Пра каханне».

### МИР

**05.00** Мультфільмы.
**06.20** Мастацкі фільм «У трыдзевятым царстве...».
**07.50** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Любімыя акцёры».
**09.35** Мастацкі фільм «Хто заплаціць за поспех».
**10.55** Тэлесерыял «Адзін на ўсіх».
**14.15** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Каманда».
**20.10** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.55** Мастацкі фільм «Мінесота».
**22.35** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**23.25** Мастацкі фільм «Навабранцы вар'яюць».
**01.00** Мастацкі фільм «Хаос».
**03.15** Мастацкі фільм «Свінарка і пастух».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Федарэнка і рамяство.
**10.20** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.45** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**11.30** Два на два (тэледыскусія).
**12.05** Асабісты капітал.
**12.25** Відзьмо-невідзьмо.
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Даніловіч.
**13.05** «Брацкая свечка», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**13.30** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 3.
**14.05** «Лонданцы», серыял: 4 серыя.
**14.50** «Эльдарада – паляванне на легенду», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**15.45** «Час гонару», серыял: 71 серыя.
**16.35** «Дом», серыял: 22 серыя.
**18.10** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.25** ПраСвет.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацюкі».
**19.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знявечаная мова зямлі.
**19.20** Назад у будучыню.
**19.30** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 2 серыя.
**20.20** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.45** Суботні сеанс: «Сярод белага дня», трымценнік, 2009 г., Канада.
**23.10** «Месца смерці», дак. фільм, 2000 г., Францыя.
**00.15** Аб'ектыў.

## 9 ЛЮТАГА, НАДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Мужыкі!» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія). Заключныя серыі.
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**14.25** Медычныя таямніцы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.30** Даврай і правярай.
**17.00** Драма «Каралева» (Вялікабрытанія).
**18.55** Меладрама «Лекцыі для хатніх гаспадынь» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**22.00** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.20** Трылер «Таемнае вакно» (ЗША).
**00.05** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія). Заключныя серыі.

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Прэм'ера. «Ірына Мураўёва. «Не вучыце мяне жыць!».
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.20** Ералаш.
**13.35** Фільм «Старэйшы сын».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Гусарская балада».
**18.00** «Рассмяшы коміка».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Каханне і іншыя абставіны».
**23.00** Фільм «Доўгія змовіны».

### СТВ

**06.00** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**07.55** Фільм «Адплата» (ЗША - Вялікабрытанія, 2010 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся...» (СССР, 1984 г.).
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гісторыя не для ўсіх». Канцэрт М.Задорнава.
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** Вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Ундзіна» (ЗША - Ірландыя, 2009 г.).
**22.35** «Дзіўная справа».
**23.30** Фільм «Нерэальная поўнач» (Вялікабрытанія - Францыя, 2007 г.).

### Беларусь 2

**07.40** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 3-я, 4- я серыі.
**08.45** Тэлебарометр.
**08.50** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.40** Заўтра - гэта мы!
**10.10** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.15** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**12.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Дуатлон. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**14.45** Забаўляльная шоў-праграма «Супер-Інтуіцыя. Каханне» (Расія).
**15.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**17.20** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.05** Суперлато.
**19.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў Прамая трансляцыя.
**21.35** Спортлато 5 з 36.
**21.40** КЕНО.
**21.45** Навіны надвор'я.
**22.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**00.15** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**01.10** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.35** «Сакрэт фірмы». Развіццё інфармацыйных тэхналогій.
**08.50** «АРТиШОК.
**09.15** «Чапаеў». Мастацкі фільм.
**10.50** «Кінаіндустрыя Краіны Саветаў». Вехі гісторыі Савецкага кінематографа: асобы, стужкі. Дакументальны фільм.
**11.40** «Калейдаскоп».
**11.45** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.00** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**15.40** «Эпоха». Напалеон Орда. Мастак, літаратар, кампазітар і педагог.
**16.35** Дзіцячы фільм. «Уключыце паўночнае ззянне».
**17.55** «Культпрасвет».
**18.20** Сусветнае кіно. «Легенды восені».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Уладзімір Співакоў запрашае». Оперны гала-канцэрт з удзелам Нацыянальнага філарманічнага аркестра Расіі.
**22.10** «Культпрасвет».
**22.35** «Сам-насам з усімі». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім.М.Горкага.
**00.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** «Цёмны бок».
**20.45** Фільм «Доктар смерць».
**00.15** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** Мультфільмы.
**06.50** Мастацкі фільм «Андрэй і злы чарадзей».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зямля і неба».
**09.35** Праграма «Прыгоды Макелонскай».
**09.45** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.10** Мастацкі фільм «Танчы, танчы».
**12.45** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**13.20** Мастацкі фільм «Гонар».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Фатограф».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Фатограф».
**23.55** Мастацкі фільм «Мінесота».
**01.35** Мастацкі фільм «Танчы, танчы».
**04.05** Праграма «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Тры шалёныя нулі», серыял: 3 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Музей Паэта.
**09.40** Без рэтушы: «Афрыканская чума», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**10.50** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Пацукі».
**11.15** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**12.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 3 серыя.
**12.45** «Троіца», фільм-канцэрт.
**13.30** Дакументальная гадзіна: «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**14.35** «Парадокс», серыял: 5 серыя.
**15.20** «Сярод белага дня», трымценнік, 2009 г., Канада.
**16.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 2 серыя.
**17.35** «Час гонару», серыял: 72 серыя.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Ян Чачот.
**19.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.20** Дакументальная гадзіна: «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**21.30** Фільматэка майстроў: «Ідэальны муж», камедыя, 1999 г., Вялікабрытанія.
**23.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Федарэнка і рамяство.
**00.35** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

ІДЭЯ




# ДАПАМОЖА ДОБРЫ ШАХ

Алег НОВІКАЎ

**Таджыкскі афіцыёз прапануе закласці ў аснову нацыянальнай ідэі таджыкаў канцэпцыю «добрага шаха».**

Каталізатарам дыскусіі наконт нацыянальнай ідэі ў Таджыкістане стаў рост папулярнасці персанажаў расійскага сатырычнага шоў «Наша Раша». Чытач, напэўна, здагадаўся, што гаворка пра Джамшуда і Раўшана — таджыкскіх гастарбайтараў, якія па сюжэце працуюць у Маскве і ўвесь час трапляюць у розныя камічныя сітуацыі. Афіцыйны Душанбэ нават неадназова выступаў супраць гэтай ксенафобскай праграмы.

Адначасова частка мясцовых інтэлектуалаў выступіла з правакацыйным тэзісам: з'яўленне вобразаў Джамшуда і Раўшана ёсць цалкам заканамернай з'явай. «Тое, што ў этнічных анекдотах у Расіі і ў іншых постсавецкіх краінах вобраз таджыка займае бачнае месца — люстэрка рэчаіснасці. Таджыкскія мігранты сёння з'яўляюцца самымі неканкурэнтаздольнымі на расійскім рынку працы. Устойлівае запаўненне гэтай нішы з'яўляецца галоўным прыкметай неканкурэнтаздольнасці мігрантаў (а значыць, і тытульнай нацыі), паколькі гаворка ідзе пра нішу, якая запаўняецца толькі некваліфікаванай, малапісьменнай працоўнай сілай. У вобразе Джамшуда і Раўшана выступаюць мільёны малапісьменных маладых людзей. Нашы назіранні паказалі, што амаль палова маладых працоўных мігрантаў, якія пакінулі сваю радзіму, не ў стане запоўніць міграцыйную картку», — адзначала таджыкская прэса.

Пасіўнасць маладых таджыкаў, іх нежаданне пакінуць маргінальнае гета інтэлектуалы тлумачылі эрозіяй нацыянальнай ідэі. Другой галоўнай перашкодай для дасягнення нацыянальнай інтэграцыі, без якой сапраўднае адраджэнне тытульнай нацыі немагчымае, называлася развітая сістэма мясцовых кланаў.

Выхад з сітуацыі вырашылі шукаць у абнаўленні нацыянальнай ідэі. Яна, дарэчы, у Таджыкістане вельмі арыгінальная, паколькі таджыкі — адзіны іранамоўны народ, які ўваходзіў у склад СССР. Таму яшчэ ў часы Савецкага Саюзу сярод часткі мясцовай інтэлігенцыі ўзнікла арыйская крамола. Перыядычна нацыяналісты агучвалі тэзіс пра тое, што таджыкі — гэта нашчадкі арыяў, якія паводле расавай тэорыі маюць перавагу над усімі іншымі этнасамі. За гэта іх, адпаведна, ганяла КДБ.

Пасля абвяшчэння незалежнасці арыйскай канцэпцыі было дадзенае зялёнае святло. У ідэйным плане трэба было нешта супрацьпаставіць націску ісламістаў. Аднак з часам стала відавочна, што тэма арыяў выглядае ў вачах таджыкаў дастаткова абстрактнай. Магчыма, таму, што расійскія скінхеды б'юць нашчадкаў арыяў, якім, паводле той жа расавай тэорыі, наадварот, непаўнавартасныя славяне маюць лізаць боты. Не дзіўна, што яшчэ пару гадоў таму афіцыйныя прапагандысты сталі паступова адсоўваць арыйскія матывы на задні план. Замест гэтага прапагандавалі дзяржаву Саманідаў, якую, паводле агітпропу, заснавалі прашчуры таджыкаў. Мінусам гэтай канцэпцыі было тое, што ў дзяржаве Саманідаў вялікую ролю гуляў іслам, што стварае шчыліны для ісламістаў.

Магчыма, таму і ўзнікла ідэя справядлівага шаха, якую агучыў блізкі да ўлады прафесар Абдугані Мамадазімаў. Канцэпцыя гучыць наступным чынам: «Сучасная варыяцыя ідэі аб справядлівым шаху — гэта ідэя аб усенародна абраным прэзідэнце як агульнанацыянальным лідары (замест ранейшага ўдачлівага правадыра, які захапіў уладу мячом), такі правадыр адказны перад грамадствам, праводзіць узважаную ўнутраную і знешнюю палітыку».

Самае цікавае — не толькі Таджыкістан, а ўсё дзяржавы сярэднеазіяцкага рэгіёну даўно, самі гэтага не ведаючы, праводзяць у жыццё ідэю «справядлівага шаха». Гэта выражаецца ў тым, што ва ўсіх краінах, паводле Абдугані, ёсць свае лідары, вакол якіх аб'ядноўся народ. Менавіта такая канфігурацыя грамадства дапамагла рэгіёну адносна лёгка перайсці ад мадэлі сацыялістычных рэспублік да мадэлі нацыянальных дзяржаў. Да таго ж шахская ідэя стала спрыяльнай глебай для правядзення розных агульнанацыянальных рэформаў, бо дамінаванне дзяржаўнага патэрналізму ў дадзеных грамадствах дазволіла пазбегнуць жорсткага супрацьстаяння паміж рознымі грамадскімі пластамі і дзяржаўнымі структурамі, якія праводзяць дадзеныя рэформы.

Нарэшце, быццам, ідэя справядлівага шаху (у новай мадыфікацыі) дазволіла спачатку не дапусціць у рэгіёне «каляровых» рэвалюцый, а пазней — не заўважаць балючыя працэсы «арабскай вясны».

Пры гэтым рэжымы ў Астане, Ташкенце і Ашхабадзе супрацьпастаўляюцца рэжыму ў Кыргызстане, дзе за часы незалежнасці змянілася чатыры прэзідэнты. На калектыўную думку кіргізаў паўплывала шаманская «ерась».

Аўтар канцэпцыі добрага і справядлівага шаха лічыць: «Заканамернасці пераходнага часу патрабуюць дамінавання выканаўчай улады над астатнімі, што можа эканоміць час для ўзгаднення палітыкі паміж усімі галінамі ўлады». Як адзначае выданне «Фергана», «няма сумневаў, хто менавіта прапануецца ў сучасныя «справядлівыя шахі». Перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі падчас паездак Эмамалі Рахмона па краіне дарослыя і дзеці, якія збіраліся на сустрэчы з ім, сустракалі прэзідэнта радаснымі крыкамі: «Прыходзь, наш шах!».

Прапанова Мамадазімава выклікала шмат пратэстаў у інтэлектуальных колах. «Сама ідэя аб справядлівым шаху або аб народным прэзідэнце не з'яўляецца канструктыўнай. Гісторыя яшчэ не ведае ніводнага справядлівага шаха — рэальнага выразніка інтарэсаў народа. Усё, што кажуць пра Аляксандра Македонскага, пра Пятра І, пра Леніна, пра Ельцына і пра многіх іншых шахаў і прэзідэнтаў, — чыстыя выдумкі прыдворных і гісторыкаў і паэтаў», — піша адзін з апанентаў Мамадазімава.

Між тым, большасць назіральнікаў згодныя, што ўлада ў Душанбе сапраўды можа правесці ідэалагічную «зачыстку» і абвясціць Рахмона шахам. Гэта будзе сур'ёзным крокам у накірунку прававога ператварэння фармальных рэспублік Сярэдняй Азіі ў адкрытыя манархіі. Нават Туркменбашы ў свой час адмовіўся ад ідэі стаць шахам, хаця такая ідэя актыўна абмяркоўвалася ў туркменскіх урадавых колах. А вось наколькі шахскі тытул Эмамалі Рахмона здольны выклікаць у таджыкаў выбух пачуцця нацыянальнай годнасці, можна паспрачацца. Прынамсі, большасць аглядальнікаў глядзіць на гэта са скепсісам.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Украіне моцна не пашанцавала, што ў краіне не знайшлося свайго Пуціна ці хаця б Аляксандра Лукашэнкі. Вядома, Бацьку ў Беларусі было лягчэй: яму дасталася яшчэ не разрабаваная бандытамі і новаанароджанымі алігархамі эканоміка, прадуманая знешняя палітыка дазволіла атрымліваць ад Расіі танную сыравіну. Ва Украіны магла б быць выдатная будучыня культурнай, цывілізаванай, хрысціянскай краіны, спадчынніцы гістарычнай Кіеўскай Русі. Магла б быць, калі б украінскія палітыкі і алігархі паставілі нацыянальныя інтарэсы вышэй за прагу нажывы. А хто будзе новым прэм'ерам? Калі не Аляксандр Лукашэнка, то і казаць няма пра што.

**«Взгляд» (Расія)**

Угэтыя дні шмат кажуць пра спробу ўвесці ва Украіне расійска-беларускі сцэнар, але такое параўнанне, што называецца, кульгае на абедзве нагі. Тут не Расія, дзе кіруючы рэжым мае магутную эканамічную аснову, хай нават у выглядзе сыравіннай эканомікі, а рэйтынг самога Пуціна пасля без малога 15 гадоў кіравання стабільна перавышае 50%. Тут не Беларусь з яе хай і з праблемамі, прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, усеагульнай занятасцю, бясплатнай медыцынай, магутнай сацыялкай, бясплатнай адукацыяй, дзіцячымі кружкамі і спортам, а таксама Лукашэнкам, якога падтрымлівае пераважная частка насельніцтва. Дарэчы, можна быць упэўненым, што, на фоне падзей у Кіеве ўлада ў Беларусі стане яшчэ больш трывалай з-за росту рэйтынгу Лукашэнкі.

**«Фраза» (Украіна)**

Дзяржаўнаму «Беларуськалію» фактычна давялося ўставаць на новыя рэйкі, выходзячы на сусветны рынак угнаенняў самастойна. Такія вынікі хваравітага разрыву з «Уралкаліем», з якім яны да канца ліпеня 2013 года разам гандлявалі праз Беларускую калійную кампанію. Аляксандр Лукашэнка зрабіў усё магчымае, каб спрасціць «Беларуськалію» задачу сіламі чыноўніцкага апарату. Для яго абнулілі пошліны на экспарт, шэрагу міністэрстваў прама даручылі заняцца продажам калію. Нягледзячы на карт-бланш, беларускія калійшчыкі, падобна, так і не змаглі эфектыўна арганізаваць збыт і штучна завышаюць статыстыку экспарту. Як расійскія, так і беларускія эксперты лічаць, што адзінай рэальнай магчымасцю павысіць аб'ёмы продажаў «Беларуськалія» магло б стаць аднаўленне партнёрства «Беларуськалія» з «Уралкаліем».

**«Эксперт» (Казахстан)**

Цікавая пазіцыя беларускіх уладаў у дачыненні да ўкраінскіх падзей. Афіцыйны Мінск па-ранейшаму імкнецца прытрымлівацца нейтралітэту. Выказванні чыноўнікаў часцей за ўсё ўтрымліваюць шкадаванні з нагоды супрацьстаяння, што прывяло да ахвяраў. Мясцовыя эксперты тлумачаць гэта «палітычнай хітрасцю»: невядома, чым скончыцца канфлікт ва Украіне, а добрыя адносіны лепш бы мець з любой уладай суседняй краіны. Да таго ж прэзідэнт Лукашэнка ўжо апынаўся ў сітуацыях, калі перамагалі не тыя, на каго ён рабіў стаўку.

**«Независимая газета» (Расія)**

Калі сур'ёзна, з трох славянскіх краін найбольш гатовая «ў Еўропу» не Украіна, не Расія, а Беларусь. Уласна кажучы, гэта і цяпер цалкам нармальная еўрапейская краіна. Прыбытак на душу насельніцтва па ВУП амаль удвая больш украінскага, каэфіцыент Джыні пры гэтым нізкі (гэта значыць, людзі рэальна маюць гэтыя грошы). Добрая сацыялка, цалкам сумяшчальная з еўрапейскай. «Бытавых свабод» (якія цікавяць абывацеля) досыць — рэстараны, начныя клубы (у тым ліку гейскія і да т.п.). Нацыянальнае пытанне вырашана акуратна, працоўная мова руская, беларуская — у асноўным парадная (але яе веданне прэстыжна). А тое, што беларусаў ад Еўропы аддзяляе — дык гэта «рэжым Лукашэнкі». Які, наколькі я разумею, гэта нешта накшталт «ваенная становішча». А «ваенная становішча» — на тое і «становішча», што яго можна хутка адмяніць. Як гіпс зняць. Тры ўдары малатка — і вуаля, толькі памыцца, надзець модныя штаны, і ўжо можна заказваць квіткі ў венскую оперу.

**«Новый обозреватель» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. ЗА СПРОБУ ЗАМАХУ НА НАЗАРБАЕВА БУДУЦЬ КАРАЦЬ СМЕРЦЮ

Генеральная пракуратура Казахстану прапанавала дэпутатам казахскага парламента падкарэктаваць артыкул Крымінальнага Кодэксу пра замах на жыццё прэзідэнта краіны. Інавацыя ў тым, што злачынцу будзе пагражаць смяротнае пакаранне за замах на жыццё прэзідэнта краіны, нават калі гэтыя дзеянні не прывялі да смяротнага выніку. Непасрэдна прапануецца наступны варыянт тэксту артыкулу: «За здзяйсненне пяці злачынстваў (удзел у наёмных фармаваннях, замах на жыццё першага прэзідэнта, замах на жыццё прэзідэнта, дыверсія, акт тэрарызму) прадугледжваецца смяротнае пакаранне, незалежна ад таго, ці загінулі людзей». Пад тэрмінам «першы прэзідэнт» тут разумеецца Нурсултан Назарбаеў, асаблівы статус якога гарантуецца шэрагам спецыяльных законаў і ў выпадку сыходу ў адстаўку. Такая рэдакцыя артыкулу КК — відавочны нонсэнс, асабліва з улікам таго, што Казахстан падпісаў шэраг канвенцый, паводле якіх сфера выкарыстання смяротнага пакарання абмежаваная тэрарызмам і асабліва цяжкімі злачынствамі. Аднак наўрад ці гэта супярэчнасць нешта зменіць. Цікавай была рэакцыяй блогераў на праект новага КК. На іх думку, пад новы артыкул трапляе перш за ўсё Аллах, які можа забраць жыццё ў Назарбаева. Праўда, сам прэзідэнт не такі ўжо і крыважэрны. У снежні 2003 года прэзідэнт Казахстана абвясціў бестэрміновы мараторый на выкананне смяротных прысудаў. У цяперашні час каля ста асуджаных на смерць адбываюць пакаранне ў выглядзе пажыццёвага пазбаўлення волі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. ПАДРЫХТАВАНЫ ПЛАН ЭВАКУАЦЫІ АМЕРЫКАНЦАЎ З СОЧЫ

Амерыканскія ваенныя і спецслужбы распрацавалі план эвакуацыі амерыканскіх грамадзян у выпадку, калі расійскія службы бяспекі не змогуць прадухіліць тэракты ісламістаў у Сочы. Скласці план даваліся пасля таго, як чачэнскія тэрарысты, якія называюць алімпіяду «Гульні сатаны», распаўсюдзілі ў інтэрнэце заяву, у якой сярод іншага гаворыцца: «У нас сюрпрыз для вас. І для турыстаў, якія прыедуць да вас, — для іх таксама ёсць сюрпрыз. Гэта за ўсю мусульманскую кроў, якая праліваецца кожны дзень ва ўсім свеце — у Афганістане, Самалі, Сірыі, — ва ўсім свеце. Гэта наша помста». У сувязі з гэтым некаторыя амерыканцы ўжо завочна параўноўваюць Сочы–2014 з алімпіядай у Мюнхене ў 1972 годзе, калі арабскія тэрарысты забілі 11 чальцоў ізраільскай зборнай. Каб не дапусціць гэтага, і прыдуманы план эвакуацыі. Праўда, эксперты скептычна ацэньваюць магчымасць яго рэалізацыі. 15 тысяч амерыканцаў, якія маюць намер паехаць у Сочы, эвакуяваць за кароткі час вельмі цяжка. А вось брытанцы, якім тэрарысты таксама асобна пагражаюць, пайшлі іншым шляхам — вырашылі накіраваць разам са спартсменамі ў Сочы элітнае падраздзяленне спецназа — SAS.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### НОВАЯ ЗЕЛАНДЫЯ. ЧАКАЕЦЦА РЭФЕРЭНДУМ ПРА ЗМЕНУ СІМВОЛІКІ

Прэм'ер-міністр Новай Зеландыі Джон Кей паабяцаў правесці рэферэндум аб змене нацыянальнай сімволікі. Перш за ўсё гаворка пра тое, каб прыбраць са сцягу Новай Зеландыі выяву сцяга Вялікабрытаніі, які часта называюць Юніён-Джэк. Юніён-Джэк сімвалізуе тое, што Новая Зеландыя была брытанскай калоніяй і з'яўляецца сябрам Брытанскай садружнасці. Аднак такі падыход, па словах палітыка, не адпавядае сучасным поглядам жыхароў краіны. Акрамя таго, цяперашні сцяг Новай Зеландыі вельмі падобны на сцяг суседняй Аўстраліі, што прыводзіць да шматлікіх канфузаў на міжнародных канферэнцыях і спартовых спаборніцтвах. Прэм'ер таксама лічыць, што на новым сцягу можа быць выяўлены неякі ўзор мясцовай флоры. На думку аглядальнікаў, найбольшыя шансы ў такім выпадку мае папараць. Яе малюнак даўно выкарыстоўваецца спартсменамі зборнай Новай Зеландыі. Цікава, што лагічныя аргументы Джона Кея не сустрэлі адназначнай падтрымкі ў грамадстве. Першыя сацыялагічныя апытанні сведчаць, што толькі палова грамадзян жадае змяніць сцяг. Справа ў тым, што менавіта пад гэтым сцягам новазеландцы змагаліся падчас Першай і Другой сусветных войнаў. Хапае ў краіне і аматараў брытанскай манархіі. Свае пяць капеек уставілі ў дэбаты і палітыкі з Маоры — партыі, якая абараняе правы абарыгенаў. Яны згодныя на рэформу сімволікі выключна ў выпадку, калі на сцягу будуць прадстаўленыя нацыянальныя тубыльскія матывы.

**Паводле брытанскай прэсы**



МЕРКАВАННЕ

# ФЕТЫСАЎ ІДЗЕ Ў ПАЛІТЫКУ

**Мільярдэр Глеб Фетысаў імкліва фармуе ў Расіі новы апазіцыйны полюс. Пра тое, чаго вартыя ягоныя праекты, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім журналістам Дзмітрыем Касценкам.**



***— На мінулы тыдні ў Маскве прайшоў устаноўчы з'езд новай партыі. Яна будзе называцца «Альянс зялёных і сацыял-дэмакратаў». Стваральнікаў Альянсу цяжка назваць вядучымі палітыкамі, аднак прэса ахвотна і шмат каментуе гэту падзею.***

— Сапраўды, на першы погляд, з'езд Альянсу не варты ўвагі. Новае фармаванне створана на базе часткі сяброў фракцыі «Справядлівая Расія» (лідары — дэпутаты Генадзь Гудкоў, Ілля Панамароў) і «Альянсу зялёных» (лідар — былы прэфект аднаго з раёнаў Масквы Алег Мітволь). Панамароў і Гудкоў пры гэтым прадстаўляюць фантомнае незарэгістраванае аб'яднанне «Сацыял-дэмакраты Расіі». Прысутнічала яшчэ пару фэйкавых партый. Па сутнасці, усё, што адбылося, — перайменаванне малавядомага «Альянсу Зялёных» з увядзеннем у яго кіруючыя органы новых асобаў. Калі б не адзін факт: спонсарам аб'яднання выступае Глеб Фетысаў, адзін з самых багатых людзей Расіі. Што б ні казалі крытыкі, цяпер, фармальна, у нас ёсць апазіцыйная партыя з рэгістрацыяй, якая мае дзве-тры вядомыя фігуры, прычым на ўзроўні Дзярждумы, фінансава рэальна незалежная ад Крамля.

***— Наколькі грошы важныя для таго, каб займацца партыйнай палітыкай у Расіі?***

— На з'ездзе Альянсу Генадзь Гудкоў агучыў цікавую лічбу. Паводле яго падлікаў, каб партыя ў Расіі існавала ў федэральным маштабе і мела адпаведна ўплыў, ёй патрэбна каля 10 мільёнаў долараў штогод. З прыкладна 50 на цяперашні момант зарэгістраваных у Расіі партый, такі бюджэт маюць толькі думскія партыі плюс, можа, яшчэ партыя Прохарава. Нейкім чынам не дазваляе маргіналізаваць сябе «Яблоко» за кошт таго, што атрымлівае грошы з бюджэту як партыя, якая набірае адпаведны працэнт на выбарах. Іншымі словамі, у Фетысава з яго грашыма (Фетысаў па версіі часопіса «Форбс» №55 у рэйтынгу найбольш багатых людзей Расіі) патрэбныя рэсурсы для раскруткі праекту ёсць. Цікава, што Фетысаў нават не хаваў, што менавіта яго залаты запас сабраў усю тусоўку. «Нарэшце ўсе працверазелі і зразумелі, што вельмі важны і фінансавы рэсурс», — сказаў ён на з'ездзе.

***— На тэрыторыі былога СССР даўно вядомы такі феномен, як алігархічная партыя. Партыя, якая пры ўсіх сваіх дэмакратычных дэкларацыях на самай справе дэ-факта належыць аднаму чалавеку — спонсару. Ці можна Альянс аднесці да такой катэгорыі партый?***

— Баюся, што так. Пра гэта сведчыць тое, што ў кіраўніцтве Альянсу Панамароў заняў пасаду сустаршыні новай партыі. Прычым не толькі заняў, а па статуту атрымаў права прадстаўляць яе без даверанасці. Другі сустаршыня Генадзь Гудкоў такога мандату не мае. З улікам таго, што ўсе алігархі ад палітыкі любяць любымі сродкамі надаваць сабе лоск, не выключана, што Альянс быў створаны для таго, каб у Дзярждуме з'явілася група яго прадстаўнікоў у асобах Гудкова і Панамарова.

***— У свеце практычна не сустракаюцца партыі, якія аб'ядноўваюць эколагаў і эсдэкаў. Ці не ўзнікнуць унутры праекту ідэалагічныя супярэчнасці?***

— Самі аўтары Альянсу кажуць, што прапануюць трэці шлях у апазіцыі паміж лібераламі, чые арганізацыі, па іх словах, сталі масонскімі ложамі, і камуністамі. Аднак у чым той шлях заключаецца, цяжка сказаць. Так, нехта з удзельнікаў з'езду казаў, што прыйшоў час аб'яднаць ідэі эсдэкаў і эколагаў на базе культу духоўнасці. Думаю, пытанням ідэалогіі асабліва ніхто ўвагі пакуль не надае. Пра ідэалагічную шматпалярнасць Фетысава сведчаць нядаўнія кансультацыі ягонага «Альянсу зялёных» з рускімі нацыяналістамі з партыі Дзёмушкіна. Кантакты эколагаў і ўльтраправых цяжка сабе ўявіць у Еўропе

***— Як у Крамлі, і ўвогуле ў прэсе, каментуюць з'яўленне Альянсу?***

— Крэмль пакуль ніяк не каментуе нараджэнне Альянсу. Што тычыцца прэсы, то яна падзялілася: адны лічаць, што мы маем справу з перспектыўным праектам. Пры ўсіх сваіх капрызах, Фетысаў здольны забяспечыць партыю фінансамі. У адным з інтэрв'ю ён сам нават заявіў пра намер прадаць усе свае актывы, каб Крэмль не мог ціснуць на яго праз бізнэс-структуры ў выпадку канфлікту з уладай. Другія ўжо далі Альянсу мянушку «партыя-кактэйль» і схіляюцца да думкі, што гэта бзік алігарха, які знаходзіцца ў свеце сваіх жа ілюзій. Прынамсі, толькі сапраўды недалёкі ў палітыцы чалавек можа ўсур'ёз казаць пра тое, што нарэшце адбылася гістарычная падзея, калі сацыял-дэмакраты і эколагі вырашылі аб'ядначца пад адным партыйным дахам.

***— Ці ёсць у Альянсу шанец прарвацца ў першы эшалон расійскай палітыкі?***

— Планы ў Альянсу, якія былі агучаныя Фетысавым на з'ездзе, вельмі амбіцыйныя: у 2014 годзе атрымаць фракцыю ў Мосгардуме, выйграць шэраг рэгіянальных выбараў, каб на гэтай хвалі прайсці ў Дзярждуму ў 2016 годзе, стаўшы другой пасля «Адзінай Расіі» палітычнай сілай у краіне. Аднак аб'ектыўна сваёй сеткі мясцовых арганізацый у Альянсу няма. Адзіная яго сіла — гэта адносная пазнавальнасць некаторых лідараў на месцах. Тут, на асобна ўзятай пляцоўцы, пры некаторай дамоўленасці з уладай ці апазіцыяй, яны маглі б на нешта прэтэндаваць. Так, калі Панамароў на красавіцкіх выбарах стане мэрам Новасібірску, Альянс сапраўды могуць заўважыць на федэральным узроўні. Таксама шмат залежыць ад таго, якое месца зойме праект Фетысава ў паліттэхналагічных гульнях Крамля. Напрыклад, яго могуць выкарыстаць для расколу апазіцыйнага электарату, як у свой час гэта зрабіў праект «Радзіна». Таксама не выключана, што Крэмль, прааналізаваўшы падзеі на Майдане, паспрабуе прыдумаць новую схему гульні з апазіцыяй і дапусціць больш апазіцыянераў у Думу, каб канфлікты адбываліся ў зале, а не на вуліцы.

Напрыканцы хачу ўзгадаць адзін цікавы для беларусаў кур'ёз. Новы сцяг «Альянсу зялёных і сацыял-дэмакратаў» вельмі нагадвае цяперашні беларускі дзяржаўны сцяг.

МАЙДАН

# ГРЫЎНЯ Ў ЧАКАННІ ДЭВАЛЬВАЦЫІ

Алег НОВІКАЎ



**Упершыню за час палітычнага крызісу ва Украіне, курс украінскай валюты рэзка абваліўся, што можа мець даволі негатыўныя наступствы.**

Нягледзячы на тое, што супрацьстаянне на Майдане цягнецца ўжо амаль трэці месяц, на паўсядзённым эканамічным жыцці гэта практычна ніяк не адлюстроўвалася. Кошты на тавары ва ўкраінскіх крамах застаюцца стабільнымі, а падчас рознага кшталту акцый яны ў параўнанні з беларускімі выглядаюць папросту архітаннымі. Грыўня да Новага года скакала ў калідоры 8–8,1 за долар, што сярэднестатыстычны ўкраінец амаль не заўважаў.

Пры гэтым, адзначым, сітуацыя з фінансамі ва Украіне далёка не самая лепшая. У мінулую восень тады яшчэ прэм'ер Мікола Азараў неаднаразова казаў, што ў наступным годзе краіна можа стаць банкрутам. Рэзервы галоўнага банку краіны мізэрныя — каля 20 мільярдаў, а толькі МВФ у 2014 годзе трэба сплаціць каля 4 мільярдаў. Увогуле, такі стан рэчаў — не што іншае, як лагічны вынік алігархічнага характару ўкраінскай эканомікі, калі алігархі з Партыі рэгіёнаў банальна не плацяць падаткі, выводзячы грошы ў афшоры. Аднак гэта іншая тэма.

Так ці інакш, грыўня знаходзілася ў стане паўзучай дэвальвацыі, аднак не такой дынамічнай, як у Беларусі. А калі Масква пагадзілася выдаць Кіеву крэдыт на 15 мільярдаў, то нават самыя заўзятыя панікёры пагадзіліся, што дэфолт грыўні можна смела адтэрмінаваць як мінімум на паўтара-два гады.

Аднак цяпер настроі значна больш песімістычныя. 20 студзеня, пасля пачатку масавых пратэстаў і сутычак у Кіеве, украінскі рынак акцый пачаў рух уніз. На працягу некалькіх гадзін усе індэксы сышлі ў т. зв. «чырвоную зону». Напрыклад, індэкс «Украінскай біржы» абваліўся на 2,73 %.

Газета «Экономические Известия» за 24 студзеня пісала: «Разнастайныя Еўрамайданы, вядома, прыцягваюць увагу замежнікаў, але далей, чым пафатаграфавацца на фоне мітынгоўцаў, ніхто з іх не заходзіць. Замежныя бізнэсмэны не толькі не хочуць адкрываць у нас новыя прадпрыемствы, але ўжо нават пачалі зачыняць старыя. Не так даўно буйная ўкраінская машынабудаўнічая кампанія нечакана атрымала адмову ад заходніх банкаў па ўжо раней зацверджаных лізінгавых праектах з замежнымі кліентамі. Аргументацыя ўжо не здзіўляе: маўляў, занадта высокія краінавыя рызыкі, таму грошай не дамо».

Сінхронна біржавым індэксам пачало ліхарадзіць і грыўню. 24 студзеня курс грыўні да долара скокнуў да 8,5:1. У панядзелак, 27 студзеня, ён быў ужо 8,6. Сам попыт на валюту на міжбанку вырас у разы. З 3 па 20 студзеня сярэдні аб'ём таргоў валютай на міжбанку склаў 1,3 мільярда долараў у эквіваленце. 21 студзеня аб'ём таргоў на міжбанку ўзляцеў да 2,6 мільярда долараў.

Гэта адразу насцярожыла простых людзей, якія відавочна не забылі пра дэвальвацыю ў 2008 годзе. Тады грыўня патаннела амаль на 25 працэнтаў літаральна за пару месяцаў. Нядзіўна, што там-сям пачаўся валютны голад. Часцей за ўсё пра шалёны попыт на валюту пішуць адэскія і данецкія СМІ.

Тое, што грыўня ўвайшла ў піке з-за падзей на Грушэўскага, не выклікае сумневаў. Не выпадкова блізкая да ўраду прэса актыўна спекулюе на гэтым факце. «Адмоўная дынаміка пачатку таргоў ва Украіне прагназуемая: у Кіеве абстаноўка напалілася дашчэнту — пратэстоўцы перайшлі да актыўных баявых дзеянняў у спробе пікетаваць урадавыя будынкі», — піша газета «Сегодня», якая належыць данецкаму алігарху Ахметаву. Тая ж «Сегодня» прагназуе, што падзенне можа працягвацца да ўзроўню 12 грыўняў за долар.

Як бы фантастычна ні гучалі такія прагнозы, паслабленне грыўні — сур'ёзны выклік на адрас апазіцыі, якая арганізавала Майдан. Цяпер ягоныя наступствы адчувае на сваёй кішэні кожны чалавек.

Апазіцыйныя эканамісты намагаюцца перавесці стрэлкі на Януковіча. Яны лічаць, што народ пабег набываць валюту, а бізнэсмэны — думаць пра эвакуацыю пасля таго, як на Грушэўскага пачалі страляць па маніфестантах. «Пакуль падзеі развіваліся мірна — курс стаяў, як толькі па віне ўлады загінула некалькі пратэстоўцаў — валютны рынак абваліўся. Калі расстрэльваюць бяззбройных дэманстрантаў — гэта нават не сігнал для інвестараў, гэта ўжо апошні званок», — адзначае апазіцыйны партал «Украінская праўда». «21 студзеня, калі ад агнястрэльных раненняў загінуў актывіст Майдану, аб'ём куплі валюты на міжбанкаўскім рынку ўзляцеў да 3,2 мільярда долараў — гэта абсалютны (!) рэкорд за ўсю гісторыю Украіны», — адзначае «Украінская праўда».

Незалежныя аглядальнікі не выключаюць, што штуршком стала паніка сярод блізкіх да ўлады алігархаў. «Коммерсант» піша: «На мінулым тыдні бізнэс, уключаючы набліжаны да ўлады або арыентаваны на цяперашні чыноўнікаў, рэзка спыніўся і кінуўся скупляць валюту для вываду грошай у больш спакойныя гавані».

Пакуль цяжка сказаць, у якую з версій паверыць большасць выбаршчыкаў, што, безумоўна, адаб'ецца на іх палітычных сімпатыях. Шмат будзе залежыць ад таго, як паводзе сябе грыўня далей. У аўторак, 28 студзеня, Нацбанк правёў інтэрвенцыю, і валюта апусцілася да 8,5. Акрамя таго, псіхалагічны парог яшчэ ўсё не пройдзены. Прынамсі, параўнаць сцэны каля кіеўскіх абменнікаў з тым, што адбывалася ў Мінску ўвесну 2011-га, проста немагчыма. Каля абменнікаў у Кіеве сапраўды можна пабачыць пенсіянераў, якія на ўсялякі выпадак пераводзяць свае сціплыя пенсіі ў валюту. Аднак чэргаў, а тым больш шыльдачак «Долараў няма» прынамсі аўтар артыкулу нідзе не бачыў. Варта сказаць, што антырэкорд грыўня пакуль яшчэ далёка не пабіла. Так, у снежні 2008 года курс на міжбанку ўзлятаў і да 9,65 грыўняў за долар, а ў лютым 2009 года дасягаў адзнакі 9,35 грыўні за долар.

Бізнэс-выданні лічаць, што вярнуць давер да грыўні можна за кошт мікракрокаў ураду насустрач інвестару. Гэта, напрыклад, мог стаць анонс рэформы судовай сістэмы, якая ва Украіне вельмі карумпаваная. Тэарэтычна, не павінна даць цалкам памерці грыўні Масква, якая зацікаўленая, каб Януковіч не перабег на Захад.

Аднак большасць прагназаў усё ж асцярожна песімістычныя. Усе меры не кампенсуюць ролі Майдану. Каб Майдан канчаткова перастаў адмоўна ўплываць на грыўню, патрэбна разрадзіць палітычную сітуацыю. А тая сітуацыя не абавязкова стабілізуецца, нават у тым выпадку, калі Арсень Яцанюк і Віталь Клічко пагодзяцца на ўдзел у працы новага Кабміну. Не выключана, што гэта толькі падагрэе народны гнеў і прывядзе да яшчэ больш актыўных пратэстаў, што, у сваю чаргу, яшчэ больш падкосіць UAH.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЦІЛА МЕШТЭРХАЗІ



Старшыня Венгерскай сацыялістычнай партыі быў абраны кангрэсам партыі кандыдатам на пасаду прэм'ера. Прэм'ерам, праўда, ён стане выключна ў выпадку перамогі яго партыі на прызначаных на 6 красавіка парламенцкіх выбарах. Галоўным супернікам Ацілы Мештэрхазі стане Віктар Орбан, цяперашні прэм'ер і лідар партыі «Фідэс». Галоўнымі пунктамі перадвыбарнай праграмы, агучанай на кангрэсе Мештэрхазі, сталі зніжэнне падаткаў, развіццё аўтатранспартнай інфраструктуры і інтэграцыя цыган. Таксама ён крытыкуе кааперацыю Будапешта з Масквой. Урад Віктара Орбана, які раней дабіўся забароны ў Венгрыі камуністычнай сімволікі, падпісаў дамову з карпарацыяй «Росатам» на будаўніцтва новага рэактара на мясцовай атамнай станцыі. Нягледзячы на такую супярэчлівасць паводзін Орбана, электарат па-ранейшаму ў большасці падтрымлівае яго курс. Калі б выбары адбываліся заўтра, то «Фідэс» мела б на 6 працэнтаў галасоў больш, чым сацыялісты, што дае Орбану магчымасць трэці раз стаць венгерскім прэм'ерам. Застаецца дадаць, што Мештэрхазі толькі 40 гадоў, аднак ён ужо паспеў папрацаваць у складзе ўрадавага апарату.

### ВІКУС КОТЦЕ




Гэта першы белы жыхар Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, што ўступіў у партыю «Байцы за эканамічную свабоду» (EFF), якой кіруе харызматычны малады палітык Юліус Малема. Значная частка праграмы і рыторыка EFF пабудаваныя на тэме нянавісці да нашчадкаў белых каланістаў. Малема прамым тэкстам патрабуе канфіскацыі маёмасці беласкурых уладальнікаў прамысловасці і земляў белых фермераў. Нядзіўна, што першы выхад Вікуса на публіку ў чырвоным барэце (сімвал EFF) шакаваў значную частку белых грамадзян ПАР. Яны разгарнулі ў сеціве татальную вайну супраць «здрадніка белай скуры». Праўда, гэта яшчэ больш-менш карэктная ацэнка Вікуса. Паводле яго словаў, часцей за ўсё ў SMS яго называюць «ідыёт» і «дурань». Праўда, Вікус не прымае гэта блізка да сэрца і лічыць, што стаў ахвярай крытыкі з боку найбольш рэакцыйнай часткі грамадства, якая дасюль лічыць, што колер скуры нешта значыць. Свой выбар на карысць партыі Малемы ён тлумачыць тым, што гэта вельмі агрэсіўны палітык, і яго з'яўленне ў парламенце дазволіць рэанімаваць дэмакратычны працэс у Паўднёвай Афрыцы.

### ЭМАМАЛІ РАХМОН



Прэзідэнт Таджыкістана прыдумаў уніформу для ўсіх таджыкскіх ісламскіх святароў. Такім чынам, з 1 лютага мулы павінны прытрымлівацца наступнага дрэс-коду: «вопратка блакітнага колеру з элементамі нацыянальнай сімволікі». Рэформа гардэробу з'яўляецца часткай кампаніі ўлады супраць ісламскага экстрэмізму. У гэтым жа кірунку і іншае рашэнне — прыняцце ўсіх мулаў на дзяржаўную службу. Цяпер яны будуць атрымліваць грошы з бюджэту. Мерапрыемствы ўлады выклікалі неадназначную ацэнку ў грамадстве. Некаторыя лічаць, што грошы можна было б накіраваць на нешта больш карыснае. Ужо прайшла інфармацыя пра тое, што тэндэр на пашыў вопраткі атрымала блізкая да прэзідэнта фірма. З іншага боку, колькасць дзяржаўных святароў не такая і вялікая — каля 300 чалавек, а праблема абароны ад ісламістаў вельмі сур'ёзная, асабліва ў кантэксце таго, што войскі NATO збіраюцца хутка пакінуць Афганістан. Праўда, узнікае пытанне, ці дапамогуць Таджыкістану рэформы Рахмона з улікам таго, што радыкалізм, як правіла, мае сацыяльныя карані?

ЦІКАВА

# РЫЖСКАЯ МЯЖА ЯК ЗОНА ЗАГАРОДЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Пасля 17 верасня 1939 года на працягу амаль двух гадоў былая савецка-польская мяжа ператварылася ў так званую «зону загароды», праз якую можна было праехаць ці прайсці толькі са спецыяльным пропускам. У чэрвені 1941 года камандаванне Чырвонай Арміі паспрабуе арганізаваць у Беларусі абарону на лініі старой мяжы, аднак з гэтага нічога не атрымаецца.**



Памежны пераход у Коласава, 1930-я гады




Пашпарт жыхаркі Заходняй Беларусі, якая працавала ў Латвіі і вярталася праз КПП Бігосава

## Бальшавіцкі спецназ у «зялёных фуражках»

Напярэдадні ўварвання ў Польшчу ў верасні 1939 года сярод падраздзяленняў памежнай аховы НКУС БССР вылучаліся асобныя спецыяльныя часткі. Яны першымі павінны былі перайсці савецка-польскую мяжу і знішчыць гарнізоны стражніцы Корпуса Аховы Памежжа. Так, у складзе 13-га Бярэзінскага памежнага атрада ў перыяд з 11 па 15 верасня 1939 года было сфармавана 9 баявых груп (ад 40 да 120 чалавек). Напярэдадні «вызвольнага паходу» асабісты склад атрада быў папоўнены курсантамі палкавых школ унутраных войскаў Асобнай мотастралковай дывізіі асаблівага прызначэння. У адпаведнасці з загадам НКУС СССР № 0001-080 ад 10 верасня 1939 года, са складу 17-га Цімкавіцкага памежнага атрада былі вылучаны спецыяльны аператыўны батальён у колькасці 300 чалавек.

Удзельнічалі ў паходзе і памежнікі 12-га Бігосаўскага, 14-га Плешчаніцкага, 15-га Заслаўскага, 16-га Дзяржынскага, 18-га Жыткавіцкага памежных атрадаў. Як дзейнічаў памежны спецназ? Напрыклад, у працэсе дзеяння Бярэзінскага памежатрада ў 5 гадзін раніцы савецкія штурмавыя групы перайшлі мяжу і атакавалі польскія стражніцы. Палякі спрабавалі паведаміць свайму камандаванню пра атаку з Усходу, аднак зрабіць гэтага не паспелі, бо сувязь была знішчана. Добра падрыхтаваныя бальшавіцкія падраздзяленні хутка блакіравалі польскія заставы і закідалі капістаў гранатамі. Пазней, пасля заканчэння «вайны», савецкія памежныя часткі выкарыстоўваліся ў акцыях па арыштах, канваяванні і ахове польскіх ваеннапалонных, а таксама грамадзянскіх асоб.

## Мяжа застаецца

28–30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адбыўся народны сход Заходняй Беларусі, на якім была прынята дэкларацыя аб абвяшчэнні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тады ж дэпутаты пастанавілі прасіць Вярхоўны Савет СССР уключыць Заходнюю Беларусь у склад СССР. Краіна нібы аб'ядналася, але «рыжскую мяжу» ў Маскве вырашылі пакінуць. Праўда, пасля «вызвольнага паходу» памежныя атрады НКУС БССР чакала рэарганізацыя. Загадам ад 3 жніўня 1940 года 15-ты Заслаўскі і 17-ты Цімкавіцкі памежныя атрады былі расфармаваныя, а іх участкі і асабісты склад перададзены ў распараджэнне 16-га Дзяржынскага памежатрада, які, нягледзячы на «ўз'яднанне», працягваў ахоўваць участак былой дзяржаўнай мяжы па лініі Радашковічы — Заслаўе — Негарэлае — Цімкавічы — Чырвоная Слабада (260 км). У гэты час «рыжская мяжа» пачала называцца «зонай загароды». Па стане на жнівень 1940 года ў складзе Дзяржынскага атрада было 10 камендатур, 10 аддзяленняў сувязі, 42 лінейныя заставы, КПП «Радашковічы» і «Негарэлае», узвод сувязі, аўтаўзвод, гаспадарчы ўзвод.

> Толькі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ганебная «рыжская мяжа» і яе адпаведнік — «зона загароды» адышлі ў нябыт. Зараз пра іх нагадваюць толькі старыя ўмацаванні

Акрамя гэтага «рыжскую мяжу» працягвалі ахоўваць часткі 13-га Бярэзінскага памежнага атрада, у склад якога былі ўключаны суседзі з расфармаванага 14-га Плешчаніцкага атраду. Загадам № 001121 ад 20 верасня 1939 года быў сфармаваны 83-ці Маласлабоцкі памежатрад, у склад якога ўвайшлі чатыры камендатуры, 22 лінейныя заставы, КПП «Бігосава», узвод сувязі і іншыя часткі. Таксама ахову «старой мяжы» ажыццяўлялі 18-ты Жыткавіцкі памежатрад і 22-я асобная Ветрынская памежкамендатура.

У снежні 1940 года Лаўрэнцій Берыя накіраваў на імя Сталіна сакрэтную службовую запіску, у якой адзначалася: «Тэрыторыі заходніх абласцей Украіны і Беларусі да гэтага часу не ачышчаны ад антысавецкіх і варожых элементаў. [...] Значная колькасць удзельнікаў антысавецкіх арганізацый, шпіёнаў, дыверсантаў і іншых варожых элементаў спрабуе пракрасціся з заходніх абласцей Украіны і Беларусі ў асноўныя раёны СССР праз існуючую сёння так званую "зону загароды" на былой савецка-польскай мяжы. За мінулы перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі выкрыта і ліквідавана 162 контррэвалюцыйныя арганізацыі, арыштавана 1068 шпіёнаў.



Савецкія памежнікі затрымалі парушальніка мяжы

Зыходзячы з гэтага НКУС СССР лічыць неабходным і далей захоўваць на лініі былой савецка-польскай мяжы зону загароды, а таксама зоны загароды на былых савецка-эстонскай, савецка-латвійскай і савецка-румынскай межах. На гэтых участках нясуць службу 10 551 памежнік, з якіх 7 тысяч пакінуты ў памежных войсках на 1 год. Дадзены тэрмін службы мінае 1.01.1941 года. Для захавання існуючай сёння зоны загароды НКУС СССР просіць вашага дазволу:

1. Даць НКУС СССР права затрымаць тэрмінам на 1 год у памежных войсках 7 тысяч памежнікаў з ліку тых, у каго ў студзені міне тэрмін службы.
2. Абавязаць Эканамічны савет пры СНК СССР разгледзець заяўку НКУС на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне для пазначанай дадатковай лічбы памежнікаў».

Пра тое, як дзейнічала мяжа пасля «ўз'яднання», успамінаюць шматлікія жыхары Заходняй Беларусі. Напрыклад, жыхарка мястэчка Коласава Сцепаніда Яўсейчык расказвае: «У маці была сястра стрыечная ў БССР, дык маці праз былую мяжу да яе не пусцілі. Бацьку аднойчы, мусіць у 1940 годзе, адправілі ў Негарэлае на працу. Ён, калі вярнуўся адтуль, дык казаў, што ў Саветах жывуць вельмі бедна, а мы ж тады таксама ўжо былі савецкімі, аднак тое, што «за польскім часам» назапасілі, з таго і жылі». На працягу 1940 года на ўчастку аднаго толькі 13-га Бярэзінскага памежатраду ў "зоне загароды" было затрымана 2935 «парушальнікаў мяжы».

Падобная сітуацыя была і на іншых участках «рыжскай мяжы». Партфункцыянеры з Мінска, атрымаўшы спецыяльныя дазволы на перасячэнне мяжы, ехалі на Захад па «панскае дабро». Тады ж на рынках сталіцы БССР з'явілася вопратка з брэндамі заходнееўрапейскіх фірм, прадметы мастацтва, антыкварыят і іншыя рэчы.

## Трагедыя 1941-га

У мемуарах і ўспамінах шматлікіх савецкіх генералаў і маршалаў можна прачытаць, што камандаванне РСЧА ў першыя дні вайны спрабавала арганізаваць абарону на лініі старой мяжы. Тут гутарка ішла хутчэй не пра старыя, абяззброеныя ў 1940–1941 гадах ДАКі «Лініі Сталіна», а пра «памежную дыстанцыю», на якой захоўваліся вайсковыя часткі і куды планавалася сцягнуць рэзервы. Аднак перад тым, як пачаць змагацца з наступаючым ворагам, савецкія памежнікі, пакінутыя на «рыжскай мяжы», вымушаны былі адыгрываць ролю «заградатрада», які фільтраваў бежанцаў з Заходняй Беларусі, якія спрабавалі ўратавацца ад нацыстаў. Адным з такіх быў жыхар Навагрудка Давід Коган.

Вось як ён апісваў тую сітуацыю: «На старой савецка-польскай мяжы памежнікі правяралі дакументы, і тых, хто не меў дазволу, накіроўвалі назад. Саветы атрымалі загад не прапускаць людзей, якія былі грамадзянамі Польшчы да 1 верасня 1939 года». Ужо згаданая вышэй Сцепаніда Яўсейчык пацвярджае гэты факт. «На Усход беглі ў асноўным савецкія чыноўнікі з сем'ямі ды габрэі. Тут (у Коласава) іх шмат сабралася, а памежнікі прапускалі гэтых людзей марудна. Немцы бамбілі станцыю. Шмат хто з тых бежанцаў назаўсёды тут і застаўся».

Што ж тычыцца баёў з немцамі на старой мяжы, то спачатку памежнікам прыйшлося змагацца з нямецкімі парашутыстамі, але хутка вайна дакацілася і сюды. Байцы 13-га Бярэзінскага памежатрада ўпершыню сутыкнуліся з наступаючымі часткамі вермахта 27 чэрвеня ля Лагойска. У вёсцы Ілья мужна змагалася 12-я застава. 29 чэрвеня ў бой у «зоне загароды» ўступіла 5-я памежкамендатура. У ліпені памежнікі з Бярэзіно ахоўвалі тылы 22-й савецкай арміі, а ў верасні на базе памежатрада быў сфармаваны 13-ты памежны полк. Таксама актыўны супраціў ворагу аказалі і часткі 18-га Жыткавіцкага і 83-га Маласлабодскага памежных атрадаў.

Цяжкія баі з немцамі вёў 16-ты Дзяржынскі памежатрад, які спачатку змагаўся супраць нямецкіх дыверсантаў, а пазней аказаў упарты супраціў наступаючаму ворагу ў Радашковічах, Заслаўі, Старобіне, Новым Поле, Філіповічах, Чырвонай Слабады. У раёне Стоўбцаў — Коласава разам з памежнікамі змагаліся і мотастралковыя часткі Чырвонай Арміі. На гэтым участку адбыліся жорсткія танкавыя баі. Пазней памежнікі з Дзяржынску былі зведзены ў 16-ты памежны полк, падраздзяленні якога прайшлі ўсю вайну і ў маі 1945 года ажыццяўлялі ахову будынку ў Калхорце, у якім адбывалася падпісанне акту аб капітуляцыі нацысцкай Германіі.

Толькі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ганебная «рыжская мяжа» і яе адпаведнік — «зона загароды» адышлі ў небыццё. Зараз пра іх нагадваюць толькі старыя ўмацаванні ды дзе-нідзе захаваўшыся калючы дрот.

АГЛЯД

Анатоль МЯЛЬГУЙ

# МУЗЫЧНЫ РУХ: НАПЕРАД ДА КАРАНЁЎ!

**Выданне непадцэнзурных дыскаў з беларускамоўнымі музычнымі і літаратурнымі творамі стала магістральным напрамкам у развіцці беларускага музычнага руху. У 2013 годзе на розных тутэйшых і замежных лэйблах было выдадзена каля 40 беларускамоўных CD і DVD-дыскаў, што стала нагодай для разгляду мастацкіх вартасцей найцікавейшых з іх. Прынамсі, па раздзелу «рок».**

**Для ўсяго беларускага рок-руху стаў падзеяй чарговы рэліз ад гурта N.R.M. іх альбома «Д.П.Б.Ч.». Упершыню ў беларускай фанаграфіі ён быў выдадзены не толькі ў CD-фармаце, але і на вінілавым носьбіце**

## Вяртанне «генералаў»

Для ўсяго беларускага рок-руху стаў важнай падзеяй чарговы рэліз ад «генералаў айчыннага року», гурта N.R.M. іх альбома «Д.П.Б.Ч.» Упершыню ў беларускай фанаграфіі ён быў выдадзены не толькі ў CD-фармаце, але і на вінілавым носьбіце.

Цікава, што новы альбом пачынальнікаў нацыянальнай плыні ў айчыннай рок-музыцы прыйшоўся да спадобы як спрактыкаваным у музычных тэндэнцыях аналітыкам, так і маладым рэцэнзентам. Вось як падсумаваў значнасць чарговага альбома N.R.M. вядомы музычны крытык Віктар Мартыненка: «Калі вам скажуць, што N.R.M. страціў канцэптуальнасць з адыходам Вольскага, дык не верце: вось вам альбом страчанага пакалення, якое чакае сонца, не губляючы аптымізму» (http://belmusic.org/).

Музычнае напаўненне новай кружэлкі паўстала ў новым абліччы, як гарманічна-меладычным, так і ў рытмічным. Паслухайце, напрыклад, паказальны твор — кампазіцыю «Мроя мая», якая праз шматлікія асацыяцыі адсылае нас да творчасці «энэрэмаўскага» папярэдніка — гурта «Мроя». Але музыка гэтай кампазіцыі не рок-н-рольна-фолкавая з дамешкам панк-рока. Яна зусім адрозніваецца ад звычнага гучання гэтага гурта.

Новая музыка N.R.M. — больш сучаснае асэнсаванне альтэрнатывы, з яе пастаянным зваротам у лірыцы песень да экзістэнцыяльных праблем маладога слухача і выкарыстаннем пост-рокавых меладычных схем і аранжыровак. Але музыканты ў пагоні за навізной не зракаюцца і рок-н-рольнай «старыны», якая гарантавала ў мінулым поспех «Мроі» і N.R.M.

Паказчыкам гэтых адносін да асноў року можа служыць кампазіцыя «Прамень», якая мела шырокі рэзананс у коле аматараў айчыннай рок-музыкі, дзякуючы нечаканай ратацыі на тэлеканалах сапраўды ўражваючага сваім пазітывам відэакліпа на гэтую кампазіцыю. Свой піетэт да мінулага музыканты гурта абазначылі тым, што ў інтрадукцыі да яе выкарыстана мелодыя Дж. Харысана «Here Comes the Sun» з альбома «Abbey Road», гурта «Beatles».

Старыя прыхільнікі N.R.M. і цікаўныя маладыя слухачы, якія ўзгадаваліся на постмадэрнізме, знойдуць шмат свайго ў такіх кампазіцыях альбому, як «Ты маўчыш — я маўчу» ці «На далоні» з рэпертуару гурта Піта Паўлава «Garadzkija».

Але трошкі пра траблы (ці няўдачы) альбома. На мой погляд, іх дзве. Гэта фолк-апрацоўка «Кузнічка», якая была запісана да мінулагодняга адборачнага конкурсу да «Еўрабачання». На жаль, музыканты спяшаліся і не поўнасцю выкарысталі патэнцыял народнай мелодыі, не змаглі з дапамогай аранжыровак падкрэсліць яе энергетыку і прыгажосць. Ды і сама «Кузнічка» больш стасуецца з якой-небудзь фолк-складанкай, чым з канцэптуальным альбомам. Кампазіцыя «Хрусць і папалам» зноў уздымае непрыемныя выпадкі адносін некаторых беларусаў у метраполіі да прадстаўнікоў нашай эміграцыі сталага веку. Калі на альбоме N.R.M. «Тры чарапахі» (2000 г.) сатырычны дыялог з аналагічнай назвай быў успрыняты з разуменнем, то новыя рэмінісцэнцыі на гэтую тэму выглядаюць недарэчнымі.

Лейтматывам альбома «Д.П.Б.Ч.» можа стаць песня, якая дала назву новай кружэлцы. Яна ўвасабляе і развітанне з былым, і крокі насустрач новаму пакаленню слухачоў, якія будуць складаць асноўную частку прыхільнікаў новага N.R.M. — гурта-«доўгажыхара» беларускай рок-сцэны, мадэрновага і бескампрамісна беларускага.

## Пра славянскую Атлантыду

Канцэрты айчынных экстрэмальных гуртоў апошнім часам адбываюцца не так часта. Гэтаму ёсць свае тлумачэнні: тут і арганізацыйныя цяжкасці, і адсутнасць канцэртных пасведчанняў, і музыка, якая часцяком не падабаецца тым, хто дае дазвол на канцэрты метал-каманд. Затое гэты змушаны канцэртны «перапынак» айчынныя экстрэмалы не губляюць дарма: працуюць у студыі, запісваюць новыя кампазіцыі і альбомы.

Вось і адзін з лідараў айчыннай paga-folk-metal-сцэны гурт «Камаедзіца» зрабіў падарунак слухачам Беларусі, Украіны, Нямеччыны. Менавіта там цяпер можна паслухаць іх навінку — альбом «Чалавек Планеты», які быў спачатку выдадзены ў Кіеве, а пасля з дапаўненнямі быў паўтораны нямецкім выдавецкім лэйблам «Wewelsburg records».

Нямецкія прадзюсары альбома дадалі да праграмы дыска спецыфічны трэк ад «Камаедзіцы» — музычны гімн «Дух ваяра» (на рускай мове), які быў запісаны да спаборніцтваў па змешаных баявых адзінаборствах М1, што праводзіцца пры спонсарстве аднаго з сусветна вядомых вытворцаў спартыўнай вопраткі.

І вось беларускі, магутны і энергетычна насычаны pagan-folk-metal «Камаедзіцы» з альбомам «Чалавек Планеты» праз інтэрнэт і шырокую еўрапейскую дыстрыбуцыю стаў набыткам еўрапейскай музычнай супольнасці (мо таму і ўсе назвы кампазіцый альбома пададзены на англійскай мове, я ж буду перакладаць іх у нашу мову).

Якія ж ідэі і філасофскія асэнсаванні нясе экстрэмальная музыка вядомага беларускага гурта? Бадай што так: без моцы сваіх каранёў ты не можаш асэнсаваць сваё месца ў Сусвеце. Пра гэта ў кампазіцыях «Свет ты робіш сам», «Свет каляровы, а не руды». Горыч ад страт універсальных каштоўнасцяў цывілізацыі, а з ёй і пачуцця Роднай Зямлі, трывога за лёс чалавечага, самага дарагога, што засталося ў душы лірычнага героя, яго рашучасць адстойваць усё, што засталося нам у спадчыну…

Канцэптуальны працяг і развіццё ўсяго таго, што было створана музыкантамі ў альбомах «Дзеці лесу», «Пяруне», выразна адчуваецца ў тэкстах (аўтар — лідар гурта Люты) і музыцы такіх кампазіцый, як «Калі змагу ўбачыць Новы Світанак», «Дакраніся да кветкі свайго сумлення». А вось лірычны бок творчасці гурта адлюстраваны ў кампазіцыі «Каханай». Яна вылучаецца пранізлівай мелодыяй, якую дасканала выканаў на гітары Арцём і пранікнёна праспяваў Люты.

Гэтыя песні могуць лічыцца паказальнымі, бо ў іх ёсць кантраст, які дамінуе ў песеннай творчасці гурта «Камаедзіца», як у мелодыях, так і лірыцы, выкананні. Цікава, што на альбоме арганічна пераплецены і жорсткія рыфы pagan-folk-metal, электронны hard-core з энергічным гроўлінгам, баладныя спевы. А таксама інструментальныя кампазіцыі, якія прадстаўлены такімі п'есамі, як загалоўная кампазіцыя «Чалавек Планеты» ці рытмізавана-мінімалісцкай кампазіцыяй «Там, дзе жыве Сонечны Прамень»…

Амбівалентнасць, дваістасць значэнняў некаторых узораў лірыкі гурта (скажам, калі музыканты крытычна ставяцца да ліберальных «выкрунтасаў»), пазітыўны нацыяналізм музыкантаў дае падставу некаторым звышпільным слухачам і інтэрнэт-тролямі абвінавачваць гурт ледзь не ў прыхільнасці да «расавай чысціні». Мы ж маем справу з чарговым артпраектам, які музычнымі сродкамі абвяргае такія закіды ўдзельнікам калектыву.

## Лёс Барбары Радзівіл

З'яўленне на айчыннай рок-сцэне гурта «LitvinTroll» было ўспрынята беларускімі слухачамі як новая арыгінальная музычная з'ява. І гэта не дзіва: у склад традыцыйнага metal-гурта былі ўключаны дзве беларускія дуды (на іх саліравалі лідар гурта А. Апановіч і дудар, аўтар тэкстаў В. Верабейчыкаў), якія надалі гучанню гурта незвычайныя рысы, вылучылі «LitvinTroll» з шэрагу аднатыпных каманд.

Услед за першай кружэлкай гурта «Rock'n'Troll» (2008 г.), якая была прыхільна сустрэтая крытыкай і слухачамі, музыканты падрыхтавалі і выдалі новы дыск, які адразу стаў заўважнай падзеяй на беларускай «цяжкай» рок-сцэне.

Трэба нагадаць, што выхаду альбома папярэднічалі трагічныя падзеі — гібель падчас metal-фэсту ў Гомелі басіста «LitvinTroll» Алега Клімчанкі. Таму новую працу музыканты прысвяцілі свайму сябру і далі альбому містычную назву «Чорная Панна». Дый сама праграма пачынаецца з кампазіцыі пад назвай «Да сябра». Яна адметная гармоніяй сучасных электронных і старажытных інструментаў, рытмічных рок-рыфаў і акустычных пералівау беларускіх дудаў.

Адно з мацнейшых уражанняў альбома «Чорная Панна» — квазі-балада «Крыжак» («Песня пра Троляў II»), якая захапляе слухачоў жахлівым, злобным і, адначасова, сцёбным тэкстам пра прыгоды троляў-ліцьвіноў. Гэтая кампазіцыя — цудоўны прыклад сінтэзу сучаснага medieval' і гітарных metal-рытмаў.

Працягам гэтай важнай для гурта тэматыкі можна лічыць і «Каралеўскую» песню, тэкст да якой стварыў Васіль Верабейчыкаў, выступіўшы на альбоме як асноўны тэкставік гурта.

У тэксце да песні «Чорна Панна» Васіль асэнсаваў вобраз і трагічны лёс Барбары Радзівіл. З гэтага матэрыялу і змрочна-таямнічай мелодыі і аранжыровак атрымалася вельмі атмасферная кампазіцыя, якая быццам вядзе слухачоў па залах Нясвіжскага палаца XVI стагоддзя.

Сярэднявечна-арыстакратычную тэматыку музыканты «LitvinTroll» працягнулі шыкоўнай інструментальнай п'есай «Ad Astra» («Да зор»), у якой салірую цыстра, на якой грае А. Апановіч, і флейта М. Шарый з гурта «Стары Ольса».

Фолк-старонку альбома «Чорная Панна» адчыняе даволі пацешная апрацоўка народнай песні «Камарова смерць», у якой А. Апановіч дэманструе віртуозны спеў-рэчытатыў. Народная тэматыка мае працяг і ў народнай песні «Ліпка», якая выконваецца на польска-беларускай мяшанцы.

Тое, што новы дыск гурта «LitvinTroll» атрымаў высокую адзнаку крытыкаў і слухачоў, займае вядучыя месцы ў хіт-парадах і аглядах, невыпадкова. Сваім першым альбомам «Rock'n'Troll» музыканты гурта ўзнялі дастаткова высока творчую планку і падвысілі яе яшчэ вышэй.



LitvinTroll. Чорная Панна




N.R.M. Д.П.Б.Ч.



Камаедзіца.Чалавек Планеты

▸ **СПАДЧЫНА**

# СТАНЬКАВА: АДРАДЖЭННЕ ЎЗАРВАНАЙ ЦАРКВЫ

**Лявон ЦЕЛЕШ**

**У 7 кіламетрах ад Дзяржынска месціцца вёска Станькава, вядомая з канца XV стагоддзя, калі князь Радзівіл пабудаваў тут уніяцкую Петра-Паўлаўскую царкву.**



Сённяшні выгляд царквы, фота аўтара



Храм у рыштаваннях, 2008 г., фота невядомага прыхаджаніна

З 1772 года Станькаўскі маёнтак стаў належаць Чапскім. У 1858 годзе графам Эмерыкам фон Гутэн-Чапскім на месцы, дзе стаяла ўніяцкая царква, была пабудавана Свята-Мікалаеўская царква.

Граф Эмерык Чапскі займаў у царскай Расіі высокія пасады: быў губернатарам Вялікага Ноўгарада, віцэ-губернатарам Санкт-Пецярбурга, дырэктарам Лясного дэпартаменту Расіі. Па веравызнанні — католік. Тым не менш, ахвяраваў грошы на пабудову праваслаўных цэркваў. Не толькі ў Станькава, а яшчэ і ў мястэчку Койданава (зараз Дзяржынск), у вёсках Дабрынёва і Возера.

Аўтарам праекта Станькаўскай царквы быў архітэктар Канстанцін Тэн, па чарцяжах якога ўзводзіўся Крамлёўскі палац і храм Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Шэсць гадоў будавалася царква, і на свята Успення Багародзіцы (28 жніўня 1858 года) яе асвяціў архіепіскап Мінскай епархіі Міхаіл (Галубовіч).

***

Царква стаяла над возерам, поўным гарлачыкаў і лебядзіных пар. Першым святаром быў протаіерэй Мікалай Трускоўскі, будучы архімандрыт, гісторык, пісьменнік. Затым з 1833-га аж да 1918 года святаром быў протаіерэй Фёдар Чарняўскі.

З прыходам да ўлады бальшавікоў святары і царква падпалі гвалту і разбурэнню. У 1920-я гады ў храме служыў айцец Мікалай Атавараў, расстраляны ў канцы 1920-х гадоў. Апошнім святаром быў іерэй Ілля Мэндзік, якога бальшавікі расстралялі ў 1936 годзе: царкву закрылі, а ўся сям'я святара была рэпрэсаваная.

Бальшавіцкія жорны бязлітасна перамалолі і жыццёвы лёс протаіерэя Фёдара Чарняўскага і яго сям'ю. Хату яго нацыяналізавалі, сям'ю выселілі ў хаціну вартаўніка. Праз год пасля пазбаўлення сану Фёдар Чарняўскі памёр. Яго дзве дачкі, Ганна і Ксенія, былі замужам за святарамі, якіх у 1930-х гадах арыштавалі і расстралялі. Дачка Валянціна выйшла замуж за Фёдара Сулкоўскага, які паходзіў з духоўнага саслоўя і якога таксама арыштавалі, саслалі ў Сібір і расстралялі.

Валянціна злегла і не ўставала 30 год, да самай сваёй смерці. Яна набыла шырокую вядомасць як прадказальніца і лекарка. За суцяшэннем і дапамогай да яе прыязджалі з усіх куткоў Беларусі, дый не толькі. 6 лютага 2006 года Валянціна Сулкоўская была кананізаваная царквой як святая Валянціна Мінская. Сёння яе магіла, што знаходзіцца каля вёскі Крысава, што на Дзяржыншчыне, стала месцам масавага паломніцтва.

***

Пасля закрыцця Свята-Мікалаеўскай царквы ў 1936 годзе ўсё каштоўнае, што было ў ёй, разрабавалі, большасць ікон спалілі, а званы пусцілі на пераплаўку. З царквы стварылі збожжасховішча, а ў часы вайны — сховішча боезапасаў, якія аднойчы і бухнулі. Пасля вайны царкву зноў прыстасавалі пад збожжасховішча, але аднойчы ў выніку навальніцы зерне згарэла, і храм доўгі час пуставаў.

Вясной 1961-га прарвала драўляную плаціну, што перагароджвала раку Рапусу. Для ліквідацыі аварыі быў задзейнічаны Станькаўскі вайсковы гарнізон, камандаванне якога атрымала загад узарваць царкву, і гэтым матэрыялам адрамантаваць плаціну. Пасля двух моцных выбухаў сцены храма ацалелі. Толькі пасля трэцяга выбуху вайскоўцы з дапамогай танкаў і стальных тросаў расцягнулі сцены царквы.

Толькі ў 2006 годзе, пасля кананізацыі Валянціны Мінскай, было атрымана дабраслаўленне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта на адраджэнне храма.

У 2008 годзе мне давялося наведаць Станькава і пабачыць пачатак рэстаўрацыйных работ. У размовах з жыхарамі я даведаўся, што найбольшымі рупліўцамі па адраджэнні храма былі аўтар праекта рэстаўрацыі, архітэктар, гісторык і мастак Алег Масліеў, а таксама прыхаджанкі Тамара Казей і Святлана Кароткая.

Храм адраджалі на ахвяраванні прыхаджан. Частку сродкаў выдзелілі экзархат і мясцовыя ўлады. Ахвяравальнікам выдавалі пасведчанне на імянную цагліну, якая з напісаным на ёй прозвішчам укладалася ў сцены царквы. Ёсць сярод іх і мая з жонкай Людмілай цагліна.

***

Нядаўна я наведаў Свята-Мікалаеўскую царкву. Знадворку будынак царквы выглядае так, як ён быў адлюстраваны на фотаздымку пачатку XX стагоддзя. Уражвае і ўнутранае ўбранства храма. З аўтарам праекта адраджэння, Алегам Ігаравічам Масліевым, мы размаўлялі на самым даху царквы, дзе ён з рабочым ліквідаваў недаробкі. Адсюль, з вышыні, адкрываецца прыгожы далягляд на наваколле Станькава, на возера, на якім, як і больш за сто гадоў таму, плаваюць лебядзі. У яснае надвор'е нават Мінск бачны. У самім храме і вакол яго яшчэ шмат нязначных недаробак, якія плануецца выканаць да лета. Асвячэнне адрэстаўраванага храма плануецца правесці ў чэрвені.

На зімовага Міколу, 19 снежня 2013 года, у амаль адрэстаўраваным Свята-Міхайлаўскім храме адбылося першае набажэнства.

Станькава, яго царква, прыгожы старажытны парк ператвараюцца ў сімвалы адраджэння Беларусі.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 128

Падпісана да друку 31.01.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.